## У НУМАРЫ



*

*веру ў сэнс невыказны*
*і ў хвілях разьлітую ласку*
*увaходзячы ў лес*
*апавіты туманам густым*
*... і сплятае гушчар нада мной*
*непамысную казку*
*асьвячоную ў роспачы*
*Імем Тваім*

*г. д.*

**Рэдактар: Ірына ДУБЯНЕЦКАЯ Мастак нумару: Алена ТКАЧОВА** **© УНІЯ, 1995**

ЧАСОПІС ХРЫСЬЦІЯНСКАГА СУМОЎЯ № 4




## МАЛІТВА ДА ІМЯ ІСУСАВАГА з Малое падарожнае кніжыцы Франьцішка Скарыны. Вільня, 1522

Владыко господи ісѹсе христе царю сотворителю ибоже нашъ, имѧ твое свѧтое при зываемъ, итобе самолимъ ісѹсе сыну пречистое девицы марие• ісѹсе единое ипревечное слово бога ѿца• ісѹсе совокѹпление илюбов свѧтаго духа• ісѹсе создателю ангель ского естества• ісѹсе спасителю роду челове ческаго• ісѹсе прогони телю бесовства всѧкого• ісѹсе помилуймѧ повели цѣй милости твоей• ісѹсе очисти безаконие мое попремножествѹ щедротъ твоихъ• ісѹсе ѿпѹсти всѧ грехи мoѧ• ісѹсе прийми ѿмене молитвы сие• о пре сладъкий ісѹсе• о прѣлю бый ісѹсе• о прѣтихий ісѹсе, тобѣ славу воз сылаемъ соѿцем ипре свѧтымъ духомъ, вовеки вѣкомъ аминь.

Госпадзе Уладару Ісусе Хрысьце, Творча і Божа наш, мы клічам імя сьвятое Твае і молім-ся Табе: Ісусе, Сыне ўсячыстае Дзевы Марыі; Ісусе, адзінае і спрадвечнае Слова Бога Айца; Ісусе, супольнасьць і любоў Духа Сьвятога; Ісусе, творча анельскай прыроды; Ісусе, Збавіцелю роду людзкога; Ісусе, прагавіцелю бесаўства ўсякага: Ісусе, зьмілуйся нада мною ў вялікай міласэрнасьці Тваёй; Ісусе, ачысьці беззаконьне маё ў бязьмежнай дабраце Тваёй; Ісусе, адпусьці грахі мае; Ісусе, прымі гэтыя малітвы мае: О, салодкі Ісусе! О, любы Ісусе! О, ціхі Ісусе! Табе славу аддаем разам з Айцом і Усесьвятым Духам на вякі вякоў. Амін.

Пераклад на сучасную мову а.Аляксандра Надсана.

## Якуб КОЛАС

* * *

У іскрах зьмярканьня
Ружовага зьзяньня
Дзянёк на спакой адплывае,
Дзянёк замірае,
Дзянёк спачывае
З усьмехам ясным каханьня.
І вочы Венеры
Празь цёмныя дзьверы
Зірнулі лагодна, прыветна,
І ноч незаметна,
Бы ўдоўка ўсясьветна,
У вэлюм адзелася шэры.
Выпоўзваюць мрокі
На тыя суткі,
Дзе неба зьлілося зь зямлёю,
Ідуць грамадою,
Трасуць барадою,
Бы страшаць дзянёк яснавокі.
А месяц двурогі
З далёкай дарогі
Спусьціў на зямлю свае ніці.
Блішчыць на ракіце,
І ціха па жыце
Туман прапаўзае бязногі.
Зямля занямела.
У лесе нясьмела
Ачнецца лісток на галіне.
І зьнічка ў глыбіне
Мільгне і загіне —
Пагасьне сьлядок яе белы.
І мрок і блісканьне,
Спакой і дрыжаньне
Зьліліся ў суладныя тоны.
У цемры зьніканьня
Ёсьць іскры сьвітаньня —
Разумнае волі законы.

*З паэмы "Сымон-музыка"*
1923 г.





# ПАКРЫТЫ ЗЬЗЯНЬНЕМ, БЫЦЦАМ ВОПРАТКАЮ

## Казаньне а. Аляксандра Надсана на сьвята Перамяненьня Хрыстовага

Маю клопаты з маім гадзіньнікам: ён не паказвае сапраўднага часу. Вось, напрыклад, сядзіш на нейкай канфэрэнцыі і слухаеш нудны даклад на тэму, якая цябе не цікавіць. Час цягнецца паволі, і ты ня можаш дачакацца канца. Глянеш на гадзіньнік — і ня верыш вачом: ад пачатку мінула толькі дзесяць хвілінаў... Затое як хутка ляціць час у прыемным таварыстве!

Ня ведаю, які гадзіньнік меў сьвяты Пётра, і ці меў ён яго наогул. Ведаю толькі, што і ў яго былі непаладкі з часам. Да прыкладу, тое здарэньне на гары Табор, куды Хрыстос узяў яго разам з двума іншымі апосталамі, Якубам і Янам. Уражаны тым, што там убачыў, Пётра ўсклікнуў: "Добра нам тут!.." Не пасьпеў ён гэта сказаць, як усё зьнікла і настаў час вяртацца назад, да штодзённага жыцьця і клопату.

Што ж такое адбылося на гары Табор, што так уразіла Пётру? Евангельле кажа каротка: *Праз шэсьць дзён Ісус узяў з сабою Пётру, Якуба і ягонага брата Яна, і завёў іх на высокую гару. Там Ён перамяніўся перад імі. Твар Ягоны зазьзяў, быццам сонца, а вопратка стала белая, як сьвятло. І вось зьявіліся Майсей і Ільля і размаўлялі з Ім... Сьветлая хмара агарнула іх, а з хмары пачуўся голас: Гэта Сын Мой любы, якога Я ўспадабаў. Яго слухайце!* (Мц 17:1-3, 5).

Перамяненьне займае асаблівае месца ў зямным жыцьці Хрыста. Яно мае шмат супольнага з Ягоным хрышчэньнем. У абодвух выпадках Ён паказаў сябе тым, кім Ён ёсьць — спрадвечным Богам, і Ягоная Боскасьць была пацьверджаная голасам згары: "Гэта Сын мой любы".

Хрышчэньне Хрыста адбылося напачатку Ягонага служэньня. І вось мінула амаль тры гады ад часу, калі Ён пачаў навучаць і казаць пра набліжэньне валадарства Божага, пацьвярджаючы словы свае цудамі і аздараўленьнямі, і прыгатоўваць маленькую грамаду абраных вучняў да далейшае працы — несьці Ягонае вучэньне ўсім народам. Наперадзе чакала Яго самае вялікае выпрабаваньне: арышт у Ерусаліме, несправядлівае абвінавачаньне, зьдзек і мукі, крыжовая сьмерць і ўваскрошаньне на трэці дзень. Гэтыя дні будуць таксама выпрабаваньнем для Ягоных вучняў — выпрабаваньнем іхняй любові да Хрыста і вернасьці Яму.

І вось Хрыстос, перад тым, як гэта здарылася, захацеў паказацца некаторым з вучняў у славе свае Боскасьці. Падчас хросту Ян Хрысьціцель сьведчыў аб Ім, што Ён — чаканы Збаўца і Адкупіцель сьвету. У падобны спосаб у час перамяненьня прысутныя Ільля і Майсей сьведчылі, што Хрыстос — спаўненьне старазапаветных прароцтваў і Закону. Больш таго, Ільля, як вядома, быў узяты жывым у неба, Майсей быў прадстаўніком старазапаветных праведнікаў, якія ў апраметнай чакалі прыйсьця Хрыста, а апосталы прадстаўлялі зямное чалавецтва. Такім чынам, у перамяненьні Хрыстос явіў сябе Уладаром і Госпадам усяго стварэньня.

Пра само Боскае зьзяньне, у якім аб'явіўся Хрыстос апосталам, Евангельле гаворыць вельмі мала. Відаць, апісаць яго нашымі словамі немагчыма. На ютрані ў сьвята Перамяненьня Царква сьпявае: "Некалі твар Майсея зазьзяў славаю, пасьля таго, як ён размаўляў у хмары з Богам. А Хрыстос пакрывае сябе зьзяньнем, быццам вопраткаю. Творца сьвятла, Ён прасьвятляе тых, што пяюць: усе творы гасподнія, блаславіце Госпада!"

У перамяненьні Хрыстос адкрыў вучням вышэйшую рэальнасьць, вечную й непрамінальную, што пераўзыходзіць бачную рэальнасьць гэтага сьвету. Гэтым самым Ён умацаваў іхнюю веру, каб ім не ўсумніцца і не пахіснуцца ў сваёй любові ў часе будучых выпрабаваньняў. Пра гэта ясна гаворыцца ў гімне (кандаку) на сьвята: "Перамяніўся Ты на гары, Хрысьце Божа, і вучні Твае ўбачылі славу Тваю, наколькі ім магчыма было, каб пасьля, бачыўшы Цябе ўкрыжаванага, маглі зразумець Твае дабравольныя цярпеньні і аб'явіць сьвету, што Ты сапраўды зьзяньне Айца".

Перамяненьне Хрыстовае мае для нас яшчэ іншае, асаблівае, значэньне. У перамяненьні Госпад паказаў красу чалавечае прыроды, злучанай з Боствам. Усрыняўшы нашую прыроду, Ён абагавіў яе, паклікаўшы нас усіх да ўдзелу ў Боскім жыцьці, быць дзецьмі Божымі. Такім чынам, перамяненьне Хрыстовае ёсьць і нашым перамяненьнем, бо й нашая прырода будзе прасьветленая зьзяньнем Боства пасьля Ягонага другога прыйсьця. Але для гэтага і нам трэба ўзыйсьці на "сьвятую гару", і пераадолець шмат цяжкасьцяў. І ў гэтыя цяжкія хвіліны нам, як некалі апосталам, прыйдзе на дапамогу непахісная вера і ўпэўненасьць у той рэальнасьці, да якой кліча нас Госпад.

Сьвята Перамяненьня вельмі дарагое для нас, беларусаў. У гэты дзень, 6 жніўня 1517 году, Францішак Скарына выдаў сваю першую кнігу, Псалтыр, даносячы такім чынам да нашага народу Слова Божае на зразумелай роднай мове.

Ужо ў нашыя дні, 6 жніўня 1990 году, у Менску адбылося сьвята "Уніі". У сапраўднасьці гэта было сьвята адраджэньня Беларускае Грэка-Каталіцкае Царквы пасьля доўгага перыяду перасьледаў і вынішчэньня.

Лёс нашае Уніяцкае Царквы непарыўна зьвязаны зь лёсам беларускага народу. Яна несла духоўную падтрымку большай часткі беларусаў у цяжкія часы выпрабаваньняў, і была зьнішчаная тымі самымі сіламі, якія адмаўлялі беларусам у праве на існаваньне. Дык зусім справядліва, што разам зь Беларусьсю адраджаецца і Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква, каб унесьці свой уклад у духоўнае жыцьцё свайго народу.

Скончым сьвяточным гімнам: "Прыйдзеце, узыйдзем на гару Гасподнюю, у дом Бога нашага, і ўбачым славу перамяненьня Яго, славу Адзінароднага ад Айца. Прымем сьвятло ад Сьвятла і з узьнёслым духам будзем славіць Тройцу адзінасутную на вечныя вякі".

*PS*. Ну добра, але прычым тут гадзіньнік? Перамяненьне адкрыла нам крыху неба зь ягонай невыказнай красою, дзе вечнасьць здаецца адной хвілінай. Тымчасам у другім месцы (куды ня дай Бог нам патрапіць) кожная хвіліна пераўтвараецца ў нясьцерпную вечнасьць...

Айцец Аляксандар Надсан
Лёндан, 1995 г.

*Творы Айцоў Царквы складаюць, бадай, найбольшую каштоўнасьць для хрысьціянаў усіх часоў. Пісаныя задоўга да вялікага царкоўнага расколу, яны адначасна адбівалі й фармавалі дух усяе Хрысьціянскае царквы. І цяпер спадкаемцамі Айцоў лічаць сябе і Каталіцкая Царква, і Праваслаўная, і большасьць плыняў Пратэстанцкае. Гэта нашыя агульныя вытокі. Эра Айцоў Царквы, паводле агульна прынятага меркаваньня, скончаецца Ізыдарам Сэвільскім († 636) на Захадзе і Янам Дамаскінам († 754) на Ўсходзе.*

*Тэксты Айцоў Царквы ня толькі сьведчаць пра найранейшыя этапы станаўленьня Хрысьціянскае Традыцыі, пра адстойваньне чысьціні Хрыстовага вучэньня ад шматлікіх гэрэзіяў, што разьдзіралі раньнюю Царкву, але і праз усе пазьнейшыя часы працягваюць праменіць жывое духоўнае сьвятло для ўсіх пакаленьняў.*

*Айцы Царквы і прапаведавалі, і практыкавалі актыўнае духоўнае жыцьцё і сьвятасьць, некаторыя зь іх станавіліся пакутнікамі за веру, пакінуўшы нам неперайзыйдзеныя прыклады мужнасьці й беззаганнасьці.*

*УНІЯ мяркуе знаёміць сваіх чытачоў з жыцьцёвымі подзьвігамі і тэкстамі Айцоў Царквы ў спадзяваньні, што й наш сучасны чытач знойдзе ў іх для сябе неацэннае духоўнае багацьце.*

# ПОДЗЬВІГ СЬВЯТОГА МАКСІМА

Максім Вызнаўца (580 - 662) прызнаецца адным з найболыш яркіх і адораных багасловаў VIIст. Жыцьцё ён правёў на Візантыйскім Усходзе, высокім аскетызмам і містычнай філасофіяй якога прасякнута ўся Максімава творчасьць, але нялёгкі ягоны выбар прывёў яго ў Рым, дзе ён прыбег да настаўніцкага аўтарытэту апостальскага пасаду. Пакутніцтва сьвятога Максіма лучыла ўсю Хрысьціянскую Царкву сваім адважным памкненьнем абараніць чысьціню веры.

Нарадзіўся Максім у Канстанцінопалю, у радавітай сям'і, атрымаў выдатную адукацыю, якая добра дадалася да ягонай прыроднай таленавітасьці. Доўгі час аддаў дзяржаўнай службе, у апошнія гады якое быў першым сакратаром цэзара. У пяцідзесяцігадовым узросьце пакінуў службу й прыняў пострыг. Хутка стаў ігуменам (абатам) Хрызаполісу (цяпер Скутара).

Неўзабаве ўспыхнула й стала набываць пагрозьлівыя памеры новая гэрэзія — монатэлізм (ад гр. θελημα — воля). Толькі-толькі Царква пагасіла апошнія ўсплёскі монафізіцтва, адной з буйнейшых гэрэзіяў, што сьцьвярджала адзіную Боскую прыроду Хрыста і адмаўляла Яму ў чалавечай прыродзе. Монатэлізм быў, фактычна, мадэрнізаваным монафізіцтвам. Прызнаючы дзьве Хрыстовыя прыроды, гэтае вучэньне сьцьвярджала наяўнасьць толькі адной Божай волі ў Хрыста, і адсутнасьць у Яго волі чалавечае. Гэтая гэрэзія пашыралася зь невераготнай хуткасьцю. Монатэлітамі былі два Канстанцінопальскія патрыярхі, Сергій і Пірг, цэзар Канстанцін II і ўвесь ягоны двор, а потым яго прыняла практычна ўся Усходняя Царква.

Максім разумеў усю небясьпеку новае гэрэзіі і ўключыўся ў барацьбу зь ёю, стаўшыся адным зь вядучых змагароў за чысьціню веры.



Фрагмент мазайкі "Імператар Юстыніян са сьвітай". Царква сьв. Віталя ў Равэне, VI-VII ст.

У 645 годзе ў Карфагене ён правёў славуты дыспут з патрыярхам Піргам у прысутнасьці многіх царкоўных ды сьвецкіх уладыкаў — і перамог. Ягонымі намаганьнямі царква ў Афрыцы на некалькіх лакальных саборах асудзіла монатэлізм, але цэзар працягваў яго ўпарта пашыраць.

Тады Максім паехаў у Рым і зьвярнуўся да папы Марціна I. У 649 годзе папа склікаў Латэранскі сабор дзеля канчатковага высьвятленьня пазіцыі Царквы. Сабор асудзіў монатэлізм і ягоных пасьлядоўнікаў і выразна сфармуляваў вучэньне пра дзьве волі Хрыста.

Гэта выклікала страшны гнеў цэзара Канстанціна II. Папу, Максіма ды двох ягоных вучняў арыштавалі й прывезьлі ў Канстанцінопаль. Марціна I саслалі ў Крым, дзе ён і памёр. Максіма паспрабавалі змусіць вызнаць гэрэзію, і за адмову зрабіць гэта асудзілі ў 655 годзе на сямігадовае выгнаньне. Праз сем гадоў Канстанцінопальскі сынод ізноў паспрабаваў прымусіць яго прыняць монатэлізм. Максім адмовіўся, і цэзар загадаў бічаваць яго, а потым вырваць язык і адцяць правую руку. Скалечанага 82-гадовага манаха адправілі ў выгнаньне на ўсходняе ўзьбярэжжа Чорнага мора. Катаваньне зрабіла сваё, і ў тым жа 662 годзе Максім памёр.

А монатэлізм бушаваў яшчэ два дзесяцігодзьдзі, пакуль Шосты сусьветны сабор (680 - 681) не пацьвердзіў урачыста асуджэньне гэрэзіі, якая пасьля гэтага назаўсёды зьнікла.

Максім жа застаўся настаўнікам хрысьціянскага багаслоўя, містыцызму, аскезы й філасофіі. Досыць шматлікія ягоныя творы здабылі яму славу аднога з найбольшых мысьляроў Усходняе Царквы.

Царква ўшаноўвае памяць сьвятога Максіма Вызнаўцы 13 жніўня.

Сьв. Максім ВЫЗНАЎЦА

# ПРА ЛЮБОЎ

## з чатырох сотніцаў выбраныя разьдзелы

*Зь першае сотніцы*

1. Любоў ёсьць дабратворны стан душы, калі яна між усяго існага нішто не знаходзіць гэтак вабным, як пазнаньне Бога. Але ў гэткі любасны настрой немагчыма прыйсьці прывязанаму да чаго-кольвечы зямнога.

6. Чый розум прылепіцца да Бога любоўю, той ні ў што ставіць усё бачнае, нават самое цела сваё, як бы чужое.

7. Калі душа ёсьць лепшаю ад цела, і непараўнана лепшым ад сьвету ёсьць Бог, Які яго стварыў: дык той, хто аддае перавагу целу над душою й створанаму сьвету над Богам, нічым ня розьніцца ад ідалапаклонцаў.

9. Калі жыцьцём розуму ёсьць прасьвятленьне веды, а гэтае сьвятло нараджаецца зь любові да Бога: дык хораша сказана, што няма нічога вышэйшага ад Боскае любові.

10. Калі, згодна з поклічам любові, розум узносіцца да Бога, тады ён ані сябе самога, анічога існага зусім не адчувае. Азораны Боскім нязьмерным сьвятлом, ён бясчуйнымы бывае да ўсяго створанага, падобна як і цялеснае вока да зорак па ўзыходзе сонца.

13. Хто любіць Бога, той ня можа не любіць і ўсякага чалавека як самога сябе, хоць і не прыяе жарсьцям тых, якія яшчэ не ачысьціліся. Таму, калі бачыць іхны наварот ды выпраўленьне, радуецца радасьцю нязьмернаю й невымоўнаю.

17. Шчасны чалавек, які ўсякага роўна любіць можа.

18. Шчасны чалавек, не прывязаны ні да якое рэчы тленнае й часовае.

19. Шчасны розум, які, мінаючы ўсё стварэньне, безупынна цешыцца Боскаю красою.

21. Хто ахоўвае цела сваё ад ласункаў ды хваробаў, той мае яго за памочніка ў служэньні лепшаму.

25. Як Бог, паводле йстоты літасны й справядлівы, усіх роўна любіць як Свае стварэньні, але дабрадзейнага праслаўляе як роднаснага Сабе й норавам, а пахібнага мілуе з ласкі свае (…): гэтак і чалавек дабрамысны й супакойны роўна любіць усіх чалавекаў: дабрадзейнага — паводле йстоты й за добрую волю, а пахібнага — як паводле йстоты, так яшчэ й са спагады, мілуючы яго як неразумнага, што ў цемры блукае.

29. Калі цябе зьняважылі альбо ў чым прынізілі, сьцеражыся помыслаў гняўлівых, каб яны, праз тую крыўду адлучыўшы цябе ад любові, не перасялілі ў валаду нянавісьці.

30. Калі цяжка церпіш праз ганьбу ці няславу, дык ведай, што ты вялікую з гэтага маеш карысьць, бо праз тое прыніжэньне провідным чынам выганяецца зь цябе пыха.

31. Як успамін пра вагонь ня грэе цела, так вера безь любові ня творыць у душы сьвятла веды.

34. Чыстаю ёсьць душа, якая пазбавілася жарсьцяў, і няўпынна цешыцца Боскаю любоўю.


Фрагмент мазайкі "Укрыжаваньне". Царква манастыра ў Дафні, XI ст.

35. Жарсьць вартая дакору як ненатуральны зрух душы.

36. Вольны ад жарсьцяў — гэта супакойны й суладны стан душы, у якім яна неспадобная скранущца на злое.

39. Не кажыце, што вы ёсьць хорамам Божым, вучыць Боскі Ярэмія (7:4). Не кажы й ты: адзіная вера ў Госпада нашага Ісуса Хрыста можа ўратаваць мяне. Бо гэта немагчыма, дакуль не ўзгадуеш і любові да Яго, учынкамі сьведчанай. Што ж тычыцца голае веры, дык *і злыя духі вераць і дрыжаць* (Якуб 2:19).

54. Калі хто, паводле слова Боскага Апостала, усе дары Духа мае, а любові ня мае, дык няма яму ніякае карысьці: то як жа ж мусім рупіцца аб дар любові (1 Кар 13:3).

70. Гэткі яшчэ ня мае дасканалае любові, хто ставіцца да людзей гледзячы па норавах іхных, аднога любячы, другога ненавідзячы за тое ці іншае, альбо аднога й тога самага часам за нешта любячы, а часам ненавідзячы.

71. Дасканалая любоў не разьдзяляе адзінае істоты чалавекаў паводле разнастайнасьці іхных нораваў, але заўсёды ўсіх роўна любіць: добрых любіць як сяброў, а нядобрых як ворагаў, дабрадзеючы ім, даўгацерпячы, зносячы ад іх прычынёнае, ніяк не адплочваючы ім злога, нават пакутуючы за іх, калі здарыцца нагода, каб і гэтых, калі магчыма, зрабіць сабе сябрамі; а калі й немагчыма, яна ўсё ж не адступаецца ад свае да іх спагады, усё адно зьяўляючы плён любові ўсім чалавекам. Так і Госпад наш і Бог Ісус Хрыстос, зьяўляючы Сваю да нас любоў, пацярпеў за ўсё чалавецтва, і ўсім роўна падараваў надзею ўваскрошаньня, хоць урэшце кожны сам сябе робіць годным альбо славы, альбо мукі пякельнае.

72. Той, хто ў нішто цэніць славу й няславу, багацьце і ўбоства, уцехі й нягоды, не дасягнуў яшчэ дасканалае любові. Дасканалая любоў ня толькі ўсё гэтае ў нішто цэніць, але й самое часовае жыцьцё й сьмерць.

79. Міласьціна лекуе ўзрушлівую частку душы, пост — высушвае пажаду, малітва ачышчае розум і рыхтуе яго да сузіраньня існага. Бо згодна з моцамі душы даў нам Госпад і запаведзі.

85. Як птушка, прывязаная за лапку, пачаўшы ўзьнімацца ўгору, сьцягваецца зноў на зямлю, бо яе трымае вяроўка, гэтак і розум, што не асягнуў яшчэ супакою, хоць і ўскрыльвае да пазнаньня рэчаў нябёсных, але, трыманы жарсьцямі, сьцягваецца зноў на зямлю.

88. Калі ў часе малітвы не даймае розуму твайго ніякая думка жыцьцёвая, — ведай, што ты ня звонку вобласьці супакою.

91. Вялікая вартасьць не хінуцца да рэчаў, але значна большая — быць супакойнаму да іхных уяваў: бо праз помыслы бітва з намі злых духаў болей жорсткая за бітву праз самыя рэчы.

94. Выкананьнем запаведзяў розум вызваляецца ад жарсьцяў; духоўным сузіраньнем бачнага вызваляецца ад жар-

сных аб рэчах помыслаў; праз пазнаньне нябачнага адхінаецца ад сузіраньня бачных рэчаў; нарэшце, праз пазнаньне Сьвятое Тройцы, — і ад самога веданьня рэчаў нябачных.

100. Калі ж бывае ў Бозе, дык найперш з палымянае любові шукае ўразуменьня істоты Ягонае, але суцяшэньне знойдзе пры гэтым не з пазнаньня тога, што ёсьць у Ім, бо гэтага ня можа зьмясьціць ніводная створаная істота, а суцяшаецца пазнаньнем тога, што вакол Яго, як то: вечнасьці, бязьмежнасьці, неапісальнасьці, лагоды, мудрасьці й моцы ўсядзейнае, усяпровіднае і ўсясуднае. І тое толькі ў Ім кожны спасьцігае, што Ён бязьмежны; і самое пазнаньне неспасьцігласьці Ягонае ёсьць ведаю, што пераўзыходзіць розум, як сказалі мужы моцныя ў багаслоўі — Рыгор і Дзяніс.

### *З другое сотніцы*

7. Хто што любіць, той да тога й горнецца ўсяляк, і ўсё, што паўстае перашкодаю, адхінае, каб улюбёнага свайго ня страціць. Так і той, хто любіць Бога, клапоціцца пра чыстую малітву, і любую жарсьць, што чыніць у гэтым перашкоду, зь сябе выкідае.

8. Хто маці жарсьцяў — самалюбства — адпрэчыць, той, з Божаю дапамогай, лёгка адкіне і ўсе іншыя жарсьці: гнеў, сум, злапамяць ды іншае. Хто ж апанаваны першым, той, хай сабе й міжволі, падуладны й астатнім. Самалюбства ж ёсьць жарснаю любоўю да цела.

36. Ва ўсіх нашых учынках Бог глядзіць на намер: ці для Яго робім іх, ці зь якое іншае прычыны.

39. Хто спазнаў немач істоты чалавечае, той праз досьвед спазнаў і Божую сілу дапаможную. І, дзякуючы ёй ужо нешта здолеўшы, а другое стараючыся адолець, гэткі ніколі ня ганіць нікога зь людзей. Бо ведае, што, як яму дапамагла яна й выбавіла ад многіх пакутаў і бедаў, гэтак здольная дапамагчы і ўсім, калі ўсхоча (…); хоць і, згодна зь нейкімі лёсамі, усіх раптам ад пакутаў не вызваляе, але, як добры й чалавекалюбны Лекар, кожнага, хто зьвяртаецца да Яго, ацаляе ў свой час.

42. Калі прыйдзе да цябе неспадзеў спакуса, не вінавац тога, праз каго яна прыйшла, а шукай, дзеля чаго яна прыйшла, — і выправішся. Бо ці праз яго, ці праз каго іншага, але ты мусіў выпіць гаркоты з келіха лёсаў Божых.

61. Найвышэйшы малітаўны стан асягаецца, кажуць, тады, калі розум у часе малітвы бывае паза целам і сьветам, зусім бязрэчыўны і безуяўны. Хто захоўвае такі стан непарушным, той сапраўды безупынна моліцца.

62. Як цела, паміраючы, цалкам адпадае ад усіх жыцьцёвых рэчаў: гэтак і розум, паміраючы ў дасканалай малітве, адлучаецца ад усіх жыцьцёвых турботаў. І калі не памірае ён гэткаю сьмерцю, дык з Богам быць і жыць зь Ім ня можа.

93. Сьмерць уласна ёсьць аддаленьне ад Бога; джала ж сьмерці — грэх; і Адам, прыняўшы яго ў сябе, адразу быў выгнаны і ад дрэва жыцьця, і ад раю, і ад Бога, наступствам чаго неабходна зьяўлялася й цялесная сьмерць. Жыцьцё ж уласна ёсьць Той, Хто сказаў: Я ёсьць жыцьцё (Ян 14:6). Той, Хто, быўшы ў сьмерці, увазьвёў у жыцьцё мярцьвянага.

96. Даліна ценю сьмяротнага ёсьць жыцьцё чалавечае. І той, хто з Богам і з кім Бог, можа сьмела сказаць: дык нават праходзячы далінаю ценю сьмяротнага, не збаюся напасьцяў, таму што Ты са мною (Пс 22:4).



Фрагмент мазайкі "Укрыжаваньне". Царква манастыра ў Дафні, XI ст.

100. Калі розум ацярэбіцца ад жарсьцяў, і прасьвятліцца сузіраньнем існага, тады можа ён і ў Бозе быць і маліцца, як належна.

### *З трэцяе сотніцы*

4. Ня ежа зло, але ненаеднасьць; не дзетараджэньне, але блуд; ня грошы, а срэбралюбства; ня слава, але пыха. А калі так, то няма ў існым зла, апроч злоўжываньня, якое здараецца ад нядбаньня розуму пра выхаваньне натуры (душэўных моцаў і добрага іх накірунку).

14. Не прымервайся да слабейшых людзей, а лепей пашырайся згодна з запаветам пра любоў. Прымерваючыся да людзей, падаеш у бездань пыхлівасьці; а пашыраючы сябе ў меру любові, дасягаеш вышыняў мудрае пакоры.

25. (…) Таму й сказана, што чалавек створаны да вобразу й падабенства Божага: створаны да вобразу, як існы — існага, як вечны — вечнага, хоць і не беспачатны, але бясконцы; створаны да падабенства, як добры — добрага, як мудры — мудрага, тым бываючы паводле ласкі, чым Бог ёсьць паводле йстоты. Вобразам Божым ёсьць усякая йстота разумная, падабенствам — адныя добрыя й мудрыя.

26. Усё сьвядомае й разумнае быцьцё падзяляецца надвое, — менавіта, на Анёльскую й чалавечую існасьці: і ўся існасьць Анёльская падзяляецца зноў на два галоўныя духоўныя зьвязы й супольствы, на сьвятое й праклятае, або на Сьвятыя сілы і нячыстых дэманаў; і ўвесь род чалавечы падзяляецца толькі на два грамадствы, менавіта, на дабрачынных і злачынных.

56. (…) жарсьці скоўваюць розум рэчамі цялеснымі й хіляць яго долу, налягаючы на яго, нібы цяжэнны камень, тады як розум паводле свае прыроды лягчэйшы й танчэйшы за вагонь.

58. Як бацькі крэўныя песьцяць тых, што ад іх нарадзіліся, гэтак і розум песьціць свае думкі; і як раўнівым бацькам свае дзеці здаюцца з усіх найбольш сьціплымі й прыгожымі, хоць яны й па ўсім былі б найбольш посьмеху вартыя: гэтак неразумнаму розуму свае думкі здаюцца з усіх самымі разумнымі, хоць і былі б яны самымі недарэчнымі. Мудраму ж не здаюцца такімі свае думкі, а нават калі й сьведчаньне мае, што яны справядлівыя й добрыя, тады тым болей не даўяраецца свайму суду, а іншых мудрых стаўляе судзьдзямі сваіх думак і развагаў, ці не надарма цёк або цячэ (Гал 2:2); і ад іх прымае пацьверджаньне.

63. Хто спадобіўся пазнаньня Бога й сапраўды скаштаваў слодычы гэтае, той пагарджае ўсімі насалодамі, якія родзяцца з пажаднае сілы.

72. Бог стварыў нябачны сьвет і бачны, і душу й цела таксама Ён стварыў. І калі бачны сьвет гэткі цудоўны, то які ж нябачны? І калі той лепшы ад гэтага, то наколькі лепшы ад абодвух іхны творца Бог? І, калі Творца ўсіх дабротаў лепшы за ўсё створанае, дык чаму розум пакідае ад усяго найлепшае й займаецца ад усяго найгоршым: жарсьцямі цела? Хіба не відавочна таму, што прызвычаіўся да гэтага, маючы стасункі зь ім ад нараджэньня, а таго, што найлепшае й



працяг на с. 42

# ІМЁНЫ ЛЮБОВІ

У сьвеце, падзеленым і множным, любоў — гэта аднаўленьне еднасьці і паўнаты, жывая вада, што насычае рэчыўнасьць духам, вобраз адзінага Творцы ў створаным. Усе адносіны любові, што існуюць у людзкім сьвеце, у рэшце рэшт зводзяцца да ўсеабдымнай, збаўчай любові паміж Богам і чалавекам. Узаемны рух Боскага і чалавечага пачаткаў насустрач раскрывае ўнутраныя якасьці кожнага пачатку і нараджае Агапу і Эрас — любоў Боскую і любоў чалавечую.

Класічная грэцкая мова мае чатыры словы для вызначэньня любові. Στοργη *(сторгэ)* азначае прыхільнасьць ці замілаваньне, φιλια *(філія)* — сяброўства і ўзаемную любоў, ερος *(эрас)* — жаданьне блізкасьці і, нарэшце, αγαπη *(агапэ)* — слова, што называе любоў у Новым Запавеце — цярплівае і трывалае імкненьне прынесьці шчасьце іншаму без увагі на ўзаемнасьць. З гэтых чатырох Агапа і Эрас вызначаюць пачатак і канец спектру, праменнае і адлюстраванае сьвятло вялікае Любові, што трымае сьвет. Традыцыя шмат якіх эўрапейскіх моваў захоўвае слоўна-сэнсавы падзел, бінарнасьць у вызначэньні любові рознага кшталту: *amore і carita* ў італьянскай мове, *amar і querer* у гішпанскай, *kochanie і milość* у польскай, *любов і обич* у балгарскай, *любоў і каханьне* ў беларускай. Пры ўсёй розьніцы сэнсавых адценьняў, мадэльлю падзелу ў кожным выпадку ёсьць суадносіны Любові зямной і нябёснай, Эрасу і Агапы.

У тэалогіі Агапа адпавядае Боскаму аб'яўленьню, прасьвятленьню, што даецца ласкаю і верай, а Эрас — містыцызму зь ягоным страсным імкненьнем да Бога і паяднаньнем-шлюбам душы з Найвышэйшым. **Андэрс НІГРЭН** у кнізе *Агапа і Эрас* (New York, 1953) выбудоўвае антытэзу паміж любоўю-Эрасам і любоўю-Агапай:

|  — гэта прагнае жаданьне мець |  — гэта ахвяраваньне |
|---|---|
| ЭРАС імкнецца ўгару. | АГАПА сыходзіць згары. |
| ЭРАС — шлях чалавека да Бога. | АГАПА — шлях Бога да чалавека. |
| ЭРАС — чалавечае намаганьне: ён сьцьвярджае, што збаўленьне чалавека дасягаецца ім самім. | АГАПА — Божая ласка: збаўленьне даецца Боскаю любоўю. |
| ЭРАС — эгацэнтрычная любоў, найвышэйшая, найвысакароднейшая і найболыш велічная форма самасьцьверджаньня. | АГАПА — бескарысьлівая любоў, яна "не шукае свайго", але аддае сябе. |
| ЭРАС імкнецца авалодаць жыцьцём, жыцьцём боскім, несьмяротным. | АГАПА жыве Боскім жыцьцём, і таму не баіцца "страціць"яго. |
| ЭРАС — жаданьне атрымліваць і мець, што паўстае ад нястачы і патрэбы. | АГАПА — воля аддаваць, што сыходзіць ад багацьця і паўнаты. |
| ЭРАС — перш за ўсё *чалавечая* любоў; Бог ёсьць *аб'ектам* Эрасу. Нават калі Эрас стаецца любоўю Бога, за мадэль ён мае любоў чалавека. | АГАПА — перш за ўсё *Божая* любоў: "Бог *ёсьць* Агапа". Нават калі яна ёсьць любоўю чалавека, Агапа мае за мадэль Боскую любоў. |
| ЭРАС залежны ад якасьці, прыгажосьці й вартасьці свайго аб'екту; ён не спантанны, але матываваны, ён "выклікаецца". | АГАПА не залежыць ад свайго аб'екту і скіраваная аднолькава да "зла і дабра"; яна спантанная, нематываваная, яна крынічыць няспынна. |
| ЭРАС *пазнае каштоўнасьць* свайго аб'екту і любіць яе. | АГАПА любіць — і *стварае каштоўнасьць* у сваім аб'екце. |

ІМЁНЫ ЛЮБОВІ

Ірына ДУБЯНЕЦКАЯ

# ...і перамяніўся перад імі...

Госпад хадзіў па зямлі. Нес людзям усю поўню любові Божае, аб'яўляючы Добрую Вестку нябёснага валадарства, што йзноў прыйшло да людзей. Хто зь верою, хто зь цікаўнасьцю, хто варожа слухалі Яго. Разам зь Ім, за Ім, хадзілі шматлюдныя натоўпы ды лавілі кожнае слова, рух, жэст у прагным чаканьні цуду. Бліжэй за ўсіх — Дванаццаць, каго Ён сам паклікаў і каму раскрываў глыбінныя сэнсы свае навукі. Яшчэ бліжэй — Пётра, Якуб ды Ян, абраньнікі Ісусавы, якім было адкрыта яшчэ больш у Ягонай вялікай містэрыі.

Што разумелі яны, гэтыя людзі, сучасьнікі Ісусавы? Як адгукалася ім Боскае слова, калі яны крычалі "Гасанна!" Уваходзячаму ў Ерузалім, і калі з тым самым аднадушшам крычалі "укрыжуй Яго!"?..

А Госпад хадзіў па зямлі, ацаляючы яе адною сваёй прысутнасьцю, і ласка Божая, што зыходзіла ад Яго, атуляла й прасьвятляла ўсіх навокал.

Нам ня выпала слухаць Госпада ля ног Ягоных, і ласка Ягонае непасрэднае блізкасьці не спачыла на нас. Але, ведаем мы гэта ці не, верым ці сумняемся, — Ён заўсёды ў кантакце з намі. Нам засталося Ягонае Дабравесьце — Сьвятое Пісаньне, занатаванае чатырма евангелістамі. Што ёсьць гэты тэкст, якую моц мае, якія найвышшыя веды ўтрымоўвае?

Сам Госпад Ісус не пакінуў пісанага слова: усё Ягонае жыцьцё, кожнае імгненьне Ягонае было словам Божым, прамоўленым да нас, яўленым нам. І Евангельле ёсьць ня толькі словам пра ўчалавечанага Бога, але й словам Бога.

І калі мы чытаем яго, мы далучаемся да сьвету самога Ісуса і стаемся сьведкамі й вучнямі Ягонымі, суправаджаем Яго ў Ягонай дарозе, слухаем Яго. Тэкст Евангельля адкрывае нам магчымасьць прычасьціцца найвялікшае тайніцы быцьця, і, магчыма, убачыць тое, чаго не заўважылі Ягоныя сучасьнікі, што засталося неспасьцігльным і для абраньнікаў Ягоных. Гэтая Кніга разгортваецца перад усімі. Мы мусім "разгарнуць", раскрыць сябе насустрач ёй, не прапусьціць нічога, каб упусьціць у сябе ўсю невымернасьць Боскае праўды. Не да розуму найперш, але да духу чалавечага прамаўляе Пісаньне, і не праз розум, але праз дух, веру перацякае ў людзей ды пасяляецца ў іх Слова Божае. Але ж сустрэчны рух да Бога мусіць быць сьвядомым, і гэтак жа сьвядомым мусіць быць кожнае чытаньне Евангельля. Не чалавеку зразумець Бога, але чалавеку — імкнуцца да гэтага. Інакш нельга.

Старыя містыкі вылучалі чатыры ўзроўні разуменьня сьвяшчэннага тэксту, сумоўя з тэкстам: літаральны (падзейны), алегарычны (пачуцьцёвы, пошук аналогіі), сымбалічны (інтэлектуальны, пошук стоеных сэнсаў) і містычны (духоўны). Кожны зь іх трэба ў свой час адолець.

І вось ужо блізка дзьве тысячы гадоў Евангельле Хрыстовае прамаўляе да ўсяго людзтва. Безьліч разоў пракаментаваны ды інтэрпрэтаваны кожны біблійны верш. А чалавек усё шукае й будзе шукаць свае шляхі набліжэньня да вечнае тайніцы Божага Слова.

*1 І сказаў ім: сапраўды кажу вам, ёсьць некаторыя сярод тых, што тут стаяць, якія не зазнаюць сьмерці, пакуль ня ўбачаць Валадарства Божага, прыйшоўшага ў сіле.*
*2 І праз шэсьць дзён бярэ Ісус Пятра і Якуба і Яна ды ўзводзіць на гару высокую асобна іх адных; і перамяніўся перад імі.*
*3 І адзеньне Яго зрабілася бліскучым, ды такім белым, як сьнег, ды як валюшнік на зямлі ня можа выбеліць.*
*4 І зьявіўся ім Ільля з Майсеем, ды вялі гутарку з Ісусам.*
*5 І на гэта Пётра сказаў Ісусу: Раббі! добра нам тут быць; дык зробім тры скініі, Табе адну, Майсею адну і Ільлі адну.*
*6 Бо ня ведаў, што сказаць, бо яны напалохаліся.*
*7 І паўстала воблака, пакрыўшае іх, і з воблака выйшаў голас, які казаў: гэты ёсьць Сын Мой улюбёны, Яго слухайце.*
*8 І раптам, агледзеўшыся наўкола, нікога больш ня ўбачылі зь імі, апрача аднаго Ісуса.*
*9 І калі яны сыходзілі з гары, загадаў ім нікому не казаць, што яны бачылі, дакуль Сын Чалавечы не ўваскросьне.*

*Марк 9:1-9*

"Што гэта? што за новае вучэньне ўладарнае, што Ён і нячыстым духам загадвае і тыя слухаюцца Яго?"; "Хто ж Гэта такі, што й вецер ды мора слухаюцца Яго?"; "Адкуль у Яго гэта? і што за мудрасьць дадзеная Яму, што такія магутныя ўчынкі творацца Ягонымі рукамі?" — пыталіся людзі пра Хрыста, ды не знаходзілі адказу (гл. Мк 1:27; 4:41; 6:2). Вучні Ягоныя, што дзень пры дні хадзілі за Ім, таксама ня ў змозе былі ўсьвядоміць Ягонае місіі, хаця й верылі аддана Яму і вызнавалі Яго Хрыстом (Мк 8:29).

Цягам усіх сваіх узаемінаў з апосталамі Госпад Ісус выгадоўваў у іх належнае ўспрыняцьце Ягоных словаў і ўчынкаў, а таксама Ягонае прыроды. Ён ніколі не гаворыць ім адкрыта пра сваю Боскасьць, сваё Пасланьніцтва, ашчаджаючы іхную чалавечую волю: бо яны мусяць самастойна, уласным розумам, не зачараваўшыся Боскім аўтарытэтам, прыняць Яго й Ягоную Вестку пра Валадарства Божае, паверыць Яму — сваім вольным выбарам, сваёю вераю й сваім разуменьнем.

Але якраз веры й разуменьня ім і не стае. "Ці вы яшчэ не разумееце? Не ўсьведамляеце? Ці яшчэ скамянелыя вашыя сэрцы? Маеце вочы й ня бачыце, маеце вушы й ня чуеце? Ці вы не памятаеце?" — дакарае іх Ісус (Мк 8:17-18).

І усё ж Ён рыхтуе іх да іхнае будучае місіі, да самастойнага служэньня без аніякае дапамогі пасьля таго, як Ён пакіне гэты сьвет. Незадоўга да Крыжовага шляху ім даецца надзвычай моцнае сьведчаньне, кім ёсьць сапраўды Ісус, і які лёс ім падрыхтаваны, калі яны ўсё вытрываюць. Гэтае абʼяўленьне адбылося ў часе Гасподняга Перамяненьня.

Усе тры сінаптычныя Евангельлі расказваюць пра Перамяненьне (Мц 9:1-7; Мк 9:2-8; Лк 16:21-28). Блізкія па сюжэце, тры аповяды розьняцца і эмацыйна, і сэнсава. Тут гаворка пойдзе — ды ўжо й пачалася — пра тэкст Евангельля паводле сьвятога Марка, найстаражытнейшага з усіх, базавага для іншых евангелістаў, дасканалы, містэрыяльны тэкст, дзе кожнае слова займае сваё адзіна магчымае месца ў агульным дакладным малюнку.

У сьвятога Марка Перамяненьне Гасподняе ёсьць кампазіцыйна цэнтральнай сцэнаю ўсяго Евангельля і прыхаваным вяршынным момантам апавяданьня, ягонаю унутранай кульмінацыяй (пры тым, што ідэёвай, сэнсавай кульмінацыяй ёсьць, безумоўна, Укрыжаваньне).



## I

## *Тэкст:* Ініцыяцыя **ПРЫСЬВЯЧЭНЬНЕ АПОСТАЛАЎ**

Хрыстос перамяняецца ў прысутнасьці трох зямных сьведкаў, Ім самім абраных ды пакліканых. Евангельле пасьлядоўна, у кожны момант Перамяненьня скіроўвае ўвагу на апосталаў: Ісус узяў і ўзьвёў **іх**, і перамяніўся **перад імі** (в.2); зьявіўся **ім** Ільля з Майсеем (в.4); хмара пакрыла **іх** (в.7); яны ня ўбачылі нікога зь **імі**, апроч аднаго Ісуса (в.8). Іхная роля тут выразна пасіўная, яны больш гледачы як удзельнікі, аднак усё, што яны бачаць, дзеецца дзеля іх.

Бо тут, на высокай гары — ніжэй ад нябёсаў, але вышэй ад зямлі, паміж Боскімі вышынямі ды людзкім долам — адбываецца ініцыяцыя (прысьвячэньне) абраных апосталаў у Боскую Тайніцу.

Перад тым праходзіць шэсьць дзён (в.2), тэрмін, напоўнены безьліччу сэнсаў у Біблійнай традыцыі. Шэсьць дзён загадаў Бог чакаць Майсею кантакту зь Ім на Сынайскай гары (гл. Выхад 24:16). Шэсьць дзён — гэта і законныя гэбрайскія працоўныя дні перад суботай — сёмым, сьвяточным днём. Сёмы дзень належыць Богу (Вых 20:8). Гэта неабходны тэрмін унутранай падрыхтоўкі, ачышчэньня перад Богазьяўленьнем, і апосталы атрымоўваюць гэты час.

Бярэ Ён толькі трох вучняў сваіх. Дванаццаць былі абраньнікамі Ягонымі. Пётра, Якуб ды Ян — абраныя сярод абраных, унутранае кола апосталаў. Яшчэ двойчы ў Евангельлі Хрыстос



адкрываецца перад гэтымі трыма: калі абуджае да жыцьця памёрлую дачку Яіра (5:37) і калі йдзе на апошнюю сваю малітву (*"пакутная душа Мая ажно да съмерці"*) у Гефсіманіі (14:34). І аднойчы да іх далучаны Андрэй, і Госпад Ісус абʼяўляе ім чатыром на Аліўнай гары тайніцу спаўненьня часу й будучага прыйсьця Сына Чалавечага (13:3). У найбольш напружаныя вехавыя моманты кліча Ён самых абраных: ня ўсё адкрываецца ўсім (*"Вам дадзена ведаць таямніцы Валадарства Божага, а тым, зьнешнім, усё даецца ў прыпавесьцях; так што яны глядзяць і ня бачаць, слухаюць ды ня чуюць, і не навернуцца, і дараваныя ім будуць грахі"*, 4:11-13), нават ня ўсім Дванаццаці, але тым, хто можа ўмясьціць. І каго абраць, ведае толькі Ён.

І вось іх, пакліканых, прыводзіць Ісус на ведамае Яму месца. Ня проста прыводзіць — Ён іх **узводзіць**. Гэта ўзыход. У вышэйшасьць. **На гару высокую**. Гэтая гара ня ёсьць простым геаграфічным пунктам: ня маючы назвы[1], яна ўнівэрсалізуецца і стварае ўнікальную прастору містэрыі. Гэта — сакральны цэнтр сьвету, што лучыць зямлю зь нябёсамі.

---

[1] Ніводзін з евангельскіх аповядаў не канкрэтызуе месца Перамяненьня, аднак сталая традыцыя зьвязвае гэтую Падзею з гарой Табор (Фавор), што на паўднёвы захад ад Галілейскага мора. Сучасныя дасьледчыкі лічаць, што гэтая гара недастаткова высокая (крыху больш за 300 м), і больш верагодным месцам называюць гару Гэрмон (каля 2800 м) ці іншыя Галілейскія вяршыні.

Варта заўважыць, што гэта адзіная *высокая* гара ў Евангельлі, ягоны вертыкальны максімум. І проста "гара" узьнікае ў тэксьце ўсяго чатыры разы: двойчы ўзыходзіў Ісус на гару да Перамяненьня — калі абіраў Дванаццаць (3:13-14) ды адразу пасьля насычэньня пяці тысячаў пяцьцю хлябамі, перад хаджэньнем па моры (6:46); і двойчы пасьля Перамяненьня, але цяпер на пайменаваную, на Аліўную гару — згаданы ўжо выпадак з чатырма вучнямі ў 13:3, і пасьля Тайнае Вячэры, 14:26. Кожная "гара" ў Маркавым тэксьце азначае ключавы, пераломны момант; "высокая гара" Перамяненьня — сапраўды кульмінацыя.

Што ж адкрылася тром людзям на гэтай вяршыні? Ісус перамяніўся. Як? Якім зрабіўся Ягоны выгляд? І Мацьвей, і Лука распавядаюць пра аблічча Ісуса, выгляд якога зьмяніўся (Лк 9:29), і яно "зазьзяла, як сонца" (Мц 17:2). А тут, у Маркавым тэксьце, ясна адно: Ісус, якога апосталы ведалі дагэтуль, гэта ня ўвесь Ісус — вось Ён зьмяніўся, вось іншы Ісус узьнік перад сваімі ашаломленымі вучнямі.

Адзінае, што адкрывае евангеліста, гэта раптоўная іншасьць Ісусавае вопраткі: *адзеньне Яго зрабілася бліскучым, выключна белым*... Якраз тое, што могуць успрыняць чалавечыя вочы. І тое, што пэўным чынам адпавядае традыцыі, узгадаваўшай ды сфармаваўшай трох назіральнікаў. Бель належыць нябёсам, Боскаму сьвету; бель — гэта дух; гэта колер чысьціні й сьвятасьці: біблейскія праведнікі як узнагароду за сьвятое сваё жыцьцё атрымоўваюць белае адзеньне. Але апосталы бачаць, што Ісус, жывы, вось тут, каля іх, стаіць у бліскучых белых строях, немагчымых, небывалых на гэтым сьвеце (*валюшнік на зямлі ня можа выбеліць*): Боскія вышыні родныя Яму. Тое, што з Ісусам цяпер адбываецца, ня можа адбыцца ні з кім на зямлі.

Слова "белы" сустракаецца ў Евангельлі яшчэ толькі аднойчы (16:5), і таксама ў дачыненьні да адзеньня: юнак, што сядзеў ля пустое труны Ісуса і абвясьціў жанчынам Ягонае ўваскрошаньне, быў апрануты у белыя строі. Гэтая выразная моўная сувязь паглыбляе адчуваньне лучнасьці Ісуса з Боскім сьветам.

Два вялікія жыхары вышыняў зьяўляюцца поруч зь Ім: слаўны прарок Ільля, што, ня зьведаўшы сьмерці, быў узяты да неба (4 Цар 2:11), і Майсей, праз якога людзі атрымалі Боскі Закон, Майсей, які размаўляў з Богам і перажыў Перамяненьне, і твар ягоны зьзяў сьветла пасьля тое сустрэчы (Вых 34:29). І вось яны, абраньнікі Божыя, жывое ўвасабленьне Закону й Прарокаў, прыходзяць да Ісуса, да Таго, хто ёсьць спаўненьнем і Прарокаў, і Закону. Пра што была іхная гаворка? Евангельле ад Лукі расказвае, што зьместам размовы былі будучыя Ісусавы пакуты ў Ерузаліме (Лк 9:31), Марк жа пакідае гэта таямніцаю трох суразмоўцаў.

Рэакцыя людзей была зразумелая: яны спалохаліся. Але гэта ня просты страх. *Добра нам тут быць*, — кажа Пётра. Ласка Божага аб'яўленьня сыйшла на іх, і яны, не разумеючы што адбываецца, перажываюць экзістэнцыйнае шчасьце, момант поўні быцьця — страшна, але добра. *Давай мы зробім тры скініі*, — прапаноўвае Пётра, бо скінія (намёт, шацёр) ад часоў Выхаду будавалася для Бога, і Боская прысутнасьць, Шэкіна, напаўняла скінію. Гэта было як бы гарантаваньне Божае прысутнасьці[2]. І цяпер Пётра выражае іхную патрэбу працягнуць як найдаўжэй гэты незвычайны момант пераўзыходнае паўнаты.

А Марк тлумачыць: *бо яны ня ведалі, што сказаць*. Пётра не зразумеў, што гэтая Боская прысутнасьць ужо колькі часу ёсьць зь імі, і яны ходзяць зь ёю, і не патрабуе яна вызначанага месца. І хоць Пётра й прыйшоў да пэўнага разуменьня месіянства Ісуса (*Ты Хрыстос*, сказаў ён незадоўга да Перамяненьня, 8:29), ён ня ў стане асягнуць розумам, што гэта адкрываецца ім Боскасьць, якая ўжо ёсьць сярод іх.

І, як вышэйшае пацьверджаньне гэтага, сьветлая хмара ахінае іх. У Старазапаветнай традыцыі Бог зьяўляецца ў хмары, і часта менавіта на гары (Вых 16:10; 19:9,16; 24:15; 33:9; 40:34; Лев 16:2; Лікі 9:15; 10:53-34; 11:25; Ісая 4:5). Воблака пакрывае Бога, ахоўвае Яго ад вачэй, а вочы — ад немагчымага бачаньня (*бо чалавек ня можа ўбачыць Мяне й застацца жывым*, Вых 55:20). Пра будучае прыйсьце на хмары Сына Чалавечага ў славе скажа потым і сам Ісус (15:26; 14:62).

*Ёсьць некаторыя сярод тых, што тут стаяць, якія не зазнаюць сьмерці, пакуль не пабачаць Валадарства Божага, прыйшоўшага ў сіле*, — сказаў Хрыстос перад Перамяненьнем (в. 1). Валадарства прыйшло ў той момант, калі Хрыстос аб'явіўся ў славе сваёй. Гэта сапраўды было прыйсьце Валадарства, імгненны прарыў Правідэнцыйнага Быцьця ў сьвет людзей. І яны *не зазналі сьмерці* (нават сутыкнуўшыся з Богам), бо дзеля жыцьця, і жыцьця, прысьвечанага ў вечнасьць, адкрыўся ім Бог.

Вось яна, вышэйшая мэта і сутнасьць ініцыяцыі апосталаў: Боская хмара **ахінае** іх, гэта значыць, яны апынаюцца **ўнутры** яе, дапушчаныя ўвайсьці ў сэрца Нябёснага Валадарства. Валадарства прымае іх.

Голас, што выходзіць з хмары, адкрыта аб'яўляе ім Богасыноўства Ісуса: *гэты ёсьць Сын Мой улюбёны*. Тое, што чуў сам Ісус падчас свайго хросту ў Яна (1:11), чуюць цяпер зямныя сьведкі. Зьніклі раптоўна Ільля з Майсеем, і толькі Ён, адзіны, абраны, любы Сын

[2] У памяць пераходу ў Абяцаную зямлю штогод сьвяткаваўся тыдзень скініяў (ад 15-га дня 7-га месяца), адно з трох буйнейшых гэбрайскіх сьвятаў.

Божы застаецца зь імі, і ўнікальная місія Ягоная сярод і дзеля іх: *Яго слухайце*... І гэтая місія яшчэ мусіць быць споўненая: Ён вяртаецца разам зь імі ў сьвет (в. 9).

На адно імгненьне прыўзьнялася заслона тайніцы, што ахутвала Ісуса. Ды йзноў апусьцілася. *Загадаў ім нікому не казаць, што яны бачылі*...

Яны, напаўсьвядома прысьвечаныя ў гэтую вялікую тайніцу, абіраюцца ахоўнікамі й захавальнікамі ейнымі ў сьвеце. І яны спусьціліся з гары... Долу.

## *Метатэкст:* Богазьяўленьне АБ'ЯЎЛЕНЬНЕ ЎЛАДАРА

Адбылося Богазьяўленьне. Боскі голас явіў людзям свайго Сына, Сыну явіў Айца. Раней, на Ярдане, падчас хросту Ісуса з Назарэту ў Яна (1:9-11), Бог аб'явіўся толькі Яму, знакам Яму[3]. Тут жа, на гары, Зьяўленьне адбываецца пакліканым людзям. А потым будзе трэцяе, стоенае Аб'яўленьне ў момант сьмерці Ісусавай, калі сотнік пазнае ва ўкрыжаваным Сына Божага (15:59). Гэта будзе першым і адзіным вызнаньнем Ісуса Сынам Божым вуснамі не Бога, не духаў, але чалавека (ды яшчэ ня з тых, хто быў з Госпадам і слухаў Яго, а рымляніна, паганіна, што, здаецца, мусіў быць найменш падрыхтаваным ды найменш зацікаўленым). На Ярдане было аб'яўленьне Бога-Айца Сыну, на гары Перамяненьня — аб'яўленьне Богам-Айцом Сына людзям, а на крыжы — аб'яўленьне Сына чалавеку, на самым універсальным і адначасова самым індывідуальным узроўню.

На Ярдане Ісус прыняў ад Айца Боскасьць (і стаў расьці ў Боскасьць) і пачаў сваё служэньне на сьвеце. У Богазьяўленьні на гары Ісус **разам зь людзьмі** ўваходзіць у хмару, як бы стаючыся адным зь іх, але пры гэтым і Сынам Божым: тут Ён уваходзіць у пік свае Боскасьці, яна тут праяўляецца. І, на вяршыні свае Боскасьці, Ён прымае на сябе ўсю поўню Людзкасьці. А Богааб'яўленьне на крыжы мяняе адносіны паміж Укрыжаваным і людзьмі: Памёршы як чалавек, у максімуме свае людзкасьці, Ён стаўся Сынам Божым для людзей; людзі, вызнаньнем сотніка, "вяртаюць" Ісусу Ягоную Боскасьць.

І калі для апосталаў шэсьць дзён — гэта перыяд падрыхтоўкі й ачышчэньня перад Богазьяўленьнем, то для самога Ісуса тыя ж шэсьць дзён былі хутчэй пераключэньнем. *Час споўніўся, наблізілася Валадарства Божае*... — так Ісус пачынаў сваё служэньне (1:15). Вечнасьць увайшла ў сьвет, пачаўся новы час. Шэсьць разоў мяняўся дзень ад пачатку Галілейскага служэньня і да ўзыходу на гару высокую. Тры разы з гэтых шасьці Марк непасрэдна гаворыць, што быў вечар — пачатак гэбрайскага (і літургічнага) дня (1:32-35; 4:35; 6:47), два разы — больш апасродкавана, што прайшло колькі дзён (2:1; 8:1-2), але і ў гэтых выпадках гэта адзінкавы рух часу апавяданьня; апошні раз завяршальны: *пасьля шасьці дзён* (9:2). Мы ня ведаем, колькі часу сапраўды Хрыстос правёў на зямлі, але гэтыя працяглыя шэсьць дзён да Перамяненьня ў Маркавым аповядзе адлюстроўваюць вечную тайніцу шасьці дзён тварэньня. Тут, на гары, у сёмы Божы дзень, незаўважаны нікім на зямлі, ізноў споўніўся час. З гэтага моманту ўключаецца хронометр. Пачынаецца як бы новы адлік часу. І ў гэтым новым вымярэньні час усё паскараецца; і потым, на крыжы, лік пойдзе ўжо на гадзіны.

Адсюль Ён пайшоў уніз, *спусьціўся з гары*, спусьціўся, каб узыйсьці на крыж. Уся дарога з гары Перамяненьня — гэта дарога да Галгофы, на пакуту. І яна ўжо пралічаная.

Але ад Перамяненьня да ўваскрошаньня дні таксама мяняюцца шэсьць разоў (11:11; 14:1; 14:12; 14:17; 15:42; 16:1). І ў сёмы Божы дзень, *вельмі рана, у першы дзень тыдня* (16:2), анёл аб'явіў Хрыстовае ўваскрошаньне, якое пачало новы час, і першы дзень новага тварэньня ўвайшоў на зямлю.

У Перамяненьні Хрыстос яўляе тое, што ўвесь час меў у сабе, Боскае сьвятло Сваё. Ён у вышэйшай сутнасьці Сваёй паказваецца людзям на зямлі. Як Бог, што ўжо прыйшоў. Ён быў сярод іх, але яны не пазналі. Вось і цяпер тры абраныя глядзяць, але ці бачаць. Ён іх вядзе, каб адкрыць ім Сябе і адкрыць ім неба. А нябёсы ім адкрываюць, хто Ён такі. Незалежна ад людзей, іхнага разуменьня ці неразуменьня, зьдзяйсьняецца провід, і тое, што мусіла адбыцца, адбываецца.

У арыгінале ў Марка Хрыстос не "перамяніўся", але *быў пераменены*, μετεμορφωθη. Не сам Ён пераменяецца, але прымае Перамяненьне, неназваны актыўны дзейнік тут — Бог. Калі ў дачыненьні да апосталаў Ісус ёсьць актыўным пачаткам, то ў дачыненьні да Бога-Айца Ён выканаўца. Пасіўная форма дзеяслова ўводзіць у тэкст увесь неспасьцігльны сьвет стасункаў Айца і Ягонага Хрыста (стасункаў, якія займаюць цэнтральнае месца ў Ісусавых маналогах Евангельля сьвятога Яна). Ісус узыйшоў на гару, каб і Яму адкрылася, каб на Яго сыйшло, каб зь Ім адбылося. Гэта і Ягоная ініцыятыва таксама. Ён прысьвячае апосталаў у Сваё прысьвячэньне. Для іх у Перамяненьні паказаўся Бог у славе, Яму Перамяненьне — зьмена шляху, пачатак дарогі на крыж.

Зьнешняй праяваю Ягонага Перамяненьня сталася белае адзеньне. Знакам на ўнутранае, стоенае, сутнаснае. Апосталы пабачылі бляск Ягоных строяў, прасьветленых зьзяньнем, для іх неўспрыймальным.

Аднак не дзеля апосталаў акцэнтуе Марк увагу на адзеньні, але дзеля істотнасьці гэтае зьмены

---

[3] У Евангельлі сьв. Яна Ян Хрысьціцель стаўся сьведкам Богааб'яўленьня Ісусу на Ярдане (Ян 1:32-34).

для Самога Ісуса. *Валюшнік*[4] *на зямлі так не выбеліць.* Адкуль ён узяўся, гэты валюшнік, суквальшчык, хто ён такі, і чаму ён мусіць нешта выбельваць? Магчыма, адказ ёсьць у міфалогіі: валюшнік — той, хто зьвязаны з сукном, воўнаю, поўсьцю, "валасацік", змрочны Валадар гэтага сьвету — шатан. І гэта ён прагне, але ня можа дасягнуць нябёснае белі й сьвятла Хрыста, хаця менавіта Ён прэтэндуе на тытул "сьветланосны", "праменны". Ягоная праменнасьць чэзьне перад Хрыстовым сьвятлом. І ў Перамяненьні прыхаваная спрэчка Хрыста зь нячыстым, што цягнулася ад самага хросту Ісусавага (сорак дзён спакусы ў пустыні, 1:15) праз усё Ягонае Галілейскае служэньне, дасягае сваёй кульмінацыі. Хто ёсьць Уладаром? Хто вышэйшы, а хто ніжэйшы, каму сапраўды належыць улада над сьветам?



Цяпер усё становіцца на свае месцы: сапраўдны Уладар сьцьвярджае Сваё першынства і выяўляе бясьсільле ўзурпатара, "валюшніка на зямлі". Бо ўлада Хрыстовая ад Бога, а таго, іншага, ад сябе самога.

І тут, у напятасьці непачатай яшчэ дарогі на крыж, усё, чым Хрыстос быў, і ўсё, чым Ён стане, сьцінаецца ў вадно: Настаўнік — Месія — Сын Божы — Ахвяра. І ўкрыжаваны за чужыя грахі будзе ня хто іншы, як Уладар сьвету.

Завяршылася ўзыходжаньне. Усё аб'явілася. Пачынаецца спуск.

У Евангельлі сьвятога Марка ўсё да Перамяненьня ёсьць узыходам, нарастаньнем Боскасьці Ісусавай, усё пасьля Перамяненьня — гэта спуск. Няўхільны сыход Уладара ў змрок, што пануе ў душах і ў сьвеце, па шляху нарастаньня Ягонае людзкасьці. Тут — **гара высокая**, зеніт Ягонае праяўляенае Боскасьці; там будзе **чэрапава месца**, пік Ягонае чалавецкасьці (нездарма Марк апускае згадку, што Галгофа — гэта гара, бо ў містэрыяльным Ісусавым вымярэньні яна стаецца надзірам).

## II

### *Тэкст:* Богазьяўленьне

## МІСТЭРЫЯ ХРЫСТА

Перамяненьне ёсьць кампазіцыйным цэнтрам Евангельля, і дзеліць яго на дзьве амаль роўныя часткі. Першая частка — пашырэньне Добрае весткі Хрыста, Ягонае Галілейскае служэньне. Ісус ідзе па Галілеі, вучыць у сінагогах, лечыць хворых; Ён рыхтуе *гэтае грэшнае пакаленьне* (8:38) і сваіх абраных да прыняцьця Ягонае місіі збаўленьня, зьмякчаючы цудам Сваёй прысутнасьці іхныя "скамянелыя сэрцы".

Перамяненьне адказала на пытаньне першай паловы Евангельля, хто такі Ісус. Хаця поўнага адкрыцьця Ісусавага сакрэту яшчэ не адбываецца. Ён захоўвае да часу Сваю месіянскую таямніцу. Увесь час Ён забараняў нячыстым духам, якія пазнавалі Яго, *казаць, што яны ведаюць, што Ён Хрыстос* (1:34). І калі вучні назвалі Яго Месіям, Ён таксама не дазволіў аб'яўляць гэта іншым (8:30). І нават тое, што пабачылі ды зразумелі апосталы, не павінна да часу аб'явіцца сьвету, ажно да Уваскрошаньня. Адказ атрыманы, аднак ня мусіць быць прамоўлены: яшчэ ня час. Валадарства ўжо тут, яно даступнае людзям, але і "не цяпер", не імгненна. Гэта парадокс Маркавага тэксту, "ужо ёсьць", але "не цяпер".

Пасьля Перамяненьня тэкст мяняецца нават рытмічна: усё нарастаючая ўнутраная напруга прарываецца і ў зьнешне нейтральную стылістыку аповяду. Усё набывае цяпер новую значнасьць. На гары Ён прыняў у Сябе зародак будучае пакуты, і гэта накладае свой адбітак на Яго самога й на ўвесь сьвет вакол Яго.

Перыяд падрыхтоўкі скончыўся. Ён нібыта ўсё той жа Настаўнік для сваіх вучняў, і адносіны паміж імі нібыта тыя ж самыя, але гэта толькі зьнешне, бо вучні ўжо **бачылі** славу Ягоную й **чулі** голас з воблака. Хай нават яны не

[4] Слова γναφευς, *валюшнік* ці *сукнавальшчык*, унікальнае ў Пісаньні. Але, праз незразумеласьць ягонага сэнсу для перакладчыкаў, многія пераклады замянілі яго словам *бялільшчык*.

зразумелі ўсяго, але новы вобраз Ягоны адкладзены ўжо ў іхнай сьвядомасьці: Ён не такі, як ім думалася, бо Ён перад імі **быў пераменены**.

Цяпер, калі Ён гаворыць, усё часьцей гучыць загадны лад, уладны тон, не зьмякчоны наступнымі каментарамі ці тлумачэньнямі: "Любіце адзін аднаго" (9:50); "Той, хто хоча быць першым сярод вас, хай будзе ўсім слугою" (10:44); "Майце веру ў Бога" (11:23); і, нарэшце, шматразова паўторанае "чувайце!", як апошні загад, апошні зварот да чалавечых душаў (13:33,35,37; 14:54,38).

Зьмена, якая ў Ім адбылася, міжволі мяняе й адчуваньне Яго людзямі. Як толькі Ён спусьціўся з гары да рэштк і вучняў і да натоўпу ўнізе, *увесь народ зьдзівіўся, і, падбягаючы, віталі Яго* (9:15). Чаго яны зьдзівіліся, яны ж Яго чакалі? Сьвятло Перамяненьня, зьмяніўшае Ісуса, прымусіла людзей успрыняць Яго па-іншаму і прывітаць, як Уладара. Яшчэ больш урачыста будуць яны вітаць Ягоны ўезд у Ерузалім (11:8-10); аднак разуменьня Яго ды Ягонае місіі ім так і не дадалося. Гэта адзінае, што засталося нязьменным — іхнае няведаньне, іхная духоўная сьлепата, "скамянеласьць" сэрцаў. Горш за тое, цяпер яна нават узмоцнілася, бо Ім усё **было паказана**.

Духоўная сьлепата блізкіх стаецца як бы знакам усё гусьцеючай вакол Яго цемры. Сьветлых момантаў і сьветлых людзей усё меней, ажно пакуль гэты сьвет не прысуджае Яго на крыжовую сьмерць, калі *цемра настала па ўсёй зямлі...* (15:35).

Усё часьцей вучняў палохаюць Ягоныя словы. На шляху з Галілеі ў Ерузалім Ісус сказаў пра будучыя пакуты, сьмерць і ўваскрошаньне Сына Чалавечага, і апосталы *зьдзіўляліся ў сэрцы сваім, але спытаць баяліся* (9:32). Чаму баяліся? Раней яны заўсёды прасілі тлумачэньняў. Потым ізноў, Ён іх вучыў, а яны *жахнуліся словам Яго* (10:24). Яшчэ бліжэй да Ерузаліму, *Ён ішоў наперадзе, а яны ў страху ішлі за Ім* (10:52). У самім Ерузаліме ў храме пасьля гаворкі з кніжнікам *ніхто ўжо не насьмельваўся Яго пытацца* (12:34). Бездань непаразуменьня паміж Ім і вучнямі расьце, і ўрэшце тры абраныя заснулі падчас самае напружанае Ягонае, самае пакутнае малітвы, калі ўсё ў Ім напята, і здрайца Ягоны набліжаецца (14:33-41); і ўсе вучні разьбегліся, кінуўшы Яго аднога перад тварам сьмерці, і Пётра тройчы выраксяЯго, і ніводны зь іх нават не наблізіўся да крыжа. Ісус стаецца ўсё больш і больш самотны. І ўсё больш трагічнай і велічнай робіцца Ягоная постаць.

## *Метатэкст:* Ініцыяцыя
## ПРЫСЬВЯЧЭНЬНЕ ЧАЛАВЕКА



Незадоўга да Перамяненьня Ісус упершыню вучыць пра непазьбежнасьць Сваіх пакутаў і сьмерці дзеля ўваскрошаньня (8:31). Першай Ягонай дзеяю па вяртаньні ў сьвет стала ацаленьне апанаванага нячыстым духам дзіцяці, ацаленьне, у якім Ісус правёў хлопчыка празь сьмерць і ўваскрошаньне (9:17-27). Непасрэдна перад узыходам на гару Ісус гаворыць з вучнямі пра сьмерць (9:1), а перад спускам — пра ўваскрошаньне (9:9). Тэмы сьмерці й уваскрошаньня так шчыльна пераплеценыя...

Момант аб'яўленьня Ісусавае Боскае славы як бы атачоны сьмерцю, Ён прарываецца праз сьмерць, узвышаецца над ёю, каб у фінале, пасьля сапраўднае крыжовае сьмерці, перамагчы яе канчаткова Ўваскрошаньнем. Сьмерць засталася ў сьвеце, але яна страціла сваю абсалютнасьць: Ісус-Бог — Ісус-Чалавек перамог ейную ўладу, раз і назаўсёды. Тое, што зьдзейсьнена адным Чалавекам дзеля ўсіх, стаецца даступным кожнаму. На гары Перамяненьня адбываецца містэрыя жыцьця й сьмерці.

Сьвятло жыцьця атуленае сьмерцю. Сьмерць заўсёды пільнуе жывых, але тут ідзе паляваньне на Самое жыцьцё, на Ісуса, дзе паляўнічым, носьбітам сьмерці, ёсьць валюшнік: нават у момант найвышшае Хрыстовае славы Ён застаецца на сцэне, у полі зроку, як вечны напамін пра змаганьне са сьмерцю. Бельлю адзеньня Ісус сьцьвердзіў сваю вышэйшасьць над уладаю сьмерці, але надта ж блізка яна ад Яго...

Але сьвятло Хрыстовага Перамяненьня не згасьне ў сьвеце. Само зьяўленьне Ягонае на зямлі ёсьць Перамяненьнем сьвету. Чалавек можа не заўважаць розьніцы паміж быцьцём сьвету да Хрыста і пасьля Яго, як не зразумелі апосталы Ягонага (ды й свайго) Перамяненьня, — бо чалавек сам не зьмяніўся: Ён **быў зьменены**. І цяперашні сьвет — гэта сьвет, ў якім аб'явіўся Бог.

Уся поўня Боскасьці сплавілася ў Хрыстовым Перамяненьні з усёю поўняю людзкасьці. Узяўшы на Сябе чалавечае, стаўшыся цалкам — да сьмерці! — чалавекам, Хрыстос даў людзям Боскасьць, абагавіўшы чалавека Сабою.

Так, усё Хрыстовае стала й чалавечым як і чалавечае — Хрыстовым. Дзьвюхпрыроднасьць Ісуса, яўленая ва ўсёй велічы ў Перамяненьні, адкрыла магчымасьць Перамяненьня для чалавека й для сьвету, магчымасьць глыбіннае лучнасьці зямнога зь нябёсным, людзкага з Боскім. Белае адзеньне Хрыста засталося сьвету.

Нябёсы прыйшлі да людзей, адкрыліся ім, дапусьцілі іх — бо сьветлая хмара Боская спусьцілася й ахінула трох людзей; без аніякага высілку зь іхнага боку, без аніякае іхнае заслугі. І цяпер нашым лёсам ёсьць (ці можа быць) *не памерці, не пабачыўшы Валадарства Божага*, што ёсьць тут, сярод нас, вакол нас, унутры нас. *"Хто вытрывае да канца, той уратуецца"*, — паабяцаў Ісус (15:13). І белае сьвятло вышыняў дасца яму. Перамяненьне Госпада ратуе ўсіх.



Казімір СВАЯК

# УНІЯ НА БЕЛАРУСІ

Расказаная ў часьці другой[1] нашае кніжыцы гісторыя Уніі ў Ваўкавыскім павеце мае характэр агульнейшы. Падобныя мэтоды наварачываньня спатыкаім усюды, бо ўсюды той-жа дух царскі гнаў да казёншчыны ў веры — да царaслаўя. Адбіраючы Унію, Расея наганяе Беларусаў у лацінізм, а з ім разам і ў польшчыну: падобне як калісь Польшча, наганяючы ўніятаў у сваю казёншчыну, акурат загнала іх у расейшчыну. Бачым вось, як небязпечна ўвадзіць палітыку сьвецкую ў адносіны рэлігійныя. Ня наша рэч судзіць тут палітыку ў гэтай справе старай Расеі ці даўнейшай Польшчы. Адна і другая збанкрутавала, бо адна і другая брала справу веры як срэдзтва да мэты дзяржаўнай: іначай кажучы для лягчэйшага паневаленьня слабога народу. А калі Беларус кідаўся ў другі бок, то яму казалі: "Ня рад мужык, што яго б'юць — ён яшчэ ножкамі перабірае". Добра характэрызуе той царскі нагон на Унію верш Багушэвіча: "Хрысьцілі мяне казакі з тутэйшага ды ў палякі". Ня дарма кажа беларуская прыказка, што "на беднага камара і шышкі валяцца". Нашу нешчасьлівую старонку лёс дзіўна спакушаў, кідаючы сюды-туды. То яна лучыцца з Літвой, то з Польшчай, то з Расеяй, то ізноў Бог ведае з кім: ня дзіва, што і дзея яе духа рэлігійнага была вечнай мандроўкай. Дасьць мо Бог, што зямелька наша здабудзе сабе самабытнасьць, тады творчасьць рэлігійная пойдзе шляхом родным, натуральным: простым і праўдзівым. Вучоныя будуць яшчэ спрачацца аб "filioque"[2], але народ: ён еднасьць здабудзе дарогай прасьцейшай.

Перш-найперш трэба нам людзей асьведаміць, што праўдзівая вера ня дзеліць, а спалучае. Шукайма душ… арганізуйма парафіі. Сьвячэньнікаў для Уніі дадуць ня толькі тыя духоўныя, што ў абрадзе ўсходнім прызнаюць папежа: успамогуць яе тако-ж лацінскія ксяндзы Беларусы, калі будзе патрэба. Гэта навет было б карысным, бо ў розвітку рэлігійна-абрадовым усьцерагло б ад цеснаты і бізантынізму, каторы спаралiжоўваў абрад славянскі, недапушчаючы ніякай эволюцыі (як гэта дзеіцца ў абрадзе лацінскім, каторы ўмее прыстасавацца да духа часу). Арганізуйце вось парафіі і дамагайцеся аддаўня цэркваў уніяцкіх, занятых пад іншы абрад. Адважна, хоць і ня вельмі сьпешаючысь, каб лішне не запудзіць тых, каму йшчэ ўсё сьніцца маскоўскі або варшаўскі пернік. Грошы ў нас ня шмат. На паноў ня можым лічыць, бо іх німа: служаць яны загранічнаму Дажбогу. Дай Божа ахвоту, а знайдзіцца і грошык, а тым вартаўнейшы, бо крывавы: сваім потам зароблены. Трэба пашыраць ідэю Уніі, еднаючы прыхільнікаў, стараючыся выратаваць рэлігійнае пісьменства. Узоры можым браць хоць ня ўсе, на Уніі ў Галічыне украінскай, гдзе яна ператрывала ўсё, зваліўшы шмат перапон. Часам здаецца мне, што нашу працу ў гэтай галіне жыцьця будзе шмат хто агідзіць. Мо навет будуць старацца здёрці Уніі беларускую вопранку, як гэта ўжо было раз на працягу яе гісторыі. Шукайма прычыну гэтага там, адкуль як з жарала выплывае цэлая наша нядоля. Гэта простая ненавісьць нашае самабытнай культуры і страх, што вось мы перастанем быць матэрыялам да чужых мэтаў, хоць бы ў справе веры. Але раз сонца паказалася над Бацькаўшчынай, асьвеціць кожны куточак: адродзіны ў кожнай галіне жыцьця пойдуць дарогай прыроднага розвітку, як вясною. А хоць бы нас спатыкалі няўдачы, то і так мы павінны споўніць свой абавязак, не адракаючыся аднаўляць духа нашае Бацькаўшчыны срэдствамі першай рукі. Кажуць, што калісь на сьвеце запануе адна мова найпрасьцейшая, адзін абрад рэлігійны найпекнейшы. Пакуль аднак гэта наступіць, высахніць не адно возера і рэка. Усё магчыма, хоць нет ведама хто гэтага даканае і як… І Хрыстус успамінаў аб "адной аўчарні і адным пастыру" і прыказаў маліцца, каб "прышло валадарства Божае". А мо гэта толькі лятуценьне містыцызму. Патрэбна была б доўгая эволюцыя ў зьбліжэньні ўсіх абрадаў, усіх народаў, усіх культур, асабліва маладых, што цяпер усходзяць і красуюць. А наша маладая культура пачынаіцца разам з Уніяй, а і ў прошласьці развівалася найбольш пры Уніі. Лацінскіх касьцёлаў беларускіх пакуль што няшмат. Але лік іх звялічываецца. Няхай толькі зьявіцца хоць адзін уніяцкі, а будзем бачыць як народ пачуе еднасьць па веры. Мова супольная паможыць зьбліжыцца. Разумее гэта, як чуваць, і айцец папеж у Рыме, а хоць і далёка нам да яго, аднак жа будзьма пэўнымі, што поможыць ён даць разгон справе Уніі.

Огляд Божы дапусьціў раздзелу-схізме разсесьціся на нашай сьлёзнай зямельцы, але ўхаваў Беларусаў ад суцэльнага вынарадоўленьня, насупроць палітыкі



"сільных сьвету гэтага". Калі ж ныні блыснула свабода для роднага краю, маем права і павіннасьць дамагаціся ўсюды роднае мовы дзеля Божай хвальбы: бяз рожніцы абрадаў усе, хто сын Беларусі. Ёсьць шмат такіх, што здаволены з мовы чужацкай па сьвятынях Божых. Пакіньма іх, калі можна, каб не збудзіць горшага зла: сваркі за мову. Аблуд іх пройдзе сам сабой, як убачаць мастацтва роднае формы і абраду. Мы тымчасам тварыйма і мысьлі новыя замыкайма ў формы рэлігійнай песьні, навукі, музыкі. Як Беларусы душой ніколі не пазволім, каб гэта ж душа наша выражалася прад Богам у форме чужацкай, хоць бы нет ведама як "цывілізаванай". Было б гэта, панашаму, крыўляньнем роднага духа. Творчасьць наша рэлігійная не павінна стрымацца. Зачалася яна разам з Уніей, а кончыцца хіба разам з намі! Поступ Уніі вяжыцца з істнаваньнем самой Беларусі. Есьлі лёс Беларусі спачне ў чужых руках, Унія зьйсьці можа на тую дарогу, па каторай яна раз дайшла да пагібелі. Нікаторыя зусільля праваруч і леваруч наводзяць нас на думку, што нашы "культуртрэгеры" маняцца нам накінуць такую Унію, каторая ня маючы карэньня ў роднай душы, магла бы стаціся прычынай новых змагань рэлігійнага шовінізму. Няхай Бог бароніць! Мы жадаемо Уніі для Беларусаў такой, каторая дала бы спосаб аб'еднаньня праваслаўных Беларусаў з каталіцкімі ў адной веры, а двух абрадах, а не такой, каторая стварыла б новы раздзел. Словам, па уніяцкіх цэрквах мы ня сьцерпім ані расейскай мовы, ані польскай: для Беларуса пабеларуску. Сьмеху было б варта, каб мы дачакаўшы сякэй-такой свабоды роднага краю, завадзілі ў ім чужыя ўзоры на сваю пагібель, — калі маем столькі бяды з заведзенымі даўней. Даволі нам і так цярпеньня з таго, што шмат лацінскіх Беларусаў, а йшчэ больш грэцкіх, звыкліся ўжо з чужацкімі мовамі і ня думаюць аб страшнай ненормальнасьці такога стану. Навет дзікім народам навуку аб Богу нясуць місьёнары ў іх роднай мове, а першым Апосталам Бог удзяліў цудоўнага дару, што мова іх была зразумелай усім, хоць была гаворана ў адной гутарцы. Мы, творачы асновы рэлігійнага жыцьця, ня можым даць пачатку дрэннага. А дрэнны быў-бы пачатак, еслі-б завялі мову чужацкую, бо пазьнейшыя пакаленьня — прышоўшы да нацыёнальнай сьведамасьці — мелі-б лішнюю бяду з дакананьнем змены… Дай Божа, каб хутчэй кончылася тое крывавае змаганьне за Беларуса між культурай польскай і расейскай на нашай "Богам забытай" зямельцы. Дай Божэ, каб і наша родная культура стала на davольнай вышыне і магла-б самавіта керуваць усімі праявамі нашага быту. Дай Божэ, каб абрад славянскі даў нам новае мастацтва беларускай мысьлі рэлігійнай, музыкі і слова. Дай Божэ, урадаві беларускаму зьвярнуці ўвагу на глыбокае значэньне Уніі для Беларусі і ня даці яе на паталу[3] бязверцам. Дай Божэ, зацьвіцеці Уніі на Украіне. Дай Божэ, спаўненьне слоў малітвы: "Прыйдзі валадарства Тваё, будзь воля Твая як на небе, так на зямлі…"

І скуль-жа чэрпаім нашу надзею, наш энтузыязм аб Уніі? З народу — з яго да глыбіні рэлігійнай душы, здатнай да адчуваньня праўды дарогай прасьцейшай, чым галаве запутанай у зманныя формулы шкалярства. Адродзіны нацыёнальныя Беларусі — як бачым — спачылі ў народзе пераважна сялянскім. Патомкі даўнейшае шляхты і часьць мяшчанства, для справы гэтай меней-болей засохлі, есьлі ўжо проста не скалавацелі[4]. У "простым" народзе пачывала тая энэргія, каторая ў нашых часах зацьвіла дзелам. Нігдзе ўпрочках ня шукаім і адродзін рэлігійных. Бо наагул кажучы людзцы нашы служаць фундамэнтам рэлігіі. Мяшчанства, сьледам буржуазыі, даўно ўжо перастала быць — як то кажуць — "забабонным". Патомкі даўнейшай шляхты — найчасьцей атэісты і рознага калібру няверцы — прыдзержываліся рэлігіі толькі дзеля практычнай патрэбы, прызнаючы, што ў аснове сваей рэлігія патрэбна толькі "простым"; што з ей помачы лягчэй утрымаць "стан посядания"[5]. Тымчасам чалавек "просты" верыў так, як вучыў Хрыстус: "Благаслаўлёныя, што церпяць прасьлед дзеля справядлівасьці". Вось гэты "люд просты" — народ беларускі — і збудзіць Унію: ён або ніхто. Будзе яна вызнавам натуральным яго духа рэлігійнага — духа, каторы ў глыбіні сваей не зламаўся прад згаршэньнем, якое далі вышэйшыя станы; дух, каторы моцны быў у змаганьні з царасляўсм; дух, каторага мучаніцтва не апісаў яшчэ ніхто.

* * *

Цяжкі быў лёс Уніі, але няхай гэта вас ня дзівіць. Даўней развівалася яна пад сільнай закваскай думкі палітычнай польскай. Вялікі пропагатар Уніі Пётр Скарга сам гэта прызнае: стараіцца ён праз Унію з'еднаці Русінаў на-заўсёды для Польшчы. У гісторыі Уніі дзіўна сплятаецца гэта думка палітычная з ідэй чыстай рэлігіі: пашырэньня валадарства Хрыстуса. Тая думка палітычная прынясла ўканцы мест згоды-разлад: узгорду да веры "хлопскае", а пасьля моцную полонізацыю, каторая была найслабейшай стараной Уніі, бо спраціўлялася самой натуры этнічнай Русінаў. Палітыка гэта аднак пачасьці дайшла сваей мэты. На сваіх рубяжох ("крэсах") Польшча мае даўнейшых уніятаў, каторыя лічаць сябе найчысьцейшымі Палякамі (Холмшчына і Падляша). Ня дзіва, што даўнейшая Унія, маючы ў сабе зарод сьмерці, не магла пасьля вытрымаць напору царызму і падалася згубе: ня



была абапёрта на прыродным грунце. Шмат Беларусаў махнула на ўсё рукой і пайшлі на службу казёншчыны. Іншыя аднак — калі не пайшлі ў рымскі абрад — затаіліся і чакалі лепшых часаў і... дачакалі, але ўжо ў пакаленьні, дзе традыцыя Уніі аслабела. Гэту традыцыю збудзіці выпала сучасным Беларусам. Што палітыка зрадзіла, тое згінула ад палітыкі: "Хто ваюе аружам, ад аружа гіне". Ані старая Польшча, ані старая Расея не пазнала праўдзівых намэтаў, зложаных у ідэі Уніі, бо тая і другая бралася крышку з бруднымі рукамі да гэтай справы. Адна мела дрэнны намер будуючы Унію, - другая йшчэ горшы, калі яе крышыла ўдрэбязгі. Унія на Беларусі павінна паўстаці з акту самавітага нашага народу, а не пад загадам чужой волі, каторая пастараецца паставіць яе не на грунт сваяцкі, але йзноў на капыл палітыкі. Беларусы павінны прылажыць цэлае зусільле, каб да такога паневаленьня не дапусьціці. А для завязаньня першага вузла аб'еднаньня, павінны ў беларускай школе вучыць аднаго катэхізму з літургікай абодвух абрадаў, бо абодва роўныя, і добрыя, і пекныя.

Беларус, прыбіты сумнай долей, страціць шмат, еслі стрымаіцца ад заявы праў сваіх культурна-рэлігійных у тым часе, калі іншыя народы голасна высказуюць усе недахваты ў арганізацыі касьцельнай. Нікаторыя, на нашу думку, ідуць аж задалёка. Славянцы, прымерам тым, дамагаюцца (як чуваць) у папежа літургіі сьв. Кырыла і Мэтодыя. Чэхі пайшлі йшчэ далей: жадаюць суцэльнага ўнарадоўленьня чэскага касьцёла. Куды-ж нам! Мы йшчэ мусім даказываць патрэбу роднай мовы ў зносінах рэлігійных... Адсталасьць ці недалужнасьць?! Вось і цяпер. Даўнейшыя уніяцкія цэрквы пайшлі на касьцёлы. Ну, няхай тымчасам! Але чаго-ж там госьціць мова чужая?! Як Беларусы ўсюды захавалі сваю родную мову і ня спольшчыліся, як-то для прыкладу Украінцы на Холмшчыне. У гэтым выпадзе трэ было-б дастасавацїся да права натуральнага, а не да права дужэйшага. Права-ж прыроднае кажа нам шырыць ідэі рэлігійныя ў роднай мове народу. Здаецца ня трэба і даказываць, што мы тут маем маральную павіннасьць адкрываць народу вочы, каб ён не даваўся ізноў "рабіць новы хрост" з "тутэйшага" ды ў чужакі — пры помачы рэлігіі, узятай за срэдзтва палітыкі казённай. Сумна нам аб тым і думаць і гаварыць, што на Беларусі рэлігію, праз цэлыя векі запрагалі ў каламашку палітыкі, каторая цягнула ў старану Масквы або Варшавы. Дзякуй Богу, што каламашка вывярнулася. Але ведай усё гэта ты, "брат сьлёзнавокі", і вызнавы свае парафі для дабра веры Хрыстовай і так-жа сваей айчыны, дзе мае наступіць аб'еднаньне братоў пасварэных і падзеленых.

Ныні, калі мы ўзяліся да будаваньня Беларусі з роднага матэрыялу душ русьняных, рэлігію нашу мусім ачысьціць ад нагнёту сілы чужацкай, што найглыбейшыя ідэалы падбіла пад ярмо сваей матэрыяльнай карысьці. Ці-ж ня сумна чытаць падручнікі гісторыі Уніі, выданыя з тэндэнцыей усходніх або заходніх "культурнікаў". Проста гідка. Адны абсьмехаюць усё наскае, хоць нат' сьвятое; другія чаўпуць як у малігне[6], што уніяты сваім мучаніцтвам баранілі польшчыну прад захланнасьцей расейшчыны. Так мучаніцтва за веру абернулі на мучаніцтва за палітыку. Мо гэта і было ў мясцох, гдзе і з Уніі зрабілася "польска вяра", прымерам на Падляшу. Аднак Беларус ведае за што церпіць. "Мы, кажа, падаткі плацім, рэкрута даём, але вера — гэта справа нашага сумленьня". Праўда, што Расейцы ў гэтым адпору бачылі "польскую інтрыгу" і няраз частавалі "бунтаўшчыкоў" назовам "польскае сабакі". Але гэта памяшаньне спраў палітычных з рэлігійнымі выплывала — як ведама — з таго дурнога распарадку, што трэба ўсіх каталікоў лічыць Палякамі, а уніятаў даўнейшых Маскалямі. Мы ўжо бачылі, як гэта палітыка помсьцілася пад Масквой коштам Беларусаў. Указы йшлі сваёй дарогай, а жыцьцё сваёй. Палітыка ў сваім грунце хацела разшчапіць Беларусаў на дзьве часьці і затапіць так іх у моры свайго ваюючага нацыёналізму, і то суцэльна, а значыць і з рэлігійным сьветаглядам. Жыцьцё йшло іначай і пад час вайны адна і другая старана прызнала, што аднак Беларус нешта ня тое, што яны думалі... Так, Беларус астанецца Беларусам, і думаючы аб яго рэлігійным аднаўленьні, апірайма сваю дзеяльнасьць на яго натуры самабытнай, а не на той, у якую стараліся і стараюцца адзець яго рахманыя апекуны.

26.X.1920

ЗАЎВАГІ

Гэты тэкст зьяўляецца трэцяй часткай трактата Казіміра Сваяка аб Уніі (першую частку гл. УНІЯ №3). Публікацыя захоўвае ўсе моўныя асаблівасьці арыгінала. Арыгінал уяўляе сабой 21 рукапісную старонку — белавы аўтограф — на беларускай мове лацінскімі літарамі.

1. Фрагменты гэтае часьці будуць друкавацца ў наступных нумарох часопіса УНІЯ.

2. Маецца на ўвазе формула Сімбалю веры.

3. У слоўніку В.Ластоўскага зафіксаваны дзеяслоў **паталаніць** у значэньні паручыць, пашчасьціць, ад якога, верагодна, утворана слова "на паталу", якое ўжывае К.Сваяк у значэньні "на ўдачу", "на волю".

4. У слоўніку Я.Станкевіча зафіксаваны дзеяслоў **скалавацець** у значэньні стаць цьвёрдым, каляным, які немагчыма сагнуць.

5. Тут у значэньні "сфэра ўплыву" (польск.)

6. У польскай мове выраз "mówic jak w malignie" азначае гаварыць абы што, трызьніць.



Малюнкі Андруся Пазьняка

Алесь Ліцьвін

# УСХОДНІЯ КАТАЛІЦКІЯ АБРАДЫ ПРАЗ СТАГОДЗЬДЗІ

Цэрквы ўсходняга абраду — гэта Цэрквы, чые духоўныя цэнтры знаходзіліся ва ўсходняй частцы Рымскае Імпэрыі, альбо тыя, што былі заснаваныя гэтымі ўсходнімі цэрквамі па-за межамі Імпэрыі ці пасьля ейнага існаваньня. Як вядома, па сьмерці імператара Феадосія I (395 г.) Рымская Імпэрыя была падзеленая на дзьве самастойныя часткі, Заходнюю і Усходнюю. Усходняя частка складалася з прэфектураў Ільлірык і Арыент, якія падзяляліся на драбнейшыя адміністрацыйныя адзінкі — дыяцэзы. Галоўныя грамадзянскія адміністрацыйныя цэнтры сталіся таксама і вядучымі царкоўнымі цэнтрамі. У трох юрысдыкцыях усходняе часткі Імпэрыі, а таксама па-за ейнымі межамі — ў Персіі ды Арменіі — разьвіліся пяць арыгінальных абрадаў, якія цяпер Рымская Каталіцкая Царква прызнае кананічнымі: александрыйскі, антыахійскі ці заходне-сірскі, візантыйскі, халдэйскі ці ўсходне-сірскі, армянскі (Motu proprio “Postquam Apostolicis”, канон 303, N1, §1). Тэрмін *абрад* (ritus) ужываецца ў гэтым кантэксьце ў шырокім кананічным сэнсе, у адрозьненьне ад вузкага літургічнага сэнсу (ritus liturgicus). Абрад, як трапна адзначыў заходні багаслоў Р.Тафт, гэта ўсё тое, што яднае чалавека з Богам.

Хрысьціянства аб’яднала вернікаў Рымскае Імпэрыі духам евангельскага вучэньня, але, накладзенае на нацыянальную глебу розных народаў, кожны зь якіх меў сваю старажытную гісторыю, традыцыі, этнічную сьвядомасьць, не захавалася адзіным. Цэлы комплекс палітычных, культурных, багаслоўскіх ды іншых прычынаў прывёў да адчужанасьці й расколаў у адзінай Хрыстовай Царкве. Хрысталагічныя гэрэзіі, што бушавалі на Усходзе ў V і VI стагодзьдзях, — нестарыянства, монафізіцтва ды ягоная памяркоўная форма монатэлізм, хаця й былі асуджаныя на III, IV і VI Сусьветных саборах адпаведна, але адкалолі ад Праваслаўнае Каталіцкае Царквы нацыянальныя Цэрквы ўскраінаў Рымскае Імпэрыі — Егіпту й Сірыі, а таксама Персіі і Арменіі.

У XI ст. адбылося разьдзяленьне Цэркваў, і кантакты паміж заходнімі Цэрквамі на чале з Рымскаю з аднаго боку і Канстанцінопальскім патрыярхатам, падтрыманым іншымі ўсходнімі праваслаўнымі Цэрквамі, з другога боку, перапыніліся. Гэты трагічны разрыў між хрысьціянамі Усходу й Захаду высьпяваў надзвычай доўга перад самім фармальным актам, і карані ягоныя цягнуцца ў рознасьць культураў і менталітэту абедзьвюх частак Імпэрыі, што выяўлялася ў дагматычных, эклезіялагічных ды абрадавых адрозьненьнях.

Рымская Царква, выпрацаваўшы ды сфармуляваўшы канцэпцыю першынства Рымскага першасьвятара, аснову царкоўнае еднасьці бачыла ў кантакце памесных Цэркваў з пасадам апостала Пятра і з гэтае прычыны рабіла актыўныя захады дзеля аднаўленьня хрысьціянскага адзінства паводле прынцыпаў уласнае папістычнае эклезіялогіі, зь якімі не пагадзіліся цэрквы Усходу. Асноваю Рымскае палітыкі яднаньня з усходнімі цэрквамі была палітыка уніяў. Гэтыя уніі маглі заключацца як на саборным узроўню, так і з асобнымі памеснымі Цэрквамі, ці нават з абшчынамі. Некаторыя посьпехі ў гэтым кірунку былі дасягнутыя: далучэньне маранітаў у 1181 г. і армянаў у Сірыі ў 1189 г. Але эпоха крыжовых паходаў, падчас якой рабіліся першыя спробы уніяў, непазьбежна паглыбляла супярэчнасьці паміж Усходам і Захадам. Заваяваньне крыжакамі Візантыйскае сталіцы Канстанцінопаля (1204 г.) і ўтварэньне Лацінскае Імпэрыі спрычынілася да працяглага пэрыяду варожасьці.

І нават добра падрыхтаваныя уніі паміж Цэрквамі Усходу і Рымам, заключаныя ў Ліоне (1294 г.) і Фларэнцыі (1439 г.), ня здолелі прывесьці да сапраўднага, трывалага міру. Дэкрэты аб узьяднаньні, падпісаныя на гістарычным тле пагрозы турэцкага захопу, былі дэнансаваныя і праваслаўнымі, і монафізітамі, і нестарыянцамі праз 28 гадоў пасьля разбурэньня Канстанцінопаля. Надалей спробы уніі аднаўляліся зноў і зноў, але ўжо не ў маштабах усіх Усходніх цэркваў як цэлага, а з кожнай пэўнай Царквою паасобку. У выніку цягам часу ўтварыліся розныя Усходнія Каталіцкія Цэрквы пяці асноўных абрадаў. Варта запыніцца на гістарычным шляху кожнага з іх.

# АЛЕКСАНДРЫЙСКІ АБРАД



Гэты абрад разьвіваўся ў старажытным Александрыйскім патрыярхаце. Ён ужываецца цэрквамі коптаў (аўтэнтычных хрысьціянаў Егіпту) і эфіопаў, большасьць зь якіх трымаецца памяркоўнага монафізіцтва сістэмы Сявіра Антыахійскага. Адносіны коптаў з Рымам заўсёды былі прахалоднымі, нават за часам візантыйскага панаваньня ў Егіпце. Крыжовыя паходы зрабілі гэтыя адносіны ледзянымі, асабліва пасьля захопу крыжакамі Дамаска ў 1219 годзе ды прызначэньня ў Александрыі лацінскага патрыярха. Аднак праз два стагодзьдзі паўстала пагроза мусульманскае экспансіі, і копты пачалі шукаць саюзу з Рымам. Праўда, спробы трох копцкіх патрыярхаў Яна I (1427-1453), Гаўрылы VII (1525-1568) і Гаўрылы VIII (1590-1610) злучыць Царкву Егіпецкую з Рымскай Царквой ні да чаго пэўнага не прывялі. Ад 1630 году пачалася актыўная місіянерская дзейнасьць каталіцкіх манахаў. Са згоды патрыярха місіянеры адпраўлялі ў храмах лацінскія багаслужбы ды прапаведвалі ў кляштарах Фіваіды і Нітрыі. У 1731 годзе папа Клімэнт XII прызначыў першага біскупа для коптаў-каталікоў з рэзыдэнцыяй у Ерусаліме. У 1834 годзе папа Леў XII пры актыўным удзеле французаў стварыў Копцкую Каталіцкую патрыярхію. У 1893 годзе ў Верхнім Егіпце копты-каталікі набылі дзесяць храмаў. Папа Леў XIII сваім апостальскім пасланьнем "Christi Domini" у 1895 годзе аднавіў Александрыйскі каталіцкі патрыярхат усходняга (копцкага) абраду, а Кірыл II Макарый быў урачыста абвешчаны Александрыйскім патрыярхам. Праўда, у хуткім часе ён быў змушаны сыйсьці ў адстаўку і перапыніць стасункі з Рымам. Патрыяршы пасад заставаўся вакантным ажно да 1947 году, і многія копты-каталікі вярнуліся ў монафізіцкую Царкву. 9 жніўня 1947 году Фівейскі біскуп стаў патрыярхам, прыняўшы імя Марка II. Ягоны наступнік Стэфан Сідарус у 1965 годзе быў узьведзены ў сан кардынала папам Паўлам VI. Цяпер Александрыйскім каталіцкім патрыярхам коптаў ёсьць Стэфан II Гаммас. Ягоная рэзідэнцыя месьціцца ў Каіры.

Епархіі: Асьют, Мінье, Тахта.

Ад 1839 году ў Тахце і ад 1879 у Каіры існуюць копцкія каталіцкія сэмінарыі. Ад 1859 году духавенства ёсьць бясшлюбным, за выняткам сьвятароў, што перайшлі з монафізіцкае Копцкае Царквы. Лік каталікоў-коптаў, паводле Папскага штогодніку за 1990 год складае 60 тысяч чалавек. (Annuario Pontificio per l'anno 1990, citta del Vaticano, 1990, p.4).

Эфіопская Царква, шчыльна зьвязаная з Царквою коптаў, свае першыя стасункі з Рымам усталявала ў перыяд крыжовых паходаў. Пры папу Яўгену IV (1431-1447) у Рыме была заснаваная абіцель для эфіопаў як першы вынік імкненьня эфіопскіх негусаў (цароў) да саюзу з апостальскай сталіцай. У 1431 годзе дэлегацыя Эфіопскае Царквы прыбыла ў Рым, а потым і на Фларэнцкі сабор.

У XVI ст. дзеля барацьбы з мусульманамі эфіопскія ўлады зьвярнуліся па дапамогу да партугальцаў, што кантралявалі афрыканскія берагі Чырвонага мора. Каталіцкія місіянеры прыбылі ў Эфіопію ўжо ў другой палове XVII ст., а папа Юлі III (1550-1555) прызначыў патрыярха Эфіопіі. Ім стаўся партугальскі манах езуіт Берэтто, аднак той, жывучы ў Індыі, так і не патрапіў пабываць у Эфіопіі. Пазьней патрыярхам стаў езуіт Пётра Раец, які прыбыў у краіну ў 1603 годзе. Ён зрабіў велізарны ўплыў на негуса Малак Сагада III, і той дамогся падпісаньня уніі з Рымам, што і адбылося 11 лютага 1625 году. Наступнік Раеца Альфонсо Мендэр пачаў праводзіць палітыку гвалтоўнае лацінізацыі Эфіопскае царквы і за гэта быў выгнаны з краіны. Кантакты з Рымам былі адноўленыя пры папу Рыгору XVI (1831-1846) у 1839 годзе. Дзякуючы актыўнасьці місіянераў лазарыстаў і капуцынаў у 1846 годзе Сьвяты Пасад заснаваў у Эфіопіі два апостальскіх вікарыяты. У 1860 годзе быў афармлены кананічны і дагматычны саюз з Рымам, паводле якога Эфіопская Царква захоўвала ўласны (александрыйскі) абрад. З 1951 году ў Эфіопіі існуе апостальскі экзархат, з 1961 — мітрапаліт, якому падпарадкоўваюцца біскупы Адзіграцкі і Асмарскі. Патрыярх (па-эфіопску абуна, што значыць бацька), рэзыдэнцыя якога ёсьць у Адыс-Абебе, зацьвярджаецца папам.

Лік каталікоў-эфіопаў да 1960 году быў каля 40 тыс. чалавек, а ў 1960, пасьля далучэньня Эрытрэі, дадалося яшчэ каля 82 тыс. (М.Моран, "The sacred congregation for the oriental Churches", Roma, 1971, p.39).

# АНТЫАХІЙСКІ АБРАД



Хрысьціяне Антыахійскага патрыярхату, дзе нарадзіўся гэты абрад, раскалоліся пасьля асуджэньня на IV сусьветным саборы монафізіцтва. Праваслаўныя пераважна жылі ў Элінізаваных гарадох пабярэжжа, а монафізіты — у паселішчах ды гарадох унутранай Сірыі і Месапатаміі. Тут і нарадзілася так званая Якавіцкая Сірская Царква. Імя гэта яна атрымала ад Якуба Барадэя, што аднавіў монафізіцкую гэрархію, вынішчаную пад час ганеньняў імпэратара Юстына I.

У эпоху крыжовых паходаў Рымская Царква спрабавала далучыць якавітаў, але тыя не жадалі, каб іх наварочвалі ў лацінства, і ў 1140 годзе паставілі ў Ерузаліме свайго мітрапаліта. У 1237 годзе якавіцкі патрыярх Ігнацы Давыд Хайсумі разам зь некаторымі біскупамі й манахамі прыбыў у Ерузалім дзеля перамоваў пра унію з Рымам. Прычынаю гэтага рашэньня было нашэсьце татараў, і пазьней тыя спробы уніі былі перагледжаныя ды анулiваныя. Аднак праца абодвух бакоў у гэтым кірунку не спынялася. У 1441 годзе быў выдадзены дакумэнт "Кантатэ Доміно", у якім спецыяльна для сірыйцаў выкладалася хрысталогія Каталіцкае Царквы. Праз тры гады патрыярх Ігнацы VI даслаў сваіх прадстаўнікоў у Рым, дзе тыя прызналі дзьве прыроды й волі Хрыста. І тады сьпецыяльным "Дэкрэтус про сірыс" быў абвешчаны саюз якавітаў з Рымам. Але ж практычна ўсё засталося, як і было, і толькі ў XVI ст. намаганьні місіянераў далі пэўны плён, і частка Якавіцкае Царквы стала уніяцкаю. У 1655 годзе мараніцкі патрыярх рукапаклаў першага сірыйскага каталіцкага біскупа з катэдрай у Алеппа. Праз шэсьць гадоў Андрэй Акіян стаў Сірскім каталіцкім патрыярхам (1662 - 1677). Ад 1783 году сірскі патрыярх мае тытул Антыахійскі.

У 1854 годзе Рыгор Гарвей перанес рэзідэнцыю патрыярха ў Мардзін. У выніку большасьць якавітаў Дамаску і Поўдня Лівану далучылася да уніі. У часы I сусьветнае вайны Мардзін быў захоплен туркамі, і патрыярх Мар Ігнацы Ахрэм II Рахмані перанес сваю катэдру ў Бейрут, дзе яна знаходзіцца й цяпер. Ягоны наступнік Гаўрыл Таппуні (1929 - 1968) у 1935 годзе быў узьведзены ў кардыналы.

Патрыярх абіраецца біскупамі свае Царквы і зацьвярджаецца Сьвятым Пасадам. Як і якавіцкі патрыярх, ён разам са сваім імем носіць імя Ігнацы ў гонар сьвятога Ігнацыя Баганосца. Ягоная юрысдыкцыя пашыраецца на сіра-каталікоў былое Турэцкае імпэрыі і Егіпту. Цяпер патрыярхам Антыахійскім сіра-каталікоў ёсьць Ігнацы Антон II Хайек (Annuario, p.4). Сучасны стан сіра-каталікоў: Ліван — патрыярхат у Бейруце; Ірак — архібіскупствы ў Багдадзе й Моссуле; Палестына — патрыяршы вікарыят; Егіпет — архібіскупства ў Каіры; Сырыя — мітраполіі ў Алеппа, Дамаску й Хомсе; Турцыя — архібіскупства ў Мардзіне.

Лік вернікаў ёсьць 78929 у патрыярхаце і 10000 у ЗША.

*працяг будзе*



Лукаш ТРЫПУТНІК

# ЗЯМЛЯ, АХВЯРАВАНАЯ НЯБЁСАМ

## У ПОШУКАХ БЕЛАРУСКАЕ ІДЭІ

### I

### Прысьвячэньне

*Ня сёньня*
*адкрыецца*
*Беларусь*
*падарунак мела**

— <Сус Хрыстос> родіўса на етой зіемле... Ён родіўса ў Біеларусі. Ён у дієрэўне родіўса... А Юда тожэ ў дієрэўне родіўса[1], — апавядае прыежджым навукоўцам Фяліна Пятроўна Багдановіч зь вёскі Замошша, што на Гомельшчыне.

Тут, *на етой зіемле*, паводле свайго непадобнага ўзору пляцецца повед быцьця, плыве сваімі пакручастымі плынямі людзкая сьвядомасьць, з патайных дзірак лезуць неспадзяванкі й дзівосы. Ажно, бывае, цэлы Край, бы нейкая відма, з усімі абшарамі й выспамі, возьме й дасьць нырца ў падпрастору, нават з мапаў пазьнікае, сьледу не пакіне. Зашыецца недзе, заціхне... мары марыць... мроі мроіць... між сусьветамі вандруе... залягае... *Драмліва поле, драмліва*... Ды затое: *на ім ягадак урадліва**... Адкуль выблісьне раптам белаю чырваньню строяў, адкуль што возьмецца, — танок вядзе, сьпеў падымае-пушчае, паводле свайго непадобнага ўзору, да вышаў, да долаў, да гэй! што там яшчэ ёсьць...

... краіна Доўгай Белай Хмары...
... мы не растлумачым скуль прыйшлі...*

“Ад прака веку” жывуць на гэтай зямлі Багдановічы й Багданчыкі; Богшы, Богушы й Багушэвічы; Багарады, Багуны, Багуцкія й Багінскія — крэўныя Богавы родзічы. (А як жа ж, “з Божыей Матэры племяно ўсё выходіт”[2]... Край, абмыты Богам-ракою (Бугам) ды акроплены Сьвятымі вазёрамі (іх тут болей за тузін, з такою назваю...).

[1]Язычество восточных славян. — СПб, 1990. С. 158.
[2]Тамсама, с. 169.

Як завецца Край? Завуць Рутэніяй Альбай — Белаю Русьсю, яшчэ завуць Літвою, Крыўяй, Балткрыўяй, Балтарусьсю... Пераліваюцца ймёны, быццам луска на цмоку. І на кожнае ён адгукнецца па-іншаму. Край тайніцаў, ён тоіць імя, што мае.

Тутэйшы люд з гэткаю сталаю пэўнасьцю называе сябе *тутэйшым*, нібы *тут* і ёсьць сярэдзіна сьвету, якую хоць зараз можна памацаць, абы ахвота.

"У вас тут адзін зь дзесяцёх — шляхціц, а ўсе астатнія — ведзьмакі ды вядзьмаркі", — дзівяцца суседзі... Вялесаў край, так і не адкрыты сваймі бясконцымі пераможцамі-Перунамі, — *заклятый скарб* у нетрах цывілізаванае Эўропы.

Тут, у цэнтры эўрапейскага калаўроту, затаілася цямная ціша. Тут — нібыта нейкая скразная дзірка, *дзірулёха*, нейкі прадонны калодзеж. Тут у непарушнасьці трывае тое, ад чаго безнадзейна адарваўся сучасны "прагрэсіўны" розум. Тое, што нават не зусім дакладна было б назваць вераю: бо ў самым слове "верую" ужо закладзена магчымасьць "ня вераваць". Проста тут нікому не замінае паўсёдная Боская прысутнасьць, ад якое цяперашні месьціч (citadin) дыхтоўна затулены *жалезам і цэглай*, адгароджаны культураю й гісторыяй, інфармацыяй ды камфортам.

"Камфорт" перакладаецца як "зручнасьць", "утульнасьць", "спакой". Аднак неспакойна, нязручна й няўтульна месьцічу нашаму ў ягонай камфартабельнай цытадэлі, — і ён кідаецца ў неймаверныя вышукі, спадзеючыся здабыць тое, чаго гэтак прагне душа. Ён не здагадваецца, што сваімі напружанымі богашуканьнямі якраз і адцінае, адлучае сябе ад Бога... Дзе, у якім "космасе" думаеш ты, чалавеча, Яго засьпець?.. Ты патрабуеш зьяўленых цудаў на знак існаваньня Вышэйшага. Цікава, ці не здалося б табе гэткім цудам зьяўленьне на тваім двары звычайных калядоўшчыкаў?... ці не надыйшло б табе празрэньне ў словах іхнае песьні:

На вашым дварэ
дрэва стаяла,

Рай ураіўся,
Хрыстос нарадзіўся
на вашым дварэ.

А на тым дрэве
цясова кравяць,
Рай ураіўся,..

На той краваці
Божая Маці,
Рай ураіўся,..

Божая Маці
Сына радзіла,

Рай ураіўся,
Хрыстос нарадзіўся
на вашым дварэ*...

*На вашым дварэ...* Але дзе ён, той двор, у балесна сьціснутай прасторы сучаснага горада, які расьце ўгару, але надворнае жыцьцё сваё ўсё больш хавае пад зямлю, — места, дзе чалавеку няма ўжо месца, дзе застаецца адно *чысты час*?.. Дзе тут ураіцца тому Раю?..

Хадзі, Раю, а хадзі, Раю,
Раю мой, Раю,
ка мне ў хатку*...

Але ці мажліва ўявіць *Рай* чалавечы ў мястовай паветранай *хатцы* — у гэтай птушынай клетцы, вісячай на кільканаццатым паверху высотнае камяніцы, — у гэтай каморцы, дзе няма ні покуці, ні абразоў, ні лампадкі?..

А Гасподзь жыве ў пана Міхася,
сьвяты вечар, сьвяты Васільлё!
У пана Міхася ў каморцы сядзіць*...

Ну, калі нават *у каморцы*... дык зазірні ж, пане Міхасю, у тую сваю *каморку*, у якой Богу ня цесна, — у тую, што месьціцца *ўнутры* цябе, адкуль глядзяць твае вочы на сьвет белы й русы, на сьвет Божы... Можа, на тое нам і лёс наш чалавечы, і ўкрыжаваньне на рэйках веры й веды, каб нарэшце спасьцігнуць праўду, намацаную паэтам:

*р а й   у н у т р ы **

Бо сказана ёсьць: ня прыйдзе Царства Божае відавочна. І ня скажуць: вось яно тут, ці вось там. Бо вось, Царства Божае ўнутры вас ёсьць. (Лук 17:20,21). Адно разгрэбці, рашчысьціць яго ў сабе трэба... — і задзівуешся, чалавеча, на рай свой тутэйшы...

* * *

Нітка чалавечага лёсу змацоўвае зямное й нябёснае. Бяздоннай паўнатою адгукаецца калодзеж народнае мудрасьці. *Паруш ваду — патайнае парушыш**. У Вялікім Бязмоўі непадзельнай дзьвюх-існасьці дрэмлюць тут першапачаткі Прыроды і Духу — душа Жыцьця самога дрэмле тут. Паэт дакранаецца да яе сваёю чалавечаю душою, гэтаю скразной касьмічнай "дзірулёхай"... — і будзіць рэха. На скрыжаваньні бязмоўяў гучыць *самотны чалавечы голас, растурзаны любоўю**. Ён называе імёны Адзінага. Слова, што *было напачатку*, прамаўляе праз яго.

Што стварылі ў сьвеце беларусы — дык гэта паэзію. (... *свой талент народзіцца не памярцьвілі не свой**.) Хтосьці заўважыў, што на тутэйшых могілках ёсьць надпісы на розных мовах — і толькі на магілах паэтаў надпісы па-беларуску. Тутэйшая зямля нікому не накідае свае волі. Беларус — гэта ня так вызначэньне нацыянальнае прыналежнасьці, як стану душы, далучанасьці да пэўнага духоўнага брацтва. Гэта — пакліканьне, гэта — прысьвячэньне:

Ачышчальна,
нібы ў хрост,
навырост —
у беларусы.*

Паэтамі нараджаюцца, беларусамі — вырастаюць. ... *Навошта я, калі не магу па-свойму?!.** І толькі той, хто *мае музыку ў сабе**, стаецца беларусам.

Ня ведаю, ці павінна ўсё гэта прамаўляцца... Але ня век жа выбачацца перад людзьмі за тое, што ты ... Я не паэта*, мовіў прарок. Можа, не надыйшоў яшчэ час, можа, пакуль яшчэ мусім трываць у бязмоўі... у нерухомасьці... спасьцігаючы *сваё прызначэньне: жыць дзеля чагосьці...**

Каб сьвет вяршыўся, мусіць быць найперш
і найпасьля калодзеж непарушны,
няведаньня калодзеж...*

Хто мае вочы — убачыць...

а праўда... —
адкуль ёй быць,
калі пры сабе ня маем?!*

І праўдаю ёсьць, што, прыняўшы імя беларусаў, мы выбіліся зь гісторыі, з палітыкі, з часу... Часу — часава, вечнае — Вечнасьці. *На Беларусі Бог жыве*, гудзе-адгукаецца с-пад срэбнага шалому князь Ладысь Косы-Караткевіч. Ці то чмель гудзе ў шыпшыне...

## II

## Лучніца сусьветаў
## альбо
## Строма

*Бо і ў той цішы зацятай*
*Ёсьць і голас і свой твар**

*Buon giorno, Dio*, як пяюць у адной ласкавай краіне, *sai che ci sono anch'io**... (Маўляў, прывітаньне, Божа, ведай, што тут і я таксама ёсьць...) Мусіць, там у іх таксама Бог жыве... як і ў нас тут. Таму і я кажу нешта падобнае: зірні, Божа, на мяне, нявартага твайго пагляду, зьлітуйся зь недасканаласьці мае, даруй грахі й правіны й свавольствы мае, выпалі вагнём Тваім увесь тлум і марноцьце з думак маіх, прасьвятлі маё сэрца слабое промнямі бязьмежнае лагоды Твае, праясьні мой цьмяны зрок ды накіруй яго на рэчы вартыя. Дазволь паслужыць Табе. Умацуй мой дух у выпрабаваньнях і пакутах, не папушчай мне саступіць са шляху, праз мяне Табою абранага. Тваё бо ёсьць Валадарства, і Моц, і Слава, цяпер і заўсёды, і давеку. Амін.

А цяпер спытай мяне, Божа, што гэта я раблю тут, па гострых камянёх, па пустэшы дзікай лазячы, бы той прыкуты, ані на сьпёку, ні на сьцюжу не зважаючы... Ды разумееш, Дабрадзею, шнырыць тут адна такая істотка, такая жвавая, такая пяшчотная істотка-яшчарка, праўдаю-ісьцінай у народзе завецца, ніяк у рукі не даецца... Дык і пільную во, ладжуся за хвост ухапіць. Нашто яна мне?.. Бо няма тут іншага спажытку дзеля душы мае... Ня дай жа мне, Госпадзе, памерці з голаду, папусьці ёй зазявацца на хвілечку, а я ўжо... Я й сяброў пачастую... А ў яе ж усё адно новы хвосьцік адрасьце... То пашкадуй нас асьмяглых, спрагнёных, дай падгадавацца, каб маглі далей ісьці...

* * *

...Гэта насланьнё, Беларуская ідэя... Паспрабуй наблізіцца ня тым крокам, ня тым бокам... у немаведама што абернецца, абы адвесьці вочы гвалтаўнічыя, абы ня даць скамечыць-запляміць бялюткую сваю сукеначку... Бы ад пошасьці якое, уцякае ад нячулага дотыку... *знае, ш т о бароне**... Кветка Заклятая...

Як на сьвет сьвет нарадзіўся,
Як душа засела ў целе,
Ўсе ляцелі к гэтай місе
І ніводныя ня елі...*

Божа літасьцівы, гэта ж самому Купалу давялося пачуць такое:

Адчапіся, адхрысьціся!
Доляй-казкай счараваны,
Ты яшчэ не дарасьціўся
Цьвет пасьцігнуці жаданы.

Куды ўжо мне, нягегламу...

О, як чаруюць мяне бязьвінна-"аб'ектыўныя" дасьледаваньні "на тэму" праўды "па праблеме" ісьціны. "*Насілу дамовіўся зь лясьнічым. Такога-такога дакладнага ліпня-чэрвеня хадзіў па лесе зь вечара да паўночы 3 гадзіны. Знайшоў кветку колерам прыблізна белую, колькасьцю прыблізна 1 (адну). Дзеля большае дакладнасьці зазначу, што знайшоў памянёную ўжо ў сябе ў хаце, здымаючы са свае левае нагі лазовы абутак тыпу "лапаць"* (далей гістар. зьвесткі пра лапаць, 8 арк.), *у які памянёная й завалілася...*" Альбо гэтак: "*Такога-такога дакладнага, як і год таму, хадзіў па лесе тымі ж сьцежкамі, як і год таму* (экалаг. зьвесткі, 10 арк.). *Як і год таму, нічога не знайшоў*"... Хаця не, не паскардзіцца, што не знайшоў, не прызнаецца. Дый так відно...

А скажыце, калі ласка, мілыя мае сьледапыты, якую ролю ў пазнаньні ісьціны адводзіце вы... свайму (выбачайце, калі дапускаю нетактоўнасьць)... *сэрцу*?... Як наконт

*Вырві сэрца, высуш сэрца,*
*Запалі вагнём, як сьвечку!*
*Не глядзі, што кроў сатрэцца...* ?..*

Чуеце — *кроў*! Бо ня толькі за мечам, ня толькі за плугам *крывавыя разоры** цягнуцца... За пяром таксама...

... Як ноч прыйдзе, гэта ночка,
Выйдзі з сэрцам, як з паходняй,
Ад кусточка да кусточка
Асьвяці мой хорам годне!..*

Чуеце — не "штодня выціскай па кроплі", а тады толькі, *як прыйдзе гэта ночка*, урачоная, зьберажоная, сьвятая, сярод якое толькі й можа адкрыцца...

...Так сьвяці, ня бойся мукі,
Зь верай вернай і надзеяй, —
Кветка прыйдзе сама ў рукі,
Толькі сэрца спапялее.*

От так, браткі. От такая заплата прымаецца за гэты "цьвяточак".

*працяг на с. 26*



Фота Алеся Угляніцы



# Шляхі да сумоўя

З 1961 па 1966 год бельгіец Ёзаф Марыя дэ Вольф працаваў сакратаром дабрачыннае арганізацыі *Царква ў патрэбе* (Kirche in Not) і за гэты час двойчы наведаў былы СССР, у 1961 годзе быў у Менску. З гэтых паездак найбольш уразіла яго ўкраінская Грэка-Каталіцкая Царква ў падпольлі; пазьней ён напісаў пра яе кнігу. Сам фламандзец, ён вырашыў прысьвяціць сябе каталіцтву Усходняга абраду. У 1983 годзе заснаваў у Нямеччыне місіянерскае таварыства сьвятых Кірылы і Мятода дзеля пашырэньня ў сучасным сьвеце ідэі царкоўнага зьяднаньня. Філія Таварыства ўтворана на Украіне. Марыць працаваць і на Беларусі. Але ўжо й цяпер, чым можа, дапамагае. У гаворцы з Рэдакцыяй *УНІІ* Ёзаф Марыя дэ Вольф выкладае свой погляд на Унію й на ідэю хрысьціянскае еднасьці.

**Ёзаф Марыя дэ ВОЛЬФ**

## *ДЗЕЛЯ ЕДНАСЬЦІ ЦАРКВЫ ХРЫСТОВАЕ ...*

Я паходжу з каталіцкае Бельгіі, і праблему разьяднаных Цэркваў ці міжканфесійнага непаразуменьня я ведаў толькі ў тэорыі. І калі я пазнаёміўся з рэлігійным жыцьцём на Украіне і пабачыў, што адна Царква дапамагае перасьледаваць другую, я быў зьдзіўлены. Я вырашыў напісаць пра падпольнае жыцьцё украінскіх грэка-каталікоў, каб хрысьціяне канца XX стагодзьдзя ведалі пра гэта. Я вывучаў гісторыю Грэка-Каталіцкае Царквы ня толькі падчас камуністычнага рэжыму, але пачынаючы ад Флярэнцкага сабору ажно да перасьледаваньня Уніі за часам царыцы Кацярыны, зьнішчэньня пры Мікалаю і да сёньняшніх дзён. Можа, менавіта тады я адчуў пакліканьне зрабіць што-небудзь для Уніі.

Калі я вывучаў усё гэта, я зразумеў, што Ісус Хрыстос яшчэ перад сваёй сьмерцю прадбачыў раскол у Царкве і ягоныя наступствы. Хто ўбачыць, якія пакуты церпяць людзі з-за разьяднаньня, той лепш зразумее неабходнасьць малітвы за еднасьць. Ісус Хрыстос казаў: *Ойча сьвяты! Захавай іх у імя Тваё, каб яны былі адно, як і Мы* (гл. Ян. 17).

Калі йдзе гаворка пра разьяднаньне, майце на ўвазе не Рым і Канстанцінопаль ці Маскву й Кіеў, але Хрыста. У гэтай малітве Хрыста адна рэч ёсьць для мяне асабліва значнаю: *Я ў іх, і Ты ўва Мне, каб былі злучаны ў вадно і няхай пазнае сьвет, што Ты паслаў Мяне і палюбіў іх, як палюбіў Мяне.* Толькі зьяднаныя, мы можам зразумець місію Хрыста.

Але ў гэтай праблеме разьяднанасьці ёсьць і іншы бок. Разьдзел Царквы — містычнага цела Хрыста — робіць нас няверуючымі ў Хрыста, і Евангельле траціць сэнс для многіх людзей. Сьвет ня верыць нам, хрысьціянам, бо мы падзеленыя. І мы мусім знайсьці ў сабе сілы працаваць для еднасьці, бо гэта значыць працаваць для Хрыста.

У '83 годзе ў мяне зьявілася думка пра сваю арганізацыю. Бо трэба ж вырашаць экуменічныя праблемы пасьля Другога Ватыканскага сабору, з рашэньнямі якога я не ва ўсім пагаджаюся. Так, многія ажно да сёньня ўважаюць Унію за вялікую памылку, асабліва высокапастаўленыя асобы, што займаюцца экуменізмам. Яны лічаць, што тыя уніяцкія цэрквы, якія цяпер існуюць, якія здолелі захавацца, няхай, маўляў, будуць, але ніякаму новаму разьвіцьцю ня трэба спрыяць. Я быў іншае думкі: калі ерархі Праваслаўнае Царквы ня думаюць пра злучэньне, дык толькі Унія ёсьць шляхам да адзінае Царквы. Мы выдаем свой бюлетэнь і рассылаем яго ўсім каталіцкім зграмаджэньням на Захадзе, а таксама друкуем кнігі, што інфармуюць пра Унію й вымагаюць развагаў пра яе.

Я вось цяпер пазнаёміўся з сітуацыяй на Беларусі. На першы погляд, яна надзвычай складаная, на шляху Уніі такія цяжкасьці, якія нікому не пад сілу пераадолець: народ падзелены па канфесійнай прыкмеце, памяць пра сапраўдную Унію амаль выкараненая, няма храмаў, сьвятароў, не засталося багатай манаскай традыцыі і г.д. Але ёсьць людзі, што пачалі самаадданае служэньне, што пачулі Хрыстовае пакліканьне працаваць дзеля Уніі, дзеля зьяднаньня. Як хрысьціянін, я пераканаы, што мы стаім на мяжы шматплённага разьвіцьця Уніі. Як доўга яшчэ будзе трываць гэты перыяд пошукаў, невядома. Але цяперашняя Усходняя Царква тут заслужыла на вялікае сьвята. Я веру, што адзінства Царквы не так далёка. Будучыня належыць нам, бо Хрыстос з намі.





*Унія, сьнегам стагодзьдзяў схаваная*
*Рунь!..*
*. . . . . . . . . . . . . . .*
*І вясною доўгачаканае:*
*"Матухна, зелянее вунь!.."*

Л. С.

фота Алеся Угляніцы



* * *

Няхай жа гарыць сэрца, няхай кроў плыве... Калі адкрываешся сьвету, сама прастора вядзе цябе. Вось дзяруся праз пушчу дрымучую, цьмяна ўяўляючы куды, аднак жа вось *ведаю*, што дзяруся *туды*. Стаміўся. На калоду сядаю, рушнік вышываны разьвінаю. У ім — хлеб. Ды пакуль да хлеба, самы рушнічок разглядаю. Па белым кужалю бяжыць пасачка чырвоная, шчыльна-ўзорыстая. Чырвоная рэчка між белых берагоў... Як плынь быцьця ў вусьцішы нябыту... альбо іншабыцьця... Палымяная плынь жыцьця пакутнага духа-ўцелясьнёнага — між белых плыняў жыцьця іншаснага... Альбо ток вечна гарачага *цяпер* паміж берагамі астылага *ўчора* ды сьвежа-прахалоднага *заўтра*... На тры слаі, на тры глыбіні, на тры сьветы, рушнічок мой кажа, Сусьвет падзелены ёсьць.

... А ці можна патрапіць з аднае плыні ў другую, з гэтае рэчаіснасьці ў іншую, з гэтага сьвету на той ці, наадварот, с тога на гэты?.. Ну, вядома: памрэш для гэтага — і тады ажывеш для іншага... Альбо: засьнеш у гэтым — і адразу знойдзешся, прачнешся ў іншым. Самое імгненьне пераправы з аднае існасьці ў другую ёсьць момантам вертыкальнага руху, неспасьціглага й неадчувальнага ў гарызантальных плынях быцьця.

Быццам іголка, вырай
нітуе абшары —
 учора
быў блізка, сёньня далёка:
учора учорашні,
сёньняшні сёньня —
 ўсё вырай
і далучэньне...*

Вырай: сон... скон... Крыж. Вертыкалі-гарызанталі, крыжы вышыванак... Зноў рушнічок мой гавора. Зірні, які крыж па кожны з чатырох бакоў кашлатага сонечнага ромба: адна доўгая стромая рыса зь дзьвюма кароткамі папярэчынкамі. Пад ніжняю — споднi сьвет, учорашні, колішні, мінулы; па-над верхняю — сьвет горны, панадхмарны, будучы; паміж імі — дольны сьвет, тутэйша-цяперашны. Строма — Сусьветнае Дрэва, што, перасякаючы, нітуе ўсе тры абшары. А калі сярэдні сьвет заліць вадою, ён абернецца вадзяным царствам, а два іншыя — падводным ды надводным. А стромая рыса — сьцяблінаю вадзяной кветкі... лілеі... лотасу... ці... ТАЕ САМАЕ?!

Стоп. Дзе яшчэ ёсьць выява такога крыжа? Ну, як жа ж — на шчыту Белага Вершніка старадаўнай Пагоні. А ў руцэ ягонай — меч: адна доўгая вертыкаль з аднаю кароткаю папярэчынкай. Сьмерць: аднакротная трансфізічная вандроўка. Пераадоленьне мяжы сьветаў. Помніце?.. скон у вадным — нараджэньне ў наступным. Сон і Скон (Hipnas і Tanatas) — праважатыя-перавозчыкі, трансфізічныя перапраўшчыкі (медыятары). Кожны зь іх два аблікі мае: сон-абуджэньне, скон-адраджэньне. Сьмерць — Уваскрошаньне.

Патаемным чынам зьвязаная зь імі яшчэ адна лучніца сусьветаў — Любоў. Але аб гэтым пасьля.

Колькі абліччаў, колькі асьпектаў-іпастасяў мае Беларуская ідэя?.. Сьведчаць на рушніку вышываныя пісьмёны: тры аблічы, тры асьпекты, якія зьяўляюць тры вобразы

---

*Працяг з с. 23*

гэтага краю: прадвечна-глыбінны, сярэдзінна-дольны, ды прадвечна-вышынны: Прадонны — зямны — Нябёсны (альбо: дэманскі — чалавечы — Боскі... альбо: стыхійны — стыхійна-духоўны — Духоўны). Тры відмы-іпастасі-краіны. Імя першай — Крыўя. Імя другой — Літва. Імя трэцяй — Беларусь.

* * *

нібыта ласку матчыну,
рушнік вякоў разгарні...*

Нешта ў сон пацягнула... Баю-баю-баечкі... ўздыхі... булькаценьне... *с пасмаў павольнай пары... с пошапу аяроў*... наварушваецца відма прадоннага царства... *Морак на дне віроў студзіць крутыя ўзвары**... Усё тут крывое, усё кручанае, няправільнае... *па сваіх законах цьвіце*... крывых сваіх законах... Ды, мусіць, *ня ўсё, што расьце, расьце для яды, і ўсё, што расьце, расьце не адною ядою**...

Дык што ж тут гадуецца-высьпявае, у гэтай Сусьветнай Каламуці?..

*Няма ні неба, ні зямлі... Яшчэ ўсё будзе**... гадуюцца туманы... гняздуюцца і адлятаюць некуды крозы... лятункі... уявы... жаданьні... чары... бурболяць, набрыньваючы, сусьветы... якіх толькі йстотаў няма тут... Можа, ідэі таксама — *тут* высьпяваюць?... А то дзе ж... Адкуль жа нейкая форма паўстане, як не з хаосу... як не з праматэрыі глыбіняў "менталітэту"...

трызьняць на дне віроў
стоеныя абшары*

... І собіла ж нейкаму разумніку ўсчаць спрашчэньне крывых прасьцягаў... Пакуль з-за мора не данесьліся скандынаўскія ўсхліпы-стогны: куды, маўляў, тыя туманы падзеліся, што сюды ад вас плылі... а ў нас бязь іх цяпер засуш... недарод... Вось табе й "не для ежы"...

... *К р ы ў я* ... — гэта с-пад карча цьвілога цьвеліцца цмок-Вялес: крыў я...

Крыўя... — не надзівуюцца мае раўналеткі... так бы й сядзелі тут, не вылазячы... Вунь, пяюць:

Мы пройдзем праз спакусу каханьнем,
хаваючы ў сэрцы *д р ы г в у* ...*

Дрыгва... — нашэптвае стары вядун дзядзька Колас... Каласочак, залаценькі, і ты тут?.. Фантастыка...

Ну, а Кветка?.. Гэй! Дзе тут Кветка?! Ціша вусьцішная... Ды паціху-патроху галасы цьмяныя, уздыхі-подыхі, шэпты-пошапы... так... пачынаюць зьліваіца ў нейкі рэчытатыў...

хто блукае тут
хто гукае тут
хто цярэбіцца ў запаветны кут
лозы гострыя перавіцеся
сьцежкі простыя закруціцеся
лёхі вогкія зварухніцеся
цені дрогкія страпяніцеся
разьвіні туман зрэбье рванае
агарні красу непадманную
ад зьвярыных лап ад быдлячых ног
затулі Яе дрыгвяны трысьнёг
ад вужачых джал ад нясытых пчол
ясны сон Яе сьцеражы анёл
падымайся чмур па-над багнаю
адвядзі далей вочы прагныя
адвядзі далей крокі сьмелыя
прэч ад хораму Кветкі Белае
зоркі зводныя разбрыдзіцеся
страхі сподныя абудзіцеся
падарожнага замарочвайце
на абходны шлях заварочвайце*

Э, Дрыгва-матухна, не заўжды на тога напорашся... Плазам лягу, але да Кветачкі дабяруся...

Паглыбляюся памалу ў дрыгвяную тапаграфію ды мета-марфалогію. Вось — Багна, своеасаблівая сталіца ў цэнтры Дрыгвы. Месца, самае што ні на ёсць пэўнае ў сваёй няпэўнасьці... Там нібыта валадарыць нехта Багоньнік — дух багонны. Прыкмячаю паблізу ды за ражок выцягваю з твані нешта кшталту скрэмзанага папірусу. Намагаюся прыпомніць, а ці згадваюцца падобныя штуковіны ў "Гісторыі крыўскай кнігі"*... Разьбіраю тэкст:

## Сказ пра Багоньніка

**(альбо Лісьціна ў Прыгожую Вазачку на стол каханаму Шэфу ад Русаўкі са Сьцішаных віроў)**

там у цэнтры сусьвету спляліся хмызы
атуліўшы сабой балацінку
у высокім трысьці там Багоньнік сядзіць
ды задумліва дзьме ў чарацінку
расьцякуцца наўкол між лазовых кустоў
тыя звабна-самотныя клічы
павыходзяць істоты с патайных кутоў
і дзівосныя зьявяць аблічча
павылазяць насельнікі рэк ды пяскоў
духі нетраў разлогаў ды вышаў
хтосьці зьзяе-мігціць пераліўнай луской
хтосьці пер'ем ядвабным кальша
нібы ў хорам на сьвята прыносяць яны
кожны хто чым багаты дарункі
нізкі пэрлін ды ягад мяды-бурштыны
ды сьвятлістыя гойныя трункі
а ён дзьме ў чарацінку ў салодкай нудзе
ды праяваў дзівосных ня бача
гэта недзе маўляў гурт авечак брыдзе
гэта вецер нясе брэх сабачы
а ён грае нібы ва ўсім сьвеце адзін
а ён вочы замружыўшы грае
супакойліва недзе паскрыпвае млын
ды палязгвае кузьня старая
а як стоміцца граць ён с хатолкі тады
пракаветны свой бохан вымае
і грызе ў задуменьні а трункі-мяды
ненаедная багна глынае
ён сядзіць у трысьці у сівой пекнаце
у паставе сваёй непаўторны
а навокал дрыгва дзівакветам цьвіце
ды гукаюцца зь небам валторны*

Забаўная калізія... Няўжо так вось проста бяруць ды гукаюцца?... зь небам?... А я, выходзіць, мушу гэтую лісьціну па адрэсе даставіць?... ну й прыгода...

Моцы Нябёсныя-Прадонныя, дайце рады... Можа, й тут, на небе тутэйшым, жыве нейкая свая дрыгвяная праўда ды час ад часу наўпрост перыць адтуль перунамі, выпраўляючы крывыя крамзолі крыўды...

І сапраўды, адчуваю: нешта зрушылася ў навакольлі: *туліцца ў цень дуброў... цэліцца лучнік яры... сэрца маіх віроў... пер'е разьдзёртай хмары...*

стогнам зальле абшары
мая адамкнёная кроў
хорам нябёснай чары
сонца на дне віроў*

Ізноў сэрца з крывёю!.. Да Кветачкі — руку працягні, здаецца... А ўнутры сьліпучага люстранога кола вады-нябёсаў Купала пахаджае, на поўныя грудзі выгукаючы — наноў адкрытае — імя гэтай мясьціны:

*С о н ц а !*

* * *

Вох-і-вой-люлі, браце Трыпутніку, й панесла ж цябе доля твая дольная… Не пасьпеў як сьлед прачнуцца на тым сьвеце, як ужо перуном забіты… То, трэба разумець, зноў адбыўся трансматэрыяльны пералёт — дзе гэта мы з табою?..

вось
валошка
вось
рамонак
белы
замак
на гары*

Вунь горад віднеецца… Наваградак… Полацак… Вільня… Цывілізацыя. Дзяржава. Вялікае Княства… Паглянь толькі: дзе б ні праступіла, да чаго б ні дакранулася тутэйшага люду натура, — усё абяртаецца ў хараство… Асьвета. Кніга. Рэлігія. Палеміка. Нават дзяржаўная палітыка. На ўсім адбілася нязводная пячатка прыгажосьці.

Гэта стыль… Такое ўжо нутро ў гэтага люду, такая *ўродачка.**

*Litwo*, малітаўна шэпча Адась Міцкевіч. *С л а в а* , — зноў лезе с падказкаю дзядзька Янка.

… Складаная гісторыя, прасякнутая сумнымі й трагічнымі плынямі. Але ўва ўсё, і ў боль, і ў смутак уцялася нязводная пячатка хараства. Гэта спакуса.

*Л і т в а* . Малітва. Айчызна. Як *яны ўсе* трызьняць ёю… як ганарацца… якую да яе *великую ласку имають**… Бы на абраз, на яе моляцца… Зірнуў на гэта Ўсявышні — і засмуціўся ў сэрцы сваім, і мовіў: гора тому, праз каго прыйдзе спакуса.

І пакараў Ён Літву, засьляпіўшы ёй вочы хараством чужым. Забыліся людзі на самую сутнасьць хараства. Развучыліся адрозьніваць абалонку ад зьместу. Напачатку яшчэ памяталі, чым *квитнет Літва,** а чым Польшча, а чым… А пасьля… *Пячаль мая святла, ана пална табою…* *Пшэпрашам, чы не бэндже пан…*

*Нешта пагасла ў сьвеце, нешта замоўкла, нешта асірацела.** Адвярнулася ад Літвы Белая Кветка. Паплыў над гонямі Паланэз Разьвітаньня…

А Мова, некалі каранаваная вялікакняскаю каронаю, гэтая залатая, як хлеб, срэбная, як вада, чыстая, як прага красы, гэтая мова, арганічна няздатная да фальшу (чуеце, як вытыркаюцца зь яе чужыя словы, — як тыя з бохана відэльцы)… Што сталася з моваю?.. А ўцякла… уцякла з папсаванае паверхні ў патайныя глыбіні жыцця… І дагэтуль там…

Разьвінаю дарэшты свой рушнічок, у якім быў хлеб загорнуты, — а там нічога няма… І куды той акрайчык заваліўся?..

… Плыве над літоўскімі гонямі, працінаючы душы, Паланэз Разьвітаньня*…



… там, дзе апошні промень згас,
нябачных музыкаў хор
з далёкай далі кліча ў вышы нас,
паплыць туды, дзе цень зямны
зь нябёсных гор
у вечны сьвет,
як Херувім,
памкнуўся…*

* * *

Што гэта?.. Зноў сьмерць?.. Ды не... так... адляцеў кудысьці ў задуме...

Хіба гэта яшчэ не *Беларусь*?.. Ды не... Хоць і здавён-даўна ў гэты сьвет праточваецца сьвятло Ейнага Хораму. Імя Яе таксама здаўна тут лунае, і шмат каму ўжо ў слых увайшло, ціхаю музыкай напоўніла ягоныя сусьветы. Паўсюль нагадваюць аб Ёй зялёныя сьцяблiны й лісьце папараці... але сама Кветка раскрываецца недзе ў вышах... Яна не ад гэтага сьвету. Не шукайце Яе ў гэтым сьвеце.

А дрыгвяны голас усё плюхціць сваё:

не хадзіць вам душы няўмелыя
каля тайніцы Кветкі Белае
не глядзець вам вочы няздарныя
на красу Яе панадхмарную
Кветка Белая
не наўзбоч дарог
Кветка Белая
па сямі сьмярцёх
а здалёк мігціць
недасяжная
а за крок стаіць
незаўважная*

А яны ўсё ідуць... Усё ідуць ды ідуць тыя хлопцы*... Бы *няма ўжо дзе падзецца*, ідуць па Кветку. А Купала, дзядзька абазнаны, і другое імя Яе падказвае: *Песьня*.

Бачу вас, як ідзеце вы, з вашымі дудкамі, гітарамі й лерамі, гожыя рыцары Ейныя, а паперадзе вас ідуць, *perpetua sangre y pura luz brotando**[1].

Няшмат вас налічваю, тых, што амаль ужо *дарасьціліся* ці хаця б добра падгадаваліся... Кожнага з вас імёны чую, сачу за вашым крокам, у абліччы вашыя ўглядаюся... І да кожнага, з вашага дазволу, сякое-такое слоўца маю.

Ты, Зьнічу, пакінь катаваць Яе, бедную, допытам неадступным — за каго, маўляў, пойдзеш, Краіна Сіняя... Можа, Яна дзеўкаю застацца хоча... І пеклам дарма ня страш... бачыш, ажно сьсінела ўся сьперапуду... А была ж бялюткая... з вугольчыкам празрыстым сэрца... На Яе ж толькі дыхаць... Ліставея спытай...

І ты, Сутвару, вышынны жыхару, мечамі-маланкамі сьліпучымі, бач, размахаўся... перыш на ўсе бакі — не падступіцца... Не забі зьнячэўку... Жахнецца, уцячэ Бялюткая, праточыцца ў шчыліну паміж хвілямі, зашыецца ў падпрастору сутонную ды й засьне надоўга... хоць і абяцала... Шукай тады ў поцемках...

А ты, Сурмару бадзяжны, ўсё па лёхах-сутарэньнях лазіш, павуту пораш, с кажанамі ды мухамі паснулымі скокі правіш... Цягайся, як даспадобы... Але няма Яе там... Сам яшчэ, тфу-тфу-тфу, барані Божа, у якую невараць праваліішся... Маліся тады, каб выцягнулі белыя ды жоўтыя гарлачыкі...

А табе, пане-браце Ягамосьцю Лясны... ці то, Мосьцю твая Лясная... а ці Масьцю... ат, усё адно, што табе парадзіш, калі расьцеш дагары карэньнямі... такая ўжо ўродачка... Добра, што зь неба расьцеш, ды часам і з дрыгвішчы гэнае мо цягнецца ўгару што добрае... Паўзірайся... ня грэбуй...

А ты, Саколе, паляцеў за мора, не чутно тваіх крылаў, толькі кроў на сумётах дагарае... Гуд бай, сказаў, май лаў... сіроткаю пакінуў... Думаеш, там за морам сам сабе такую ж народзіш... Ды наўрад... Хіба што дробненькую...

А твая Самотная Вялікасьць у восенным дажджу карону сваю ўсё папраўляе... як фацэтней... Прыгожы, прыгожы... ды не захапляйся надта, на вуха ня ссоўвай... Вазьмі лепей парасон, бо шкода Ёй будзе, як застудзішся...

А ты, Кокане таямнічы, выпусьці навонкі свае чуйныя вусікі (мо й ня ведаеш, што яны ў цябе ёсьць... але павер, прашу, не сумнявайся) ды адчуй, што даўно ўжо лета на дварэ, ды страпяніся ўсёю істотаю, махні крыльцамі — і ах, які файны вясёлкавы матыль с тога кокану паляціць...

Яшчэ бачу на цьмяных сьцяжынах пяць-шэсьць постацяў з вагеньчыкамі яснымі, ды надта шырака вакол сябе рукамі водзіце, абсягнуць абсяг пнецеся, камарэчы

[1] (няспыннай крывёю й чыстым сьвятлом сьцякаючы), вашыя сэрцы (ісп.)

наловіце, стоміцеся хутка... Прыпыніцеся, падсілкуйцеся, падгадуйцеся, паўзірайцеся — ды й крочце далей.

Усіх Яна вас чуе, усіх шкадуе, усіх любіць і чакае, братоў сваіх і нарачоных, у Хораму Высокім. Любіце й шкадуйце адно аднога.

* * *

... Мы сустракаемся ў Сусьвеце... Зь нябачнага пульту жыцьця сюды, на нашую глыбіню, нам пасылаюцца сустрэчы, скаланаюць нашую вадзяную будову й выкрасаюць з нашае існасьці жарыны сапраўднага, вышэйшага быцьця.

... Што з табой, браце-чалавеча?.. Чаму ты ня рады?.. Чаму ўсё наравіш *туды* ўсьлізнуць, — у сон, у скон, у вертыкаль... Бэльку якую папярэчную табе прыставіць, ці што... каб не валіўся ў іншасьветы, а сеў на крыжы, як паложана...

У-у, сьмертухна мая... Гэтак раптоўна праступаюць...робяцца ўцямнымі знакі твае... Здаганяюць, урываюцца ў сьвядомасьць рытмы... узоры... пісьмёны... сустрэчы...

Вось маё цела, пранізанае душою. Я сама сабе строма, значыцца, ты мне... папярэчына?.. Я — папярэчына ўпоперак тваёй стромы?.. Ці як?.. Як гэта адбываецца?

... Як прамень, ты ўваходзіш у вышнія — для цябе паверхныя — плыні маёй сьвядомасьці, і, сыходзячы ўсё глыбей, прасьвятляеш яе да самага споду... Прамень сьмерці рухаецца адваротна: з глыбіняў падымаючыся ў вышэйшыя слаі, паступова гасіць вертыкаль *тут* — і выпускае яе ў іншасьветы... Нас трымае жывымі нашая здольнасьць да пераўзыходу сябе, пераадоленьня межаў свае істоты...

... Значыцца, ты мне — таксама строма?... Узаемны рух насустрач па восі быцьця... Сьмерцю сьмерць... Вось яны, узоры, што *ад прака веку*...

На скрыжаваньні стромаў — любоў. На скрыжаваньні папярэчынаў... дрыгва?..

... Адсюль ці адтуль — аднолькава
ад нас пачынаецца вырай,
ад нас — набліжэньне да блізкага,
ад нас — узыход наш на ўзгор'е,
ад нас — і яднаньне наша
з тым, што ўзьлюбілі, —
зь любоўю.*

Дзе, на якім скрыжаваньні чакаеш мяне, мая Белая Кветка?

---

* Радочкі, фрагменты й матывы з народных песень, з твораў Францішка Скарыны, Яна Казіміра Пашкевіча, Цёткі, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Вацлава Ластоўскага, Максіма Багдановіча, Алеся Разанава, Зьніча, Валянціны Аксак, Анатоля Сыса, Фэлікса Аксёнцава, Галіны Дубянецкай, Міхала Агінскага, Аляксандра Пушкіна, Сігітаса Гяды, Тота Кутунья, Фэдэрыка Гарсія Лоркі, Уільяма Шэкспіра.



Фота Алеся Угляніцы

*Людка Сільнова*

# ШКЕЛЬЦА

Маленькага шкельца празрыстае цельца,
Рэальнай матэрыі форма нябачная...
Як часта, як часта яно мне здаецца
Маім ідэалам ці формаю страчанай!

Вось так бы хацела і я існаваці:
Нябачна, нячутна, і промні сьвятла,
Як гэтае шкло, праз сябе прапушчаці.
І ўсё мне здаецца, я гэткай — была...



Караліна МАЦКЕВІЧ

# ПРАМОВІЦЬ БОЖАЕ ІМЯ

Сьвяцігся Імя Тваё
*Мц 6:9*

Стаўленьне раньніх хрысьціянаў да Божага Імені сфармавалася ў вялікай ступені пад уплывам гэбрайскай старазапаветнай традыцыі. Для гэбраяў імя выяўляла сутнасьць, а прамаўленьне імені пакладала рэальную сувязь паміж прамоўцам і называнай асобай. Гэтая сувязь ёсьць адначасова прыўлашчаньнем, і прызнаньнем, і наданьнем рэальнага зьместу іншай існасьці. Імя Бога як найвышэйшае Рэальнасьці зьяўляецца існасьцю ў сабе, першай ступеньню разуменьня і пазнаньня Прадвечнага, сімбалем Ягонае сувязі са сваім стварэньнем. Веданьне Боскага Імені дазваляе чалавеку ўвайсьці ў асабістыя адносіны зь нябачным Богам, і гэта робіць Імя ці не асноўным з інструментаў містыцызму. Згодна з гэбрайскай містычнай традыцыяй уся Тора — Пяцікніжжа Майсеева — у апошні дзень будзе прачытаная як адно суцэльнае Божае Імя. Усе стасункі чалавека з Богам, гэтаксама як і цэлы створаны сьвет ўбіраюцца ў Боскае Імя як у сакральны код, што нясе ў сабе ўсе разгадкі і адказы. І таму ўсталяваньне паміж Богам і Ізраілем адносінаў Запавету, што надаюць гэбраям годнасьць Божага народу, суправаджаецца раскрыцьцём Майсею імені Ягвэ як прысьвячэньнем у таямніцу Боскае Існасьці.

Першапачаткова тэрмін "сьвятасьць" азначаў у гэбраяў адлучанасьць, трансцэндэнтнасьць, існаваньне *паза межамі* (і ў першую чаргу па-за межамі чалавечага, створанага сьвету), і гэтым тлумачацца адносіны вышэйшага шанаваньня і поўная недасяжнасьць Таго, Хто яўляе найбольшую сьвятасьць. Як і сама Божая Асоба, Тэтраграматон — чатыры літары гэбрайскага альфабэту YHWH, што складалі імя Ягвэ, — валодаў найвышэйшай сакральнасьцю і мог быць вымаўлены (шэптам, што патанаў у сьпевах) толькі аднойчы на год — у дзень Ачышчэньня, Ём Кіпур, — першасьвятаром у Сьвятым Сьвятых. Пры чытаньні Торы звычайнымі вернікамі Невымоўнае Імя замянялася словам "Аданаі", што значыць "мой Госпад". Да Аданаі зьвярталіся людзі ў малітвах, бо гэтае Імя, не называючы "Бога ў Сабе", вызначала адносіны створанага сьвету да Яго як да Творцы і Уладара. На Імені Аданаі і грунтуецца масавы гэбрайскі культ Божага Імя.

Але апроч культавага і сьвецкага спосабаў звароту да Ягвэ існаваў трэці, містычны шлях, даступны нявялікаму колу прысьвячоных высокадухоўных вернікаў. Ім быў вядомы таемны спосаб прамаўленьня Невымоўнага Імені, які пераводзіў міста ў стан фізічнага і духоўнага зьяднаньня зь Ягвэ.

Прамаўленьне сакральных формулаў з мэтаю дасягнуць містычнага зьяднаньня з Боствам, гуканьне Боскае Сілы і Славы, альбо эпіклеза (з гр.) ці інвакацыя (з лац.), існуе ў розных рэлігійных культурах. Гэбраі былі першымі, хто напоўніў эпіклезу значэньнем асабістага кантакту з жывым Богам. У Законе, дадзеным Майсею, Бог засьцерагае Ізраільцянаў ад марнага вымаўленьня свайго Імя (Вых 20:7), але тут жа абвяшчае: "у кожным месцы, дзе Я дазволю згадаць Маё Імя, Я прыйду да цябе і благаслаўлю цябе" (Вых 20:24). Гэбрайскія містыкі падчас эпіклезы перажывалі сыход Боскага Зьзяньня і Сілы. Медытацыя на Імя Божае ў Кабалістычнай традыцыі прыводзіла чалавека ў стан зьмененае сьвядомасьці, рабіла магчымымі цуды і прароцтвы. Імя паўтаралася як мантра, разьбітае на літары (зычныя), агучаныя па чарзе ўсімі галоснымі. Бясконцае паўтарэньне формулы-матрыцы Імені суправаджалася пэўнымі рухамі цела і тэхнікай дыханьня. Спосаб медытацыі на Тэтраграматон трымаўся ў сакрэце ад непрысьвячоных, бо містычная моц Імені, няўмела абуджаная, магла прывесьці ў дзеяньне ніжэйшыя, нячыстыя сілы. Сыход Боскага Зьзяньня і Сілы на чалавека, які заклікаў Божае Імя, адбываўся толькі пры пэўных умовах. Духоўны ўзровень чалавека, ступень блізкасьці да Бога, ужо дасягнутая ім, спосаб, у які ён вымаўляў Імя — усё гэта вяло да фармаваньня стадыяў эпіклезы, і толькі на вышэйшай зь іх чалавек мог перайсьці да вымаўленьня Тэтраграматону.

Нябачны Бог гэбраяў яўляе Сябе ва ўцелаўленьні Хрыста. Імя *Ісус*, абвешчанае Багародзіцы (Мц 1:21; Лк 1:12), ёсьць грэцкай транскрыпцыяй жыдоўскага *Ісшуа* (*Егашуа*), што значыць "збаўленьне Ягвэ". Але тое, што захоўвае ў сабе Імя Хрыстовае, пераўзыходзіць этымалагічнае вытлумачэньне. У ім жыве таямніца Боскага ўцелаўленьня — Інкарнацыі, што лучыць падзеленыя раней сьветы і творыць новы сьвет, сьвет Збаўленьня.

Імя Хрыстовае Ісус, захоўваючы ўсе атрыбуты Боскага Імені, ёсьць ключом да таямніцы "Невымоўнага Імені" — Тэтраграматона, Ягвэ. "Ісус" і "Ягвэ" адбіваюць у сабе адпаведна спрадвечны Змрок і непазнавальнасьць Боскага Пачатку, і яўленасьць Сьвятла,

што нараджаецца ў Змроку. З кардынальнае розьніцы ў ступені праяўленасьці Бога паўстае і рознасьць у фармаваньні культу. Хрысьціянскі культ Божага Імені выяўляе як бы працілеглае гэбрайскаму стаўленьне чалавека да сьвятасьці: на месца адасобленасьці прыходзіць пранікненьне, на месца маўчаньня — прагаворваньне. Але на вышэйшым, містычным узроўню рознасьць абарочваецца адзінствам, і хрысьціянскі эсіхазм, што паўстае ў V ст. ад Р. Х., нясе ў сабе рысы містычнае практыкі закрытых гэбрайскіх суполак.

У першым перакладзе Торы на грэцкую мову, г. зв. Сэптуагінце, слова "Аданаі", што называла Ягвэ, было перакладзенае грэцкім "Госпад". На гэтым слове адбываецца скрыжаваньне двух Запаветаў: пачынаючы ад Евангельляў, раньняя хрысьціянская традыцыя пераносіць усю поўню значэньня гэбрайскага "Аданаі" на Госпада і Ўладара Хрыста.

Ня ўсімі пазнаецца Госпад у Ісусе. *Але ўсім тым, хто прыняў Яго, даў Ён уладу называцца дзецьмі Божымі, усім, хто верыць у імя Яго* (Ян 1:12). Тыя ў Евангельлях, хто ў слабасьці сваёй пазнаюць Уладара, і прамаўляюць першыя малітвы да Ісуса. Гэта малітвы-узоры (парадыгмы), бо паўстаюць яны з імгненнай перапоўненасьці чалавечае істоты жывой прысутнасьцю Госпада: *памілуй мяне, Госпадзе, сыне Давідаў*, кажа Хананейка, пабачыўшы Хрыста (Мц 15:22), і сьляпы Варцімей крычыць: *Ісусе, сыне Давідаў! памілуй мяне* (Мк 10:47; Лк 18:38). А сьв. Паўла, які ня бачыў Ісуса пры жыцьці, перамяняецца праз містычны кантакт зь Ім па дарозе ў Дамаск, кантакт, зьместам якога ёсьць ізноў жа адкрыцьцё Імені (*Хто Ты, Госпадзе?* і адказ: *Я Ісус*... (Дз 9:5)). Магчыма таму менавіта ў лістох сьв. Паўлы ўпершыню паўстае тэалогія Імені Хрыстовага, якая злучае стары гэбрайскі культ Божага Імя з асобаю Ісуса. *Дзеля гэтага і Бог узвысіў Яго і даў Яму імя панад усякае імя, каб перад іменьнем Ісуса сукланілася ўсякае калена нябёсных, зямных і падземных, і каб усякі язык вызнаваў, што Госпад — Ісус Хрыстос, у славу Бога Айца* (Філіп 2:9-11).

Для першых хрысьціянаў асноўнай прысягаю пры хросьце, сімбалем веры, стала вызнаньне Ісуса Госпадам. Ад першага стагодзьдзя пасьля Р. Х. у Імя Ісуса Хрыста людзі ахрышчваліся, іменем Яго адганялі д'яблаў, чынілі цуды. У традыцыі сьвятых Айцоў Імя набывае асаблівы зьмест. "Пастыр Гермы" (др. пал. II ст.) называе Імя Госпада адзіным шляхам да Валадарства Божага, тым, што трымае ўвесь сьвет. Сьв. Амброзі ў IV ст. піша пра "разьліцьцё Імя Хрыстовага" як разьліцьцё ласкі, якую Ізраіль да прыйсьця Хрыста ўтрымліваў у сабе, як водар у закрытым начыньні. У працяг гэбрайскае традыцыі Імя тут убірае ў сябе ўсю поўню Асобы, ўвасабляецца, яно ёсьць адзіным Імем, сінонімам Логасу, Слова, і зварот да Ісуса ў малітве атаясамліваецца са зваротам да Ягонага Імені. Гэты зварот, названы пазьней "Ісусавай малітвай", стаў характарыстыкай Візантыйскае духоўнае традыцыі і адным з галоўных здабыткаў усходняга містыцызму.

Духоўны вопыт першых хрысьціянскіх містыкаў — ягіпецкіх пустэльных Айцоў IV ст. — стварае тып малітоўнага сузіраньня, у якім усе сілы чалавека скіроўваюцца на ўнутраную размову з Госпадам. Сьвяты Дыядок Фоціцкі (др. пал. V ст.) будуе гэтую размову, ачышчаную ад вобразаў і думак, на прамаўленьні Імені Ісусавага. Паводле Дыядока, малітва да Ісуса адначасова прыводзіць чалавека ў стан канцэнтрацыі духоўных сілаў і сама ўтрымлівае поўню веды ("розуму ня трэба нічога апроч словаў *Госпадзе Ісусе*"). Няспыннае паўтарэньне гэтых словаўператварае фрагментарнасьць розуму ў еднасьць, і таму малітва, хаця і выказаная ў словах, пераносіць чалавека за межы мовы, у стан маўклівага веданьня і супакою.

Традыцыю Ісусавае малітвы ў VI ст. працягваюць палестынскія манахі-пустэльнікі сьвятыя Варсануфі і Ян. "Старцы" з Газы (як іх клікалі сучасьнікі) высноўваюць практычнае вучэньне пра эпіклезу Сьвятога Імені і фармулююць яе: *Госпадзе Ісусе Хрысьце, памілуй мяне*. Высокая грэцкая філасофія Дыядока саступае тут месца ня менш высокай прастаце і пакоры ўсходніх Айцоў: чалавек мусіць цалкам адмовіцца ад уласнае волі пры закліканьні Сьвятога Імені, і тады ўнутраны дыялог з Хрыстом працягваецца нават пасьля спыненьня вонкавае малітвы.

Абодва шляхі разуменьня эпіклезы — метафізічны заходні і хрыстацэнтрычны ўсходні — зьядноўваюцца на Сынаю. Тут калісьці было адкрытае Майсею Божае Імя. Тут фармуецца эсіхазм (ад гр. 'ησυχια — ціша, супакой) — вучэньне пра ўнутраную малітву-эпіклезу, вольную ад думак і вобразаў. Сьв. Ян Лесьвічнік (VII ст.) у "Лесьвіцы Боскага ўзыходу" злучае ў адно розныя накірункі духоўнае традыцыі і высноўвае правілы жыцьця для эсіхастаў. Тыя, хто шукаюць Хрыста ў глыбінях сэрца, мусяць адкінуць непатрэбныя словы і думкі, зьяднаць успамін пра Ісуса са сваім дыханьнем і знаходзіцца ў няспыннай маналогіі (ад гр. μονολογια — малітва ў адным слове) — Ісусавай малітве. Пасьлядоўнікі Лесьвічніка сьв. Эсіхі (VIII-IX стст.) і сьв. Філатэй (IX-X стст.) апісваюць бачаньне Боскага Сьвятла як вынік няспыннага гуканьня Імені і зьяднаньня яго з дыханьнем і самім жыцьцём чалавека. "Вы мусіце дыхаць Богам заўсёды", — кажа Філатэй. Гэтая — на Сынаю яшчэ, магчыма, метафарычная — сувязь паміж дыханьнем і эпіклезай разьвіваецца пазьней у псіхафізічную тэхніку вымаўленьня Ісусавае малітвы.

Духоўнае вучэньне, што сфармавалася на Сынаю, у XIII ст. знаходзіць сваіх пасьлядоўнікаў на Афоне. Тут яно дапаўняецца псіха-фізічнаю практыкай, якая ў нашыя дні сталася неад'емнай часткаю Ісусавае малітвы. Нічыпар Эсіхаст у працах "Чуваньне і варта сэрца" і "Метад сьвятое малітвы і ўважнасьці"[1] апісвае пэўную пазіцыю цела, у якой мусіць вымаўляцца малітва: чалавек сядае, схіляе галаву на грудзі і засяроджвае позірк на сярэдзіне жывата. Дыханьне замаруджваецца, і перад пачаткам малітвы сьвядомасьць знаходзіць "месца сэрца" і зьядноўваецца зь ім. Зьяднаньне розуму з сэрцам (сярэдзінай, цэнтрам чалавека) дапамагае "ачысьціць" сьвядомасьць ад думак і вобразаў і пабачыць унутранае сьвятло розуму, абуджанае Імем Хрыста. Цела і дух зьліваюцца ў эпіклезе, і чалавек паўстае ў адзінстве свайго першаснага вобразу ("Метад" называе гэта "ўцелаўленьнем у Хрыста"), ён ужо ня проста моліцца — ён ператвараецца ў малітву. Эсіхаст ня мае патрэбы ў кельлі або храме, бо цела яго ёсьць месцам, дзе творыцца малітва, і сродкам малітвы, і самой малітваю.

Практычнае вучэньне Нічыпара Эсіхаста замацоўваюць у XIV ст. вялікія манахі з Афону — сьвятыя Рыгор Сынайскі і Рыгор Палама. Суровасьць і аскетызм Сьвятое гары накладаюць адбітак на фармаваньне традыцыі: спантанная, празрыстая сынайская малітва канчаткова саступае месца цьвёрдай фармулёўцы — "Госпадзе Ісусе Хрысьце, Сыне Божы, памілуй мяне, грэшнага" — з абавязковым выкарыстаньнем псіха-фізічных метадаў. Паводле Рыгора Паламы, прамаўленьне малітвы такім чынам вядзе да сузіраньня "нястворанага фаворскага сьвятла", што перадае непасрэдную блізкасьць Хрыста да таго, хто гукае Ягонае Імя.

Рэакцыяй часткі Праваслаўных на распаўсюджаньне традыцыі Ісусавае малітвы стала палеміка, што разгарнулася вакол эсіхазму ў першай палове XIVст. Варлам Калабрыйскі, адукаваны грэк з паўднёвай Італіі, пісьмова выступіў супраць тэорыі і практыкі афонскіх Айцоў. Сыходзячы з непазнавальнасьці Боства, ён адмовіў саму аснову містыцызму — магчымасьць непасрэднага кантакту чалавека з Богам пры жыцьці, і на гэтай падставе абвясьціў эсіхазм гэрэзіяй. Рыгор Палама паўстаў на абарону традыцыі Ісусавае малітвы, і ў выніку, у 1341 г. Сабор сьв. Сафіі ў Канстанцінопалю асудзіў Варлама, а дактрына Паламы была прынятая як афіцыйнае вучэньне Візантыйскае Царквы. Але, нягледзячы на вонкавую перамогу, эсіхасты таго часу губляюць самае галоўнае: глыбіня і адухоўленасьць простага і шчырага звароту да Імені Божага саступаюць месца інтэлектуальнай дыскусіі. Паводле выразу Льва Жые, містык тут "спыніў малітву, каб уступіць у спрэчку пра яе".

Пасьля палемікі Рыгора Паламы традыцыя Ісусавае малітвы перапыняецца на Афоне, і ўжо толькі ў другой палове XVIII ст. сьвет усходняга Хрысьціянства перажывае аднаўленьне эсіхазму. Грэцкае Праваслаўе ў гэты час процістаўляе еўрапейскаму Асьветніцтву зварот да традыцыі Сьвятых Айцоў. Сьвятыя Нікодым Сьвятагорскі і Макары Карынфскі выдаюць у 1782 годзе "Філакалію" (гр. *любоў да прыгажосьці*, альбо *дабралюбнасьць*), збор тэкстаў Усходніх Айцоў ад IV да XV ст., якія да нашага часу былі перакладзены на большасьць еўрапейскіх моваў і ці не найбольшую папулярнасьць здабылі у Расеі. "Філакалія", задуманая як анталогія эсіхазму, злучыла адухоўленасьць "чыстае" малітвы сынайскіх Айцоў і "матэрыяльнасьць" містычнае практыкі Афону ў адзінае вучэньне, альбо, хутчэй, у адзіны шлях, "лесьвіцу" ўзыходу чалавечага духу. Кожная прыступка яе нясе непераацэннае багацьце і сьвятло найвышэйшага духоўнага вопыту Хрысьціянства — вопыту малітвы да Хрыста.

У традыцыі Ісусавае малітвы псіха-фізічныя метады ёсьць толькі зьнешняю падрыхтоўкай, настройкаю на ўнутраную дзейнасьць, і прасьвятленьне, якое перажывае чалавек пры гуканьні Імені Ісусавага, прыходзіць не праз пэўную фізічную практыку, а як дар ласкі. Кліканьне Ісуса — гэта таксама і пакліканасьць Ім, Ягонае *Ідзі за Мною*, пачутае і споўненае. "Вочы, якімі я гляджу на Бога — гэта вочы Бога, якімі Ён глядзіць на мяне". Два галасы, Боскі і чалавечы, зьліваюцца ў гуку малітвы, у адзінай вібрацыі жыцьця, душа злучаецца з Творцам у слове, якое ёсьць Словам. Таму ў прамаўленьні Імені Ісуса ўсе практычныя дэталі і асаблівасьці аднолькава істотныя і неістотныя: істотныя як індывідуальны шлях кожнага, але і неістотныя перад веліччу і паўнатою самое дзеі — прамаўленьня Божага Слова, якое гучыць у сьвеце вечна.

[1] Аўтарства "Метаду" доўгі час прыпісвалася сьв. Сымону Новаму Багаслову, але цяпер больш верагодным аўтарам прызнаецца Нічыпар Эсіхаст.



а. Віктар ДАНІЛАЎ



# Як маліцца малітвай Ісусавай

Малітва Ісусава складаецца са слоў: "Госпадзе Ісусе Хрысьце, Сыне Божы, памілуй мяне, грэшнага". (Часта слова "грэшны" не вымаўляецца). Гэта адна з найбольш распаўсюджаных малітваў хрысьціянства ўсходняга абраду. Ніжэй прапануецца методыка гэтае малітвы.

1. Давядзіце пачуцьці да стану цішыні, супакою.

2. Засяродзьцеся на адчуваньні прысутнасьці Бога. Дзеля таго прыплюшчыце вочы, уявіце, што Бог глядзіць на вас. Скажыце ў сабе прыкладам гэткія словы: "Госпадзе, Ты паўсюдна, у кожным месцы і ў сэрцы маім таксама, Ты глядзіш на мяне: я прад Табою". Адчуйце прысутнасьць Бога вакол сябе.

3. Увайдзіце ў стан пакоры перад Богам, адчуйце сваю мізэрнасьць перад Ім і залежнасьць. Скажыце сабе словы кшталту: "Госпадзе, я ня варты, каб Ты ўвайшоў пад мой дах" (Мц: 8,8).

4. Абудзеце ў сабе пачуццё даверу да Бога як найроднейшага айца. Моўце прыкладам так: "Але скажы толькі слова, і ацалёная будзе душа мая" (тамсама).

5. Прамоўце "Уладару Нябёсны", "Найсьвяцейшая Тройца" і некаторыя іншыя малітвы з малітоўніка, прагаворваючы іх у сабе з увагаю і ўсьведамленьнем кожнага слова.

6. Пад час прамаўленьня малітвы плынь вашае сьвядомасьці павінна нібы сустракацца з поглядам Бога, скіраваным на вас. Інакш кажучы, вы павінны адчуваць духоўную лучнасьць з Богам.

7. Адначасова ў душы ўзьнікае адчуваньне нейкае моцы — гэта ласка веры. Зрэдчасу адчуваньне дапаўняецца пачуцьцём лёгкага цяпла ў сэрцы.

8. Адчуўшы ўсё гэта, засяродзьце сваю ўвагу і сьвядомасьць на ўзьніклым пачуцьці і пачынайце кароткую малітву: "Госпадзе Ісусе Хрысьце, Сыне Божы, памілуй мяне". Або: "Божа, будзь міласьцівы да мяне, грэшнага".

9. Пад час малітвы крыху стрымайце дыханьне, што дапамагае засяродзіцца.

10. Павольна вымаўляйце словы малітвы, дзелячы яе разам з тым на дзьве часткі:

а) "Госпадзе Ісусе Хрысьце, Сыне Божы" — (удых) — вымаўляючы гэтыя словы, перажываеце ў сэрцы адчуваньне Бога;

б) "памілуй мяне" — (выдых) — перажываеце сваю грахоўнасьць. Падчас малітвы неабходна ўвесь час трымаць розум у сэрцы; захоўваць пакору і давер да Бога.

11. Чытаньне малітвы адначасова можа суправаджацца перабіраньнем у руках вузельчыкаў вяровіцы або зярнятак ружанцу.

12. Малітва павінна доўжыцца ня менш за адну гадзіну ў дзень.



13. Цягам малітвы (калі душа чыстая ад смяротных грахоў, а малітва чыніцца згодна методыцы) у абсягах сэрца праз нейкі час (межы гэтага часу ў кожнага свае) узьнікаюць пэўныя пачуцьці: цеплыні, моцы. Звычайна — гэта дзеяньне ласкі. Акрамя таго, узьнікае нібы адчуваньне вашага знаходжаньня прад абліччам Бога. Чыніць малітву становіцца лёгка і прыемна.

14. Гэтыя адчуваньні могуць узмацняцца і слабець, што залежыць ад ступені вашае засяроджанасьці, ад пачуцьцяў і думак, а таксама ад самога Бога. Вы павінны самі падбіраць у сабе думкі і пачуцьці, якія б узмацнялі вашую лучнасьць з Богам і вынікі гэтае лучнасьці.

15. Ступень цеплыні (агню) у абсягах сэрца і адчуваньне моцы будуць расьці ў меру вашага стараньня і часу, аддадзенага малітве.

16. Ад такой малітвы ў вас будзе ўзрастаць адданасьць Богу, а душа ачышчацца ад усяго благога.

17. Малітвы можна разнастаіць, але важна, каб яны былі кароткія, бо ў кароткай малітве лягчэй захаваць засяроджанасьць. Малітва можа пераходзіць і ў даўжэйшы маналог, але нельга губляць засяроджанасьць розуму ў сэрцы.

18. Малітваю вы можаце мэтанакіравана змагацца з заганамі. Дзеля таго розумам давядзіце агіднасьць свае заганы і лучыце, засяроджвайце гэтыя довады ў сэрцы, быццам апускаючы яго ў звышрэальную цеплыню, ад чаго ў вас узьнікне агіда да заганаў.

19. У малітве вы можаце прасіць Бога для сябе пра што-небудзь карыснае дзеля душы. Адначасова просьба мусіць выражацца праз адчуваньне ў душы цеснае лучнасьці з Богам і цеплыні (агню).

20. Усякая просьба мусіць суправаджацца словамі: "Але хай будзе воля Твая, бо Ты лепш ведаеш, што мне патрэбна".

21. Неабходна помніць, што выніковасьць малітвы шмат залежыць ад чысьціні душы, ад вашае духоўнае роднасьці з Богам. Тут вельмі дапаможа частая споведзь і годнае прыняцьце сьвятога прычасьця.

22. Калі падчас малітвы паводле гэтае методыкі ў душы не ўзьнікае ніякіх пачуцьцяў, то такое здараецца:

- пры сьмяротным граху;
- пры моцнай хваробе;
- пры вялікай стоме;
- пры незасяроджанасьці.

Пазначаных прычынаў трэба ўнікнуць.

23. Малітву неабходна скончыць удзячнасьцю за ўсё ў ёй атрыманае і неатрыманае.

24 Калі малітва пачне атрымлівацца, то чалавек гэтак прывыкае, што ўжо ня можа без яе абысьціся.

**У гісторыі Новае Уніі на Беларусі напачатку XX стагодзьдзя ёсьць шмат цікавых эпізодаў, зьвязаных зь нелегальнай дзейнасьцю уніятаў-адраджэнцаў. Прычым той, хто ўпершыню знаёміцца з гэтымі спробамі аднавіць нашую Царкву, будзе надзвычай зьдзіўлены колькасьцю выдатных беларускіх дзеячоў і асобаў, якія так ці йначай спрычыніліся да адраджэньня Уніі на Беларусі.**

Сяржук АБЛАМЕЙКА

# НЕВЯДОМАЯ УНІЯ:

## перадгісторыя ў XX стагодзьдзі

У 1904 годзе Іван Луцкевіч, едучы ў Вільню на навучаньне, зрабіў працяглы прыпынак у Львове, пазнаёміўся зь Мітрапалітам Андрэем Шэптыцкім і пасябраваў з ім. Грунтам іхнага збліжэньня стала агульнае захапленьне калекцыянэрствам і даўніной. Аднак, ня толькі гэта. Па зьвестках а.Л.Рымара, Іван Луцкевіч марыў пра стварэньне беларускай нацыянальнай Царквы ў форме Каталіцтва ўсходняга абраду – Уніі[1]. І ў гэтым ён знайшоў шчыры водгук уладыкі Андрэя. У тым часе на Беларусі працягвалася зьнішчэньне ўсяго, што яшчэ нагадвала аб яе уніяцкім мінулым – замалёўваліся роспісы, выкідаліся абразы. Трэба было хоць нешта захаваць. Таму ў Львоўскім Царкоўным Музэі, якім апекаваўся Мітрапаліт, быў створаны адмысловы беларускі адзьдзел, і захавальнікам ягоных фондаў з правам набыцьця прадметаў уладыка Андрэй прызначыў Івана Луцкевіча[2]. Робячы закупы для тога адзьдзелу, наноўпрызначаны захавальнік ўратаваў значную частку нашых помнікаў. Шматлікія крыжы, мітры, амафоры — усё гэта тады было куплена на грошы Мітрапаліта[3]. Езьдзячы па службовых справах у Львоў, І. Луцкевіч заўсёды спыняўся ў доме Мітрапаліта. І ў часе тых гутарак высьпявалі пляны адраджэньня Уніі на Беларусі. Прычым, як сьведчыць Антон Луцкевіч, гэтая ідэя не была плёнам аднаго Івана, яна лунала ў галовах ці ня ўсіх тагачасных беларускіх адраджэнцаў[4].

Таму ў 1907 годзе пад уплывам Івана Луцкевіча Мітрапаліт Андрэй рашаецца на вельмі небясьпечнае падарожжа ў Беларусь, Расею й на Украіну дзеля бліжэйшага азнаямленьня са становішчам на колішніх уніяцкіх абшарах і магчымасьцямі адраджэньня Уніі[5]. З падробным пашпартам на імя галіцкага адваката Алясьніцкага, даючы кругаля праз Саксонію, ён інкогніта прыязджае ў Вільню. Невялікі беларускі актыў сустрэў яго вельмі ўзрушана й прыязна. Мітрапаліт наведаў рэдакцыю "Нашай Нівы", якую выпісваў і чытаў ад самага пачатку яе выданьня, сустрэўся зь беларускімі дзеячамі й невялікай групай сьвятароў, сярод якіх быў будучы канонік Віленскай капітулы праф. а. Лявон Жэброўскі, які ледзь тады ня выдаў Мітрапаліта, бо, праводзячы ўладыку, кінуўся на пэроне цалаваць яму руку. Пасьля ў суправаджэньні Івана Луцкевіча Мітрапаліт наведаў Менск і Слуцак, дзе тады праходзіла сельскагаспадарчая выстава й была добрая нагода пазнаёміцца з настроямі беларускага сялянства[6].

Далей уладыка Андрэй накіраваўся ў Расею, дзе наведаў Пецярбург, Маскву й некалькі манастыроў, і на левабярэжную Украіну. У Пецярбургу ён прыняў ва ўлоньне Каталіцтва некалькі чалавек, сярод якіх былі, між іншым, маці будучага расейскага Экзарха а. Леаніда Фёдарава Л.Д.Фёдарава і стараабрадзкі сьвятар а. Яўстаф Сусалеў[7].

У часе падарожжа ў цягніку нейкі чалавек, які выдаваў сябе за беларуса, скраў у Мітрапаліта ягоны падробны пашпарт. Гэта пагражала сур'ёзнымі непрыемнасьцямі, і толькі коштам вялікіх намаганьняў многіх людзей Мітрапаліту ўдалося ў Пецярбургу дастаць новы падробны пашпарт[8]. Пасьля расейскай сталіцы пад выглядам гандляра буйной жывёлай Мітрапаліт спыніўся на некалькі дзён у Віцебскай губерні ў свайго сябры графа Красінскага, ізноў знаёмячыся з рэлігійнымі настроямі беларускага сялянства[9]. Пасьля гэтага другога наведваньня Беларусі ўладыка Андрэй пасьпяхова пакінуў межы Расейскай імпэрыі[10].

Аднак расейская разьведка дазналася аб гэтым нелегальным падарожжы: пасьля на працягу некалькіх гадоў прэса цкавала Мітрапаліта. Адным з удзельнікаў цкаваньня ў "Новом времени" ад 29 красавіка 1912 году быў Аляксандар Сталыпін, малодшы брат расейскага прэм'ера.

А тады, у пачатку 1908 году, Мітрапаліт Андрэй, маючы інфармацыю зь Беларусі, выправіўся ў Рым да Папы Пія X, зь якім, дарэчы, быў у сяброўскіх адносінах. 18 лютага 1908 году Папа даў Мітрапаліту Шэптыцкаму вельмі шырокія паўнамоцтвы адносна былой Кіеўскай Мітраполіі, якія ён выкарыстоўваў яшчэ ў 20-30-я й нават 40-я гады, прызначаючы Экзархаў і епіскапаў на гэтыя тэрыторыі[11].

Карыстаючыся дадзенымі яму сакрэтна правамі, уладыка Андрэй стварыў Расейскі Экзархат на чале з Экзархам а. Леанідам Фёдаравым і хіратанізаваў у 1914 годзе а. Іосіфа Боцяна на Луцкага уніяцкага біскупа. За гэтыя крокі ён падвяргаўся пастаянным нападкам і рэзкай крытыцы з боку лацінскага (пераважна польскага) клеру Расейскай імпэрыі, ня кажучы ўжо пра расейскія ўлады, якія пасадзілі яго ў манастырскую турму. Нават у Ватыкане далёка ня ўсе ведалі пра тыя паўнамоцтвы й, адпаведна, з неразуменьнем успрымалі крокі Мітрапаліта ў Расеі.

Толькі калі распалася імпэрыя, і ўдалося пераадолець супраціў польскага ўраду, Мітрапаліт змог выехаць у Рым для справаздачы аб сваіх захадах. Па дарозе ён заехаў у Вену, узяў у натарыуса Фукса арыгіналы сакрэтных паўнамоцтваў Папы Пія X і зь імі 16 сьнежня 1920 году прыбыў у Рым. Тады яшчэ быў жывы пралат Брэсан – колішні сакратар Папы Пія X – які пацьвердзіў сапраўднасьць паўнамоцтваў (быў нават вывучаны почырк Папы й пячатка на грамаце), і з аўдыенцыі ў Бенедыкта XV Мітрапаліт Андрэй выйшаў цалкам апраўданым[12]. Сьвяты Айцец разгледзеў справаздачны мэмарандум Мітрапаліта, ухваліў яго й зацьвердзіў усе прызначэньні ўладыкі Андрэя. "Сьв. Айцец... благаволіў пацьвердзіць Высокапраасьвяшчэнънейшаму Андрэю Шэптыцкаму... усе надзвычайныя паўнамоцтвы, атрыманыя ім ад Яго папярэдніка, Сьв. Айца Пія X на аўды-

енцыях 18 і 22 лютага 1907 году, якімі прадугледжваецца разьвіцьцё каталіцкай акцыі ў Расеі... Апрача таго, Яго Сьвятасьць пацьвердзіў выбар і хіратанізацыю ў біскупы для русінскай Луцкай Епархіі Праасьвяшчэннага Боцяна..."[13]

* * *

Вернемся, аднак, на 10 гадоў назад. У канцы 10-х гадоў XX стагодзьдзя Іван Луцкевіч і Мітрапаліт Андрэй распрацавалі плян адраджэньня Уніяцкай Царквы на Беларусі. І ў 1909-1910 гадох была зробленая спроба той плян ажыцьцявіць. І тут мы зноў сустракаемся з покрывам таямнічасьці й сакрэтнасьці, якое ахутвала гэтую гісторыю на працягу некалькіх гадоў. Справа йдзе пра гэтак званае Акцыянэрнае парцэляцыйнае таварыства. Калі ў 1914 годзе польскі друк высунуў супраць Івана Луцкевіча абвінавачаньні ў сувязях з хакацістамі (калябаранцкім рухам у Польшчы, што выступаў за далучэньне Польшчы да Нямеччыны), якія прадавалі немцам маёнткі й помнікі культуры, быў створаны Тарыскі суд у складзе Вацлава Іваноўскага, Браніслава Крыжаноўскага й Міхаіла Рэмера. Нават даючы паказаньні на судзе, Луцкевіч не назваў сапраўдных мэтаў стварэньня Парцэляцыйнага таварыства, будучы, відаць, зьвязаным таямніцаю зь Мітрапалітам Андрэем[14].

Аб сапраўдных мэтах тога Таварыства даведваемся са сьведчаньняў А. Луцкевіча, а. А. Станкевіча й а. Л. Гарошкі[15]. У той час у Расейскай імпэрыі праводзілася зямельная рэформа Сталыпіна. Іван Луцкевіч і Мітрапаліт Андрэй задумалі стварыць Акцыянернае парцэляцыйнае таварыства, купіць на Беларусі зямельныя маёнткі, перасяліць туды пэўную колькасьць безьзямельных сялянаў з Галіцыі, распарцэляваць зямлю паміж беларусамі й галіцкімі уніятамі, утварыць для іх некалькі супольных грэка-каталіцкіх парафіяў і ў такі спосаб пакласьці пачатак адраджэньню Уніяцкай Царквы на Беларусі.

Таварыства было ўтворанае. Буйным акцыянэрам выступіў сам уладыка Андрэй. Сярод заснавальнікаў Таварыства быў граф Язэп Тышкевіч з Лагойска, які прапанаваў для гэтай справы свой маёнтак Дзядзінавічы ў Барысаўскім павеце Менскай губэрніі плошчай у 12000 дзесяцінаў і коштам 1240000 рублёў[16]. Было выдаткавана шмат намаганьняў і фінансавых сродкаў, але, прадчуваючы нешта нядобрае, заварушыліся польскія землеўладальнікі на Беларусі й аказалі ўціск на Сталыпіна. У выніку Старшыня Савету Міністраў адмовіўся зацьвердзіць Акцыянэрнае таварыства й, натуральна, ягоныя пляны адносна парцэляцыі зямлі ў Барысаўскім павеце паміж беларусамі й украінцамі[17]. "...з гэтых вялікіх і сапраўды цікавых плянаў ня выйшла тады нічога", – пісаў аб той няўдачы а. Адам Станкевіч[18]. Ён жа назваў і імёны першых двох беларускіх сьвятароў, ксяндзоў Язэпа Зэльбу й Вінцэся Герасімовіча, якія актыўна ўдзельнічалі ў гэтым праекце і ў выпадку зацьвярджэньня Сталыпіным Таварыства меліся прыняць усходні абрад і стацца уніяцкімі сьвятарамі[19].

Акрамя таго, Мітрапаліт Андрэй і І. Луцкевіч укладаюць праект адкрыцьця ў Львове Вышэйшай Багаслоўскай Школы для украінцаў і беларусаў, рада якой мела б права наданьня доктарскіх ступеняў, і адсылаюць яго ў Рым на зацьверджаньне. Аднак і ў гэтым выпадку з-за непрыхільнай дзейнасьці польскіх біскупаў, якія актыўна пратэставалі ў Вене й Рыме супраць адкрыцьця ў Львове тае школы, праект ажыцьцявіць не ўдалося[20].

* * *

15 верасьня 1914 году Мітрапаліт Шэптыцкі быў арыштаваны ў Львове акупацыйнымі расейскімі ўладамі й 20 верасьня перавезены ў кіеўскі гатэль "Кантыненталь". З сабой Мітрапаліту дазволілі ўзяць толькі трох чалавек. Ён спыніў выбар на рэктары Львоўскай Духоўнай Сэмінарыі а. Іосіфе Боцяне, манаху-базыльляніне Іосіфе Гроцкім і юнаку-слузе. Галіцыя была далучаная да Расейскай імпэрыі, а на ейных абшарах існавалі колішнія уніяцкія епархіі, скасаваныя расейскім урадам, але не скасаваныя кананічна Сьвятым Пасадам. Будучыня была няпэўная, і ўладыка Андрэй рашаецца на выкарыстаньне сакрэтных паўнамоцтваў, у прыватнасьці дазволу Пія X хіратанізаваць біскупаў без абавязковага саслужэньня яшчэ двух уладыкаў. І а. Боцяна за духоўніка ён узяў з сабою невыпадкова. 21 верасьня 1914 году ў адным з нумароў гатэля "Кантыненталь" у Кіеве ў саслужэньні манаха І. Гроцкага (слуга стаяў на варце ў калідоры) Мітрапаліт адслужыў абедню й пасьля яе высьвяціў а. Іосіфа Боцяна на першага беларускага уніяцкага біскупа ў XX стагодзьдзі. Хоць Шэптыцкі й назваў яго ўладыкам Луцкім, аднак у грамаце пра высьвячэньне даў яму юрысдыкцыю над усімі епархіямі, што былі скасаваныя царскім урадам у 1839 і 1875 гадох, але кананічна існавалі: Полацкай, Смаленскай, Уладзіміра-Валынскай, Холмскай, Тураўскай, Пінскай, Берасьцейскай і Луцкай[21]. Адразу пасьля хіратоніі Мітрапаліт заявіў ахове, што адмаўляецца ад суправаджэньня й адаслаў новага ўладыку Боцяна й а. Гроцкага назад у Львоў. Так яны апынуліся на волі.

Зімою 1917 году біскуп Боцян інкогніта зьдзейсьніў пастырскую візытацыю на Беларусь. Па дарозе ў Вільню ўладыка наведаў Жыровічы, Слонім, Сьвіслач, Наваградак, усюды сустракаўся з простымі людзямі й гаварыў да іх па-беларуску – па сьведчаньнях сучасьнікаў ён свабодна валодаў беларускай мовай. У Вільні біскуп сустрэўся з групай беларускіх уніяцкіх актывістаў і сьвятароў, сярод якіх быў вядомы энтузіяста Уніі а. Уладзіслаў Талочка, і адправіў Сьвятую Літургію для віленскіх грэка-каталікоў у адным з нумароў гатэля "Bristol"[22]. Верагодна, тады ж біскуп Боцян накіраваў для працы на Віленшчыне уніяцкага сьвятара, аднак ізноў жа сакрэтна, так што гісторыя данесла да нас толькі яго ініцыялы – а. Т. С.[23].



Малюнак Андруся Пазьняка

У 1915 годзе біскупу Боцяну дазволілі сустрэцца са зьняволеным у Курску Мітрапалітам, і тады ж у Курск па даручэньні Івана Луцкевіча нелегальна езьдзіў Вацлаў Іваноўскі. Ён пасяліўся ў гатэлі Палтарацкага, у якім быў зьняволены й уладыка Андрэй, пражыў там тыдзень, спрабуючы дамовіцца з прыслугай, але марна. Тая сустрэча не адбылася[24].

* * *

Такім чынам, на пачатку XX стагодзьдзя на Беларусі існаваў уніяцкі рух, да якога так ці інакш спрычыніліся Іван і Антон Луцкевічы, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Казімір Кастравіцкі (Карусь Каганец), аа. Язэп Зэльба, Вінцэсь Герасімовіч, Лявон Жэброўскі, Адам Лісоўскі, Адам Станкевіч, Язэп Германовіч, Вінцэсь Гадлеўскі, Уладзіслаў Талочка, Антон Неманцэвіч, Фабіян Абрантовіч, Язэп Бела-галовы, Міхаіл Бугеніс, Лук'ян Хведзька, Францішак Будзька, Эдвард Юневіч і шмат іншых. Служыліся Літургіі, Унія прапагандавалася ў газэтах ("Куток аб Уніі" у "Крыніцы" — воргане БХД), чыталіся рэфераты й, самае галоўнае, была падтрымка й водгук "зьнізу", з боку сялянства.

Быў таксама водгук і "зьверху". Апроч ужо згаданага графа Тышкевіча моцна спрычынілася да уніяцкай справы княгіня Магдалена Радзівіл — вядомая беларуская патрыётка й мецэнатка[25]. Княгіня была захопленая ідэяй адраджэньня Уніяцкай Царквы на Беларусі. Яна аказвала падтрымку многім беларускім сэмінарыстам. У 1916 годзе княгіня Радзівіл ахвяравала ксяндзу Францішку Будзьку вялікае дыямантавае калье, наказваючы, каб выручаныя ад яго продажу грошы пайшлі на заснаваньне ў Рыме беларускай уніяцкай калегіі, дзе б рыхтаваліся уніяцкія сьвятары для Беларусі[26]. Сымпатыі княгіні да Уніі не выклікаюць сумніву, бо на мяжы 1917-18 гадоў яна ахвяравала 5000 рублёў расейскаму Экзарху а. Леаніду Фёдараву, усімі тады гнанаму й пагарджанаму[27].

Ксёндз Будзька перадаў тое калье а. Фабіяну Абрантовічу, будучаму уніяцкаму Архімандрыту, марыяніну й Адміністратару Усходнекаталіцкае епархіі ў Харбіне, які адвёз яго ў Петраград і там разам з а. Лук'янам Хведзькам, які меўся хутка прыняць усходні абрад, схаваў у надзейным мейсцы на час ваеннае завірухі. У 1920 годзе а. Будзька памёр, а а. Хведзька быў арыштаваны й расстраляны бальшавікамі ў сувязі з працэсам архібіскупа Цепляка, аднак перад арыштам пасьпеў перахаваць той скарб.

У 1924 годзе а. Ф. Абрантовіч, выкарыстоўваючы дакуманты дыпляматычнага кур'еру, прыехаў у Ленінград, зь вялікімі цяжкасьцямі адшукаў тое кальле й вывез яго ў Заходнюю Беларусь. Яно каштавала тады 15000 даляраў. Частку гэтых грошай а. Ф.Абрантовіч выдаткаваў на пабудову ў Пінску Каталіцкай Сэмінарыі. Але калі ўбачыў, што ў ёй, ня гледзячы на тое, што а. Фабіян быў яе рэктарам, запаноўвае польскі дух, ён частку грошай уклаў у нерухомасьць у Наваградку, а частку пазычыў біскупу С. Лазінскаму. Калі а. Фабіян Абрантовіч уступаў у манастыр аа. Марыянаў у Друі, які па задуме ягоных стваральнікаў біскупа Юрыя Матулевіча й а. Андрэя Цікоты павінен быў пашыраць на Беларусі ідэю царкоўнай еднасьці[28], ён перадаў тую нерухомасьць у Наваградку й грошы з пазыкі біскупу Лазінскаму як пасаг у Друйскі манастыр[30].

У 1925 годзе ўзьнікла выдавецкая суполка "Беларуская Хрысьціянская Думка", якая ў 1926 годзе заснавала Беларускую Друкарню імя Францішка Скарыны. Сябрамі тае суполкі былі вядомы беларускі уніяцкі сьвятар а. Вацлаў Аношка, а таксама а. Адам Станкевіч, а. Вінцук Гадлеўскі, Фабіян Ярэміч і суперыёр Друйскага Дому а. Андрэй Цікота[31].

Друкарня імя Ф.Скарыны фінансавалася найперш Друйскім Домам аа. Марыянаў, які меў грошы з колішняе ахвяры Магдалены Радзівіл.[31] З улікам гэтага й таксама таму, што ў гэтай друкарні выходзіў беларускі уніяцкі часопіс "Да Злучэньня", выдаваліся беларускія уніяцкія календары й іншая літаратура (напрыклад, брашура Беларуса Б. "Што такое Унія"), можна лічыць, што жаданьне княгіні Радзівіл было выкананае, што пазьней яна і сама прызнала. Трэба таксама дадаць, што з Друйскага Дому Марыянаў выйшла цэлая група пазьнейшых уніяцкіх сьвятароў, сярод якіх і Апостальскі Візытатар для Беларусаў уладыка Чеслаў Сіповіч.

* * *

Гэта толькі некалькі пачатковых эпізодаў з багатай гісторыі Новае Уніі на Беларусі ў XX стагодзьдзі. Гэта прэлюдыя да сапраўднага адраджэньня Уніі ў 20-30-я гады ў Заходняй Беларусі, калі была створаная Царква ў ліку 32 парафіяў на чале з біскупам Мікалаем Чарнэцкім і заснаваны дзесятак уніяцкіх манастыроў.

---

1. а. Л. Рымар. Мітрапаліт Андрэй Шэптыцкі. Парыж: Божым шляхам. 1954. № 63. С. 6.
2. ЦДзАМЛіМ Ф. 3-С воп. 1. Спр. 260. Л.3.
3. ЦДзАМЛіМ. Ф. 3-С воп. 1. Спр. 1. Л. 46-53.
4. А. Луцкевіч. Мітрапаліт Шэптыцкі і беларускі рух. Львів: Богословія 1926. T.IV, кн. 1-2. С. 46.
5. М. Чубатый. Проф. Д-р. Українська Католицька Церква. - Рим, 1990. С. 22.
6. о. А. Солодух. Митрополит А. Шептицкий і уніоністичні змагання на Білій Руси. Львів: Богословія. 1926. T.IV, кн. 1-2. С. 89.
7. Василий, диакон ЧСВ. Леонид Фёдоров. Жизнь и деятельность. Рим, 1966. С. 116.
8. Тамсама. С. 118.
9. Тамсама.
10. Тут неабходна заўважыць, што ў гістарыяграфіі існуюць два погляды на дату паездкі Мітрапаліта ў Расею. Тут дата (1907) прыводзіцца ў адпаведнасьці з традыцыяй беларускай гістарыяграфіі (а. А. Саладух, а. Л. Гарошка). Аднак усё ж трэба прызнаць, што больш верагоднай датай зьяўляецца 1908 год, як гэта падае дыякан Васіль (гл. сп. 7). Таксама й прозьвішча Алясьніцкі дыякан Васіль падае як Ледніцкі. Ня выключана, што правільнае й першае, і другое прозьвішчы, улічваючы наяўнасьць двух пашпартоў. Таксама й даты аўдыенцыяў у Пія X прыводзяць і 1907, і 1908 гады.
11. а. Л. Рымар. Op. cit. С. 7.
12. Василий диакон ЧСВ. Op. cit. С. 454-456.
13. Тамсама. С. 455.
14. ЦДзАЛіМ Ф. 3-С. воп. 1. Спр. 262. Л. 10-11.
15. А. Луцкевіч. Op. cit. С. 47; а. А. Станкевіч. Хрысьціянства і Беларускі народ. Вільня, 1940. С. 167; а. Л. Гарошка. Пад знакам "рускае і польскае веры". Парыж: Божым шляхам. 1955. № 64-65. С. 6.
16. Гэтую лічбу падаваў тагачасны польскі друк. Сам І. Луцкевіч сьведчыў, што кошт маёнтка быў меншы: ЦДзАЛіМ Ф. 3-С. воп. 1. Спр. 262. Л. 10.
17. а. Л. Гарошка. Op. cit. С. 6.
18. а. А. Станкевіч. Op. cit. С. 167.
19. Тамсама.
20. а. Л. Рымар. Op. cit. С. 5.
21. Василий диакон ЧСВ. Op. cit. С. 292-293.
22. о. А. Солодух. Op. cit. С. 91.
23. Тамсама. С. 92.
24. Я. Гнатів. Віра Батьків. Рым-Люблін, 1990. С. 85.
25. Г. Піхура. Княгіня Магдалена Радзівіл. Лёндан: Божым шляхам. 1965. № 2. С. 10.
26. а. Ч. Сіповіч. Айцец Архімандрыт Фабіян Абрантовіч (1884-1946). Парыж: Божым шляхам. 1957. №76-81. С. 12.
27. Василий диакон ЧСВ. Op. cit. С. 347.
28. У 1927 годзе усе друйскія Марыяне – аа. Андрэй Цікота, Фабіян Абрантовіч, Язэп Германовіч, Язэп Дашута, Віталь Хамёнак і Казімер Смулька – зьвярнуліся ў Ватыкан з просьбаю даць дазвол на прыняцьце ўсходняга абраду. Дазволу, аднак, не далі: K. Michal Wojciehowicz. Placówka wschodnia w Harbinie. – W ks.: Marianie. 1673-1973. – Rzym, 1975. S. 247.
29. а. Ч. Сіповіч. Op. cit. С. 12.
30. ДзАБВ Ф. Р-1. воп. 1. Спр. 1232. Л. 43.
31. Ю. Туронак. Да гісторыі Друйскага манастыра Марыянаў. Браслаўская звязда. 1991. 23 крас.

Тацяна Шамякіна

# Душа, жыцьцё, сьмерць

У гісторыі чалавецтва хрысьціянства вылучае тры ключавыя падзеі: стварэньне Богам чалавека і яго грэхападзеньне; сыходжаньне Сына Божага ў чалавечае цела і ахвяра, прынесеная Ім на Галгофе, што адкрывае шлях да выратаваньня кожнага чалавека; нарэшце, будучы Страшны суд.

Чалавек быў створаны праз зьліцьцё двух пачаткаў — цялеснага і духоўнага ("прах зямны" і "душа жывая"). Інакш кажучы, унутры нас ёсьць нейкі духоўны "пласт", які зьяўляецца вытокам і нашай псіхікі, і нашага мысьленьня. Гэта і ёсьць нашае вечнае "Я", нейкая прыхаваная Вышэйшая Рэальнасьць, вобраз Бога — *душа*.

Толькі душа стрымлівае чалавека ад дэградацыі і разбурэньня, якому падуладная матэрыя — цела. Інакш кажучы, *не цела заключае ў сабе душу, а душа трымае цела як еднасьць*. Але пры ўмове, калі душа сама жыве поўным жыцьцём, не скажаючы сваёй уласнай прыроды, а гэта магчыма толькі пры глыбокім адзінстве душы з Богам. Парушыўшы забарону Бога і зьеўшы яблык з Дрэва Пазнаньня Дабра і Зла, Адам і Ева страцілі сваю духоўную сувязь з Богам, а праз гэта страцілі магчымасьць стрымліваць сваё цела ад распаду і ўрэшце ад сьмерці. Як толькі чалавек перарваў лінію духоўнай сувязі з Богам, у яго ўвайшла сьмерць — разлучэньне душы з целам.

З таго часу чалавек стаў марыць пра згубленую (райскую) гармонію, пра аднаўленьне сувязі з Богам.

Духоўнасьць чалавека нельга перадаць нашчадкам, як рысы твару. Духоўнасьць кожны стварае сам, творыць сваю душу, робіцца асобай. Зразумеўшы гэта даволі рана, нашы продкі не маглі ўявіць, што такая каштоўнасьць, як душа, зьнішчаецца разам са сьмерцю цела. Так узьнікла ідэя пераходу душы з аб'екта ў аб'ект, а зь ёю — і адухаўленьне прыроды, анімізм. Тэорыя рэінкарнацыі (падарожжа душы з аднаго цела ў другое) і сёньня зьяўляецца асновай рэлігіі Індыі і некаторых народаў Індакітая — індуізму. Нават у вельмі сур'ёзных навуковых працах друкуюцца гісторыі пра нечаканы ўспамін чалавекам, часьцей дзіцём, сваіх папярэдніх жыцьцяў. У народнай сьвядомасьці славян амаль не захавалася ўспамінаў пра пераход душы з аднаго чалавечага цела ў другое, затое ледзь не да сёньняшняга часу жылі рэшткі веры ў магчымасьці душы пасяляцца ў кветках, дрэвах, матыльках, птушках. У антычнай міфалогіі ўсе душы памерлых, незалежна ад заслугаў чалавека ў зямным жыцьці, аказваліся ў змрочным падземным царстве Аіда (Плутона). Толькі аднаму сьмяротнаму — выдатнаму творцу-музыку Арфею — было дазволена вывесьці з Аіда сваю душу, якая ў міфе, што заўсёды сімвалічна тлумачыць рэальнасьць, выступала пад імем яго любай жонкі Эўрыдыкі. Аднак вызваліць душу з-пад зямлі не ўдалося нават яму.

Славяне таксама мелі ўяўленьне пра іншасьвет, пра падземнае царства памерлых. Часам героі казак нават спускаліся ў яго праз калодзеж і вярталіся назад на зямлю. Але ў прынцыпе паняцьце пекла ў нашых продкаў было распрацавана далёка не ў такой ступені, як у грэкаў (у індусаў падзем'я ўвогуле не існавала), хіба, толькі для "нячыстых" душаў (ворагаў, самагубцаў, забойцаў), якія рабіліся істотамі дэманічнай прыроды: нячысьцікамі, вупырамі, непрытомнікамі, пужайламі, ваўкалакамі. Але найбольш распаўсюджанай і найбольш, відаць, раньняй была вера ў перасяленьне душы ў расьліну, часьцей у дрэва. Вось чаму прыносіліся ахвяры магутнаму дубу, бо ў ім жыла душа першапродка роду[1]. Вось чаму для будоўлі беларусы не сьсякалі рыпучае дрэва, бо ў ім пакутавала нейчая злая душа. Магчыма, таму рабіну да сёньня лічаць помслівай, а бяроза, наадварот, назаўсёды ўвайшла ў лірычную паэзію як сімвал цнатлівасьці, чысьціні, пяшчоты. Вось чаму русалак (ласкатух, гушкалак, мавак, берагінь), хаця яны як быццам жывуць у вадзе, у лясных азёрах і рэчках, абавязкова зьвязваюць з дрэвамі: натуральна — гэта ж душы памерлых. Па народным павер'і ў ноч самага магутнага буяньня расьліннасьці — на Купальле — дрэвы могуць пераходзіць з месца на месца і размаўляць паміж сабою. Пазьней з дрэва пачалі выразаць выявы продкаў і захоўваць на покуці — у сакральным куце хаты (пасьля — чырвоны куток з абразамі). Менавіта з гэтых фетышаў (пенатаў, лараў) разьвілася ў Антычным Рыме выдатнае мастацтва пасьмяротных скульптурных партрэтаў.

Адухоўленая нашымі продкамі расьліннасьць — гэта мара або веданьне (на ўзроўні валхвоў, жрацоў, шаманаў, вядзьмарак) пра магчымасьць выратаваньня душы, адраджэньне яе, як адраджэньне ўсяго жывога вясною. Уласна, такое веданьне (вядома ж, прымітыўнае, бо на кожным этапе разьвіцьця чалавецтва яму даваліся толькі тыя веды, якія здолеў бы тады ўспрыняць яго мозг) было зафіксавана і ў даволі разьвітых філасофіі і рытуалах старажытнага Егіпту, Месапатаміі, Індыі, антычнай Грэцыі. Гаворка ідзе пра містэрыі, таемны сэнс якіх раскрываўся далёка ня ўсім, а толькі прысьвячоным, прычым ступеняў прысьвячэньня было некалькі — з рознымі выпрабаваньнямі, ачышчальнымі абрадамі і веданьнем адпаведных сакрэтаў[2].

У Егіпце найбольш вядомыя містэрыі былі зьвязаныя з Асірысам, Ізідай, Горам, у антычнай Грэцыі — так званыя Элеўсінскія містэрыі, прысьвечаныя багіні зямлі Дэметры і яе дачцэ Персефоне. У таямніцу Элеўсінскіх містэрыяў было прысьвечана даволі

---

[1] А Якуб Колас ужо ў XX ст. у сваіх творах называў дуб найбольш мудрым і відушчым з усіх дрэваў.

[2] У далейшым некаторыя таямнічыя рытуалы містэрый выкарыстоўвалі пры пасьвячэньні ў рыцары, майстры пэўных прафесій, нават у студэнты. Але, гавораць, і сёньня ў Індыі захаваліся дзевяць Містаў, якія валодаюць усёй мудрасьцю Сусьвету.

шмат свабодных жыхароў Афін, але ніводны не выдаў сакрэтаў (падазрэньне было толькі на аднаго чалавека — вялікага драматурга Эсхіла, у якога прага замацаваць таемнае ў слове аказалася мацней за страх пакараньня). Містэрыі, уласна, і распавядалі драму пра лёс душы чалавека і пра сувязь яе з боскім пачаткам. Сэнс містэрыяў быў у паглыбленьні чалавека ва ўласную душу, дзе хаваюцца вышэйшыя законы, дзе заключана вечнае. Прысьвячоныя ў Элеўсінскія містэрыі (як у містэрыі Асірыса і Ізіды ў Егіпце) пераадольвалі страх сьмерці і пачыналі верыць у адраджэньне, у новае жыцьцё пасьля пагібелі цела. Так Персефона вяртаецца — разам з новай расьліннасьцю — да сваёй маці Дэметры, і тады зямля квітнее, на ёй пануе гармонія, прыгажосьць і радасьць. Персефона (душа) па паходжаньні ад вечнага — ад Дэметры, але вымушана некаторы час пакутаваць у падзем'і. Так і кожная душа павінна прайсьці праз пакуты, каб зразумець, што ёсьць Дабро, што ёсьць Бог. Абудзіўшы ў сабе Вечнае, падтрымоўваючы зь ім сувязь, чалавек будзе здольны вяртацца да ўсеагульнай Гармоніі, да Сусьветнага Духу.

Містэрыі падрыхтоўвалі абраных людзей да таго, каб у іхніх душах абуджаўся вышэйшы духоўны сьвет. Праўда, пры гэтым місты (прысьвячоныя) праходзілі часам праз страшныя выпрабаваньні, можа быць, нават праз клінічную сьмерць. Ёсьць навуковыя працы, якія зьвязваюць сюжэты многіх індаэўрапейскіх чароўных казак якраз з такімі абрадамі (ініцыяцыямі): падарожжа героя ў невядомае царства ёсьць, уласна, адчуваньні душы ў час такой часовай сьмерці (з якой валхвы, шаманы, ведзьмакі ўмелі выводзіць). Падобна тлумачацца і некаторыя вядомыя міфы. Так, Рудольф Штайнер лічыць чароўнае Залатое Руно (цыкл міфаў пра арганаўтаў) сімбалем нейкай важнейшай каштоўнасьці быцьця. Некалі яно было згубленае з-за нізкай жывёльнай прыроды чалавека, і яго другое набыцьцё зьвязана з перамогай над страшнымі сіламі (Сцыла і Харыбда, дракон і інш.), пад якімі неабходна разумець першабытныя інстынкты людзей, якім прыходзіць на дапамогу іх уласная сьвядомасьць (Медэя) з яе чароўнай сілай. Так у міфах адбілася сусьветная драма. Пазнаньне яе набліжала чалавека да Боскага. Але так было з нямногімі, бо праз містэрыі праходзілі далёка ня ўсе. Са зьяўленьнем Хрыста ня толькі набліжэньне, але й злучэньне з Богам стала магчымым для ўсіх, бо Хрыстос прынес сьвету нешта нашмат большае ад пазнаньня — любоў і Божую ласку. Хрысьціянства стала сродкам для кожнага знайсьці шлях выратаваньня.

Выратаваць сябе сам чалавек ня здольны — толькі пры дапамозе Бога. І Бог, хаця і дараваў чалавеку свабоду выбару — дабро ці зло[3], — усё ж не пакінуў чалавека, Сам прыйшоў у сьвет, адкрыў чалавеку Сябе. Ісус з Назарэту зьяднаў у сабе дасканалую Божую й дасканалую чалавечую прыроды. І тады Боскае Слова, вечны Логас, Хрыстос стаў ня толькі чыстым духам, але і рэальнай чалавечай асобай, Ісусам. Але адбылося гэта пасьля многіх тысячагодзьдзяў гісторыі.

Буйнейшыя філосафы XIX-XX стст. — ад Гегеля да Ясперса — разумелі, што зьяўленьне Хрыста ёсьць самай глабальнай падзеяй у гісторыі чалавецтва, і называлі час яго нараджэньня "восевым", "вызначальным" часам, найбольш важным ў быцьці Зямлі. Але чаму так доўга не зьяўляўся Збавіцель у сьвет? Магчыма, для таго, каб людзі прыйшлі да Бога самі, выпрабаваўшы перад гэтым усе шляхі ў пошуках выратаваньня. Ісус гаварыў народу: "Я сьвятло сьвету; хто пойдзе за Мною, той ня будзе хадзіць у цемры, але мецьме сьвятло жыцьця" (Ян 8:12).

Перад Уваскрошаньнем душа Ісуса, аддзяліўшыся ад цела, спусьцілася ў пекла, дзе пакутавалі — у выніку грэхападзеньня Адама — душы ўсіх памерлых да Хрыста. Душа яго разбурыла "браму пекла" і вывела адтуль душы бязгрэшных людзей: "І магілы расчыніліся, і многа целаў памерлых сьвятых папаўставала" (Мц 27:52). З дапамогай Хрыста душы сьвятых злучыліся са сваімі ўваскрослымі целамі, як гэта адбылося з самім Хрыстом.



[3] Калі б дабро было толькі вынікам сілы Боскай, яно пераўтварылася б у нішто. Тое, што пазбаўлена свабоды, ня можа быць ні добрым ані злым, а ёсьць непазьбежным. Свабода — самы вялікі падарунак Бога чалавеку, але яна ж — выток самай глыбокай чалавечай трагедыі. Вялікі Інквізітар вінаваціў Хрыста: Ты даў людзям тое, што ім цяжэй за ўсё выносіць — бярэмя свабоды нявыноснае. Сын Божы стаўся чалавекам, бо дзякуючы чалавечай прыродзе Ён, таксама асуджаны на свабоду, павінны быў выбіраць. Адсюль лёс Хрыста, як і лёс кожнага чалавека, глыбока трагічны.

Таму кожны чалавек раскрыжоўвае ў сваёй душы сваю ніжэйшую прыроду і пачынае разумець сьвет, які сам увесь наскрозь — духоўны. Таму хрысьціянства дапамагае чалавеку будаваць свой духоўны сьвет, не пускаючы ў яго нячыстыя энэргіі зайздрасьці, злосьці, ілжывасьці, агрэсіі, страху, ляноты, распусты…

Праўда, далёка ня ўсе запаветы Хрыста былі зразуметыя і рэалізаваныя нават за дзьве тысячы гадоў. Іх практычнае ажыцьцяўленьне стрымлівалася недастатковай духоўнай і інтэлектуальнай падрыхтаванасьцю чалавецтва, хаця вера і давала і дае людзям асабістае выратаваньне. І нават сёньня нам яшчэ далёка да поўнага спасьціжэньня каласальнага аб'ёму інфармацыі, заключанай у вучэньні Хрыста. З іншага боку, як казаў Сьвяты Аўгусьцін, "…хрысьціянства ў сваёй першапачатковай сутнасьці існавала ўжо сярод старажытных народаў і не было часу, калі яго не існавала". Сапраўды, зь верай у несьмяротную душу толькі і магло разьвівацца чалавецтва.

Пахавальныя абрады многіх народаў зьвязаныя з гэтай верай: яны меліся забясьпечыць душы толькі што памерлага чалавека як мага лягчэйшы шлях на неба. Гэта ажыцьцяўлялася, як правіла, пры дапамозе вагню, амаль нематэрыяльная, а значыць, набліжаная да духоўнай субстанцыя якога выконвала і ачышчальную ролю. Адсюль крэмацыя цела нябожчыка ў нашых продкаў і да гэтага часу ў індусаў, а таксама рытуальная роля сьвечкі каля цела нябожчыка. Дасьледчыкі гавораць, што пахавальныя абрады літаральна ўсіх народаў сьвету аформіліся раней, чым усе іншыя абрады сямейнага цыклу, прычым і ў радзінах, і ў вясельлі нельга не заўважыць момантаў падабенства з пахавальнымі абрадамі, — уласна, утварылася адзінае кола "жыцьцё-сьмерць". З-за недахопу месца мы ня маем магчымасьці спыніцца на гэтых абрадах пераходу, адзначым толькі, што надзвычай важным у цыкле было сорак дзён пасьля асноўнае падзеі. 40 дзён — гэта перыяд канчатковага ўступленьня нованароджанага чалавека ў віхуру матэрыі фізічнага плану, а 40 дзён пасьля сьмерці — канчатковае вызваленьне ад гэтай матэрыі. Пасьля сьмерці чалавек сорак дзён чытае кнігу свайго жыцьця. А Хрыстос 40 дзён у пустыні чытаў Кнігу Жыцьця ўсяго чалавецтва. І на трэці, і на дзевяты дзень пасьля сьмерці з душою нешта адбываецца, але менавіта за сорак дзён душа знаёміцца з іншасьветам, з выраем і пеклам, яшчэ ня ведаючы, дзе ёй прызначана месца да Страшнага Суда.

Для хрысьціянскай сьвядомасьці самае важнае — ідэя збаўленьня. Якраз гэта дапамагло хрысьціянству стаць сусьветнай рэлігіяй (ёсьць вядомы выраз: "Душа чалавечая па прыродзе сваёй хрысьціянка"). Адзіны ж шлях выратаваньня для душы — шлях дабра, любові. А для веры ў дабро неабходна вера ў Абсалютнае Дабро, значыць, у Хрыста.

"Царства Нябёснае ўнутры нас", — гаварыў Хрыстос і гэтым указваў поле духоўных пошукаў. Ён жа падказваў і метад пошуку: "Шчасныя чыстыя сэрцам, бо яны Бога ўбачаць". Ачышчаючы сваё сэрца, чалавек дае Дабру праявіцца ў сваёй душы. Бог ёсьць Дух і адкрываецца толькі духоўнаму досьведу, толькі ўнутранаму, духоўнаму зроку. За апошнія стагодзьдзі чалавецтва зьбяднела на духоўны досьвед і пачало давяраць толькі пачуцьцёваму, зьнешняму вопыту, зьвязанаму з матэрыяльным. Адсюль секулярызацыя жыцьця, нявер'е ў Бога, бо ў штодзённым, побытавым вопыце чалавека не апынулася для яго мейсца. А толькі такому зьнешняму вопыту рацыяналісты і прывыклі верыць, лічачы яго адзіна правільным. Між тым гэты вопыт аднабаковы, памылковы, вузкі. Хрыстос гаварыў: "Шукайце ж найперш Царства Божага і праўды яго, а тое ўсё прыкладзецца вам" (Мц 6:33). Толькі так чалавек захоўваецца як вобраз Божы, і толькі пры такім чалавеку магчымае захаваньне самой Зямлі. Інакш зьнікае чалавек як вобраз Божы і зьяўляецца ўсяго толькі адна з жывых істотаў, у якой на першы план выходзіць барацьба за выжываньне і матэрыяльны дабрабыт — замест барацьбы за захаваньне душы.

Зьмяніць сябе цяжэй, чым зьмяніць сьвет. Старажытныя мудрацы казалі, што грэшны шукае тое, чаго яму не хапае, у зьнешнім сьвеце, чалавек мудры — унутры сябе. Толькі праз боль сваёй душы, праз унутранае і можна зразумець зьнешняе. Такім чынам, шлях хрысьціянскай сьвядомасьці ідзе праз таямнічае самаадчуваньне асобы і ейнага ўнутранага кантакту з Богам. Хрысьціянства ёсьць рэлігія збаўленьня. Для Усходу збаўленьне заключана перш за ўсё ва ўсьведамленьні поўнай тоеснасьці, адзінстве чалавека і Бога. Чалавек — часьцінка Бога, Абсалюта, Брахмана. Для хрысьціяніна збаўленьне — гэта далучэньне да Боскага жыцьця, але не растварэньне ў ім. Для Бога каштоўная кожная асоба.

І таму сапраўдная сьмерць, індывідуальны "канец сьвету" — гэта зьмярцьвеньне душы. А збаўленьне — у прыняцьці душою сьвятла і дабра сапраўднага. У прыняцьці Хрыста. Тое, што апісана ў Дабравесьці, адбываецца ў душы кожнага чалавека. Хрыстос чалавечага духу знаходзіцца ў кожным з нас. Ён нараджаецца, і жыве, і раскрыжоўваецца, і ўзносіцца на неба ў кожным чалавеку. Магчымасьць збаўленьня існуе для кожнага. І сьмерць — гэта не канец існаваньня асобы, а вялікая перамена, і якая яна будзе, залежыць ад самога чалавека.

Царква стварыла дастаткова поўнае і яснае вучэньне пра жыцьцё душы ў іншасьвеце, і кожны мае магчымасьць пазнаёміцца з адпаведнай літаратурай. Але нельга не сказаць, што ў сувязі з навейшымі канцэпцыямі і ў навуцы становіцца вырашаецца пытаньне аб несьмяротнасьці душы. Гавораць пра душу як пра палявую структуру, мікралептонную структуру, частотна-амплітудную структуру накшталт галаграмы, якая ўключана ў агромністую галаграму Сусьвету. Максімум інфармацыі пра Сусьвет знаходзіцца ў мазгу чалавека. Яго сьвядомасьць ёсьць вынік узаемадзеяньня паміж палямі, якія генеруе мозг (а яны ўжо актыўна вывучаюцца), і вадародна-гелііявай плазмы Галактыкі.

Паводле сучаснай навукі, чалавек нараджаецца ў сьпіральнай Галактыцы, жыве ў межах зямной біясферы і зноў вяртаецца ў Галактыку ў выглядзе галаграмы, якая нясе ўсю інфармацыю пра яго. І таму ў прынцыпе верагодна аднаўленьне цела чалавека на аснове яго касьмічнае галаграмы. Інакш кажучы, пасьля Страшнага Суда людзі адновяцца, але гэта будзе ўжо зусім іншая старонка ў гісторыі чалавецтва, наступны этап у яго эвалюцыі.

Працяг з с. 7

Сьв. Максім ВЫЗНАЎЦА

# ПРА ЛЮБОЎ

## з чатырох сотніцаў выбраныя разьдзелы

найвышшае за ўсё, ніколі яшчэ не паспытаў? Такім чынам, калі працяглым устрыманьнем ад пачуцьцёвых насалодаў і асьветаю ў Боскім паступова мы адвучым яго ад гэтага, — то ён, памалу звыкаючы, пацягнецца да Боскага й спасьцігне сваю ўласную годнасьць, а ўрэшце і ўсю сваю прыхільнасьць перанясе на Бога.

82. Уратавацца шчыра жадае той, хто не працівіцца гаючым лекам; лекамі ж гэтамі ёсьць смуткі й цярпеньні, рознымі нягодамі чынёныя. Хто ж пярэчыць нягодам, ня ведае ні тога, які торг ідзе ў нас тут — на зямлі, ні тога, зь якім прыбыткам адыйдзе ён адсюль.

92. Розум наш знаходзіцца паміж нейкіх двох, зь якіх кожны натхняе на ўласьцівае сабе: адзін на дабро, а другі на шкоду, — менавіта, паміж Анёлам і дэманам. Але розум наш мае даволі ўлады й моцы паслухацца альбо адпрэчыць каго захоча.

97. Розум, з помысламі прымаючы ў сябе вобразы рэчаў, адпаведна кожнаму помыслу наноў зьмяняе аблік свой; духоўна ж сузіраючы рэчы, разнастайна перамяняецца ў адпаведнасьці з кожным сузіраньнем. Але бываючы ў Бозе, стаецца зусім бязвобразны й безвыяўны. Бо, сузіраючы адзінавобразнага, і сам адзінавобразны і ўвесь як сьвятло робіцца.

### З чацьвертае сотніцы

22. Здарылася табе спакуса ад брата, і крыўда давяла цябе да нянавісьці, — ня будзь пераможаны нянавісьцю, але перамажы нянавісьць любоўю. Перамагчы ж яе зможаш так: шчыра маліся за яго Богу, прымі прынесенае ад брата выбачэньне, або сам сябе ацалі прабачэньнем яго, зрабіўшы самога сябе віноўнікам спакусы, і вырашы цярпець, пакуль пяройдзе хмара.

25. Не сьпяшайся адмаўляць духоўнае любові, бо йнакшага ратунку не засталося ў чалавекаў.

26. Каго ўчора лічыў братам духоўным і дабрадзеем, ня лічы сёньня заганным і злым з-за нянавісьці да яго, што нарадзілася ў табе ад ачмурэньня нячыстага; але даўгацерпнаю любоўю, памятаючы ўчарашняе дабро, выкінь з душы сёняшнюю нянавісьць.

31. Ня лічы добрымі тых, хто прыносіць табе словы, якія спараджаюць у табе смутак або непрыязь да брата, хаця б і здавалася, што яны кажуць праўду; але адварочвайся ад такіх, як ад сьмертаносных зьмеяў, каб і іхнае зласлоўе спыніць, і сваю душу ўберагчы ад азлабленьня.

37. Ня будзь самаўгоднік; то й ня будзеш і братаненавісьнікам. Ня будзь самалюбец, і будзеш Багалюбец.

40. Любоў да Бога любіць заўсёды акрыляць розум да сумоўя пра Бога й Боскае; любоў да бліжняга натхняе заўсёды добра пра яго думаць.

45. Розум чыніць паводле існасьці сваёй, калі трымае жарсьці ў пакоры, сузірае сэнс усяго існага і прабывае з Богам.

55. Хто любіць Хрыста, без сумніву, і пераймае Яго, як можа. Хрыстос жа не перапыняў чыніць людзям дабро; калі сустракаў няўдзячнасьць і панашэньні, доўгацярпеў; калі Яго білі й забівалі, перацярпеў усё, нікога не абвінавачваючы. Гэтыя дзеяньні ёсьць плёнам любові да бліжняга, безь якога той, хто кажа пра любоў да Хрыста, ці пра тое, што атрымае валадарства Ягонае, падманвае сябе. Бо Госпад сказаў: *ня кожны, хто кажа Мне, Госпадзе, Госпадзе, увойдзе ў Валадарства нябёснае, але хто спаўняе волю Айца Майго* (Мц 7:21). І яшчэ: *хто любіць Мяне, і запаветы Мае спаўняе* (Ян 14:15.) і інш.

62. Хто спадобіўся веды, але песьціць крыўду, злапамяць альбо нянавісьць да чалавека, усё адно што коле вочы свае цернямі й дзядоўнікам. Таму што веда неабходна мае патрэбу ў любові.

71. Гэта скарб, схаваны ў полі сэрца твайго (Мц 13:44), якога ты яшчэ не знайшоў празь ляноту сваю. Бо калі б знайшоў, дык прадаў бы ўсё і набыў поле гэтае. Але ты, занядбаўшы гэтае поле, поркаешся вакол яго, дзе няма нічога апроч церняў ды дзядоўніку.

72. Таму й кажа Збаўца: Шчасныя чыстыя сэрцам, бо яны Бога ўбачаць (Мц 5:8). А ўбачаць Яго, і сутныя ў Ім скарбы тады, як ачысьцяць сябе любоўю ды цнотаю; і тым болей, чым болей ачысьцяцца.

100. Многія шмат сказалі пра любоў, а знойдзеш яе ў адных вучняў Хрыстовых, калі пашукаеш; бо яны адныя мелі праўдзівую Любоў за настаўніцу любові, аб якой сказана: *калі я маю прароцтва, і ведаю ўсе тайны, а любові ня маю, дык няма мне ніякае карысьці* (1 Кар 13:2,3). Хто здабыў любоў, здабыў самога Бога; таму што *Бог ёсьць любоў* (1 Ян 4:16), Яму слава навекі. Амін.



Сяргей ГОРБІК

# ФАРМАВАНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА АБРАДУ



Гісторыя беларускае абрадавасьці Ўсходняе Царквы мае старажытную гісторыю. Яна акумулявала на нацыянальнай глебе традыцыі Заходняга і Ўсходняга Хрысьціянства.

Ужо на Ўладзімірскім саборы 1274 г. разглядаліся асаблівасьці абрадавасьці "Заходняй Русі", што сталі вынікам ейных кантактаў з Эўропай.

Фактычным пачаткам фармаваньня самабытнае абрадавасьці Заходне-Праваслаўнае царквы трэба лічыць Флярэнцкі сабор 1439 г. А да 1494 г. абрадава-кананічныя адрозьненьні Вялікакняскай Праваслаўнай царквы былі настолькі моцнымі, што экзарх архімандрыт Макарый адмовіўся без блаславеньня Мітрапаліта Княства браць удзел у вянчаньні дачкі Івана III зь вялікімкнязем Літоўскім Аляксандрам, а ў Маскве за прыхільнасьць да "літоўскае схізмы" быў "адстаўлены ад спраў" мітрапаліт Зосіма.

Скančэньнем першага этапу фармаваньня беларускае абрадавасьці быў Віленскі сабор 1509 г. Прынятыя на ім рашэньні настолькі ўразілі прысутных у якасьці гасьцёў прадстаўнікоў маскоўскага мітрапаліта, што па вяртаньні яны абвінавацілі праваслаўнага мітрапаліта ВКЛ Іосіфа Солтана ў "неправаслаўі".

Нагадаем толькі некалькі асаблівасьцяў беларускае праваслаўнае абрадавасьці: абліваньне замест тройчага пагружэньня пры хросьце; імёны даваліся з улікам жаданьня бацькоў, а не строга па Сьвятках; у хорамах прысутнічала скульптура, а ў некаторых — лавы для вернікаў. Апрача гэтага, існавала беларускае нацыянальнае хорамнае дойлідства, царкоўны жывапіс, своеасаблівая царкоўная мова.

# ЦАРКВА

## аналітычны агляд



Мінула ўжо пяць гадоў ад часу стварэньня (верасень 1990 г.) у Менску першай на паваеннай Беларусі уніяцкай рэлігійнай абшчыны. Цяпер ёсьць 10 зарэгістраваных парафіяў: у Гомелі, Магілёве, Віцебску, Полацку, Гародні, Берасьці, Маладэчне , Лідзе й дзьве ў Менску. Ёсьць нашыя вернікі і па-за сучаснымі межамі Беларусі — у Вільні, Маскве, Пецярбургу.

Усе парафіі маюць праблему храмаў. Першая менская парафія яшчэ ў сьнежні 1991 г. дамаглася перадачы ёй будынку колішняга бернардынскага касьцёлу сьв. Язэпа, з умоваю Гарвыканкаму, што пачакае паўтары гады, пакуль з храму выедзе архіў. Прайшло ўжо амаль чатыры, а архіў і не плянуе выезду... Тым часам у двары царквы сьв. Язэпа ў будынку колішніх Гандлёвых радоў вернікі гэтай парафіі ў траўні 1992 г. былі абсталявалі сабе капліцу сьв. Еўфрасіньні Полацкай Патронкі Беларусі. Але ў мінулым годзе пры ўдзеле Гарвыканкаму (сп. Рабіцава) былі выкінутыя на вуліцу рэстаўратарамі, якія матывавалі гэта высокімі словамі пра рэстаўрацыю радоў і адраджэньне спадчыны, аднак, пазбавіўшыся грэка-каталікоў, абсталявалі сабе ў Гандлёвых радах офіс для кіраўніцтва АТ *Стары Менск.* Такім чынам, першая менская парафія засталася на вуліцы, а новы архіўны будынак яшчэ й не пачынаў будавацца. Мабыць, толькі на Беларусі цэрквы пазбаўляюць памяшканьняў. (Зрэшты, гэта датычыць толькі ўніятаў). Лепшае становішча ў другой менскай парафіі ў імя Іконы Маці Божае Нястомнае Дапамогі. Гэтая парафія ад лета 1993 г. мае капліцу па вуліцы Прытыцкага і ў ліпні мінулага году атрымала на ўскраіне Менску пляц пад будаўніцтва царквы. Амаль адразу ж адбылася ўрачыстая цырымонія асьвячэньня месца пад храм і ўсталяваньня 7-метровага дубовага крыжа. Будаўніцтва храму яшчэ не пачыналася.

Увосень 1993 г. у Магілёве уніяцкай парафіі быў перададзены будынак лацінскай капліцы на каталіцкіх могілках. Будынак невялічкі, але свой, і цяпер магілёўскія вернікі займаюцца рамонтам і ўсталяваньнем купала на вежы. Полацкая абшчына моліцца ў капліцы, размешчанай на першым паверсе шматпавярховага дома. Але хутка ўжо будзе пабудаваная невялічкая драўляная царква побач з Барысаглебскім манастыром. Вернікі ў Полацку першае багаслужэньне ў сваім храме мяркуюць адслужыць на дзень сьв. Язафата, хоць працы яшчэ вельмі шмат. Гомельская парафія ўвосень 1993 г. атрымала пляц пад будаўніцтва царквы Трох Сьвяціцеляў амаль у цэнтры гораду. 21 лістапада 1993 г. пляц быў асьвячоны, аднак з-за нястачы фінансаў храм яшчэ не будуецца. Віцебская парафія атрымала дазвол на вядзеньне праектных работаў на месцы славутае Уваскрасенскае царквы. Астатнія абшчыны карыстаюцца часовымі памяшканьнямі.

У канцы ліпня 1994 г. у Полацку манахі-студыты заснавалі мужчынскі манастыр сьвятых Барыса і Глеба (полацкі Барысаглебскі манастыр некалі першым на Беларусі прыняў Унію), якім кіруе ераманах Валеры Алексійчук; пастаянна ў манастыры таксама жыве брат Павал Кавалёў. Стварэньне гэтай абіцелі, бязумоўна, — вялікае блаславеньне для нашай Царквы: у Полацку ўмацавалася і колькасна ўзрасла мясцовая парафія, айцец Валеры рэгулярна служыць у Віцебску і Гомелі. Зьявіўся ўжо і першы паслушнік у манастыры. Сёлета, з 8 па 12 ліпня, манастыр наладзіў пешую пілігрымку зь Віцебску ў Полацак, удзельнікі якой маліліся за праслаўленьне Полацкіх мучанікаў, забітых у 1705 г. у Сафійскім саборы расейскім царом Пятром І.



Прыезд на Беларусь айца Валерыя, грамадзяніна Украіны, выклікала моцную незадаволенасьць беларускіх уладаў, якія запатрабавалі яго вяртаньня. Але пакуль канкрэтных крокаў уладаў не прадпрынялі, тым больш, што іх патрабаваньне выклікала пратэсты ня толькі на Беларусі.

Айцец Валеры ўзначаліў рэдакцыю грэка-каталіцкай газэты *Царква*, ужо выйшла тры нумары. Асабістае Апостальскае блаславеньне рэдакцыі газэты ўдзяліў папа Ян Павал ІІ. Прыемнай нечаканасьцяй сталі вынікі падпіскі: на *Царкву* падпісаліся звыш 6000 чалавек, так што яе наклад за паўгады павялічыўся ў сем разоў.

Адбыліся значныя зьмены ў кананічным становішчы нашае Царквы . Каля трох гадоў на Беларусі людзі прымалі хрост, спавядаліся, прычашчаліся, бралі шлюб — і ўсё гэта без кананічнага прызнаньня Апостальскае Сталіцы. За апошнія гады нашыя вернікі й сьвятары пяць (!) разоў зьвярталіся да Сьвятога Айца з просьбаю аб юрыдычным афармленьні Царквы й прызначэньні біскупа (альбо экзарха ці апостальскага адміністратара). Некалькі разоў дэлегацыі сьвятароў і вернікаў перамаўляліся з Нунцыем для Савецкага Саюзу Франчэска Калясуонэ. Сярод гэтых захадаў ёсьць і вельмі паважныя. У 1991 г. у Ватыкан на імя Сьвятога Айца быў накіраваны ліст за подпісам 1700 вернікаў. А ў лістападзе 1992 г. у Менску адбыўся Зьезд беларускіх уніяцкіх сьвятароў разам са старшынямі, намесьнікамі старшыняў і скарбнікамі беларускіх грэка-каталіцкіх абшчынаў, у якім бралі ўдзел блізу 40 чалавек. Зьезд прыняў адмысловы зварот да Апостальскае Сталіцы. Урэшце, пасьля чарговага візыту царкоўнае дэлегацыі да міністра замежных справаў сп. Пётры Краўчанкі, улетку 1993 г. гэтае Міністэрства накіравала ў Ватыкан ноту ў справе Уніяцкае Царквы. І гэта быў ня першы клопат П. Краўчанкі аб нашай Царкве. А колькі было яшчэ іншых захадаў, колькі візытаў, перамоваў, колькі лістоў айца Аляксандра Надсана!

Увосень 1993 г. на Беларусь прыбыў дэлегат-візытатар Сьвятой Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў у справе грэка-каталікоў на Беларусі а. Сяргей Гаек. Гэта была нашая агульная перамога: Ватыкан павярнуўся да нас. Дэлегат-візытатар сабраў інфармацыю, наведаў некаторыя парафіі і адбыў у Рым. У сьнежні 1993 г. нашая Царква была выведзеная з-пад часовае юрысдыкцыйнае апекі Івана-Франкоўскага ардынарыя Сафрона Дмітэркі (вялікую падзяку складаем тут за мужнасьць нашым украінскім братом, якія пайшлі на такі крок бяз санкцыі Рыму) і падпарадкаваная напроста Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў, ейную ж юрысдыкцыю дасталі і ўсе сьвятары й дыяканы.

25 сакавіка 1994 г., на Дабравешчаньне й на Дзень нашае незалежнасьці, Ватыкан афіцыйна зацьвердзіў усе багаслужэбныя тэксты ў перакладзе на беларускую мову а. Аляксандра Надсана. У траўні ўсе сьвятары атрымалі афіцыйныя намінацыі на свае парафіі, а а. Ян Матусэвіч ужо праз Кангрэгацыю быў прызначаны дэканам Беларусі і стаў протапрэсьвітарам.

А яшчэ раней, у студні 1994 году, а. Сяргей Гаек, візытатар Кангрэгацыі, быў падвышаны ў пасадзе да годнасьці Апостальскага Візытатара для грэка-каталікоў на Беларусі. Айцец Гаек — паляк-марыянін, у пэўнай ступені вучань славутых друйскіх марыянаў — усходніх айцоў Тамаша Падзявы і Язэпа Германовіча (Вінцука Адважнага), якія пасьля вызваленьня са сталінскіх лягераў каля 10 гадоў затрымліваліся ў Польшчы. Тады яны і выхавалі там усяго двух марыянаў усходняга абраду — аа. Рамана Пентку і Сяргея Гаека. Айцец Гаек валодае беларускай моваю і яшчэ ў 60-я гады перасьледваўся польскім КДБ за сувязь з беларускімі уніятамі-эмігрантамі. Айцец Гаек прызначаны Апостальскім Візытатарам "ad nutum Sanctae Sedis", г. зн. да наступнага рашэньня Сьвятога Пасаду.

На жаль, з Апостальскай Сталіцы даходзяць і сумныя весткі. Нядаўна стала вядома, што некалькі праваслаўных сьвятароў з Расеі зьвярнуліся сёлета да Ватыкану з просьбаю аб прыняцьці іх да Каталіцкай Царквы. Вельмі верагодна, што яны

# СУПРАСЬЛЬСКІ ІРМАЛОЙ
## (1598-1601)

выбраныя
літургічныя напевы
пад рэд. Г.Піхуры
выдавецтва "Божым шляхам",
Лёндан 1990



Тон 8







*Малюнак па матывах мініяцюраў з Талковай Псалтыры, XVI ст.*

маглі б працаваць на Беларусі. Але Кангрэгацыя Ўсходніх Цэркваў, у рэчышчы ейнае палітыкі экумэнізму, адмовіла ў просьбе гэтым сьвятарам. Нам застаецца толькі маліцца (І ўсё, чаго будзеце прасіць у малітве зь вераю, атрымаеце — *Лк 21: 22*).

У складзе духавенства адбыліся невялікія зьмены. Да айцоў Яна Матусэвіча і Віктара Данілава далучыўся а. Казімір Ляховіч, які 8 годоў быў лацінскім дыяканам. Цяпер а. Казімір — настаяцель другое менскае парафіі. У Полацку працуе ўжо прыгаданы а. Валеры Алексяйчук, манах-студыт з Украіны.

У лютым мінулага году на Ўкраіне быў высьвячаны на дыякана Юры Раманчук з Гародні. Цяпер ён служыць разам з а. Віктарам Даніілавам. У Гомелі служыць дыяканам Алег Кацапаў.

А. Казімір абслугоўвае сваю парафію ў Менску, а таксама езьдзіць у Ліду й Магілёў. А. Ян апрача Менску служыць у Маладэчне. У 1993 г. з паўгады ў Берасьці служыў а. Анатоль Тарасэвіч, але ў выніку цкаваньняў благачыннага а. Парфянюка, асабістага візыту біскупа Дзімітрыя й выкліку да Мітрапаліта Філярэта ў Менск — у ліпні 1993 г. а. Анатоль вярнуўся ў Праваслаўе.

Шмат хто дастае сьвятарскую ці сьвецкую тэалягічную адукацыю. Вучацца нашыя кандыдаты на Украіне — у Львове і Івана-Франкоўску, у Польшчы — у Любліне, у Чэхіі — у Алямоўцы, у Бэльгіі — у Лювэне, а таксама ў Лёндане і Рыме.

Памалу працуе Выдавецтва "Унія". Выдадзена некалькі брашур і іншых друкаў. Падрыхтаваныя і рыхтуюцца да друку грэка-каталіцкі малітоўнік, каляндар на 1996 год, некалькі кніг.

На заканчэньне трэба з сумам зазначыць, што сярод усіх цэркваў Беларусі, нашая, найбольш і цалкам беларуская, дастае найгоршае стаўленьне ўладаў. У нашай краіне сёньня мы — маргіналы, як зрэшты і беларускія лацінскія каталікі ў цэлым Касьцёле Беларусі, як і купка беларусаў-праваслаўных у бязьмежна-расейскім Беларускім Экзархаце. І куды пакірue Бог, ведае толькі Ён.

Молімася ж, брацьця, аб лепшую будучыню для нашае дарагое Царквы і дарагое Бацькаўшчыны.



Павал БОГДАН,
*верасень 1995 г.*





Творыцца імша...

Мы, што ў тайны спосаб прадстаўляем хэрувімаў і Жыватворчай Тройцы тройчы сьвятую песьню пяём, адложым цяпер усе жыцьцёвыя клопаты.

Творыцца імша...

І быў вечар. І была ноч. Зь цяжка навіслымі хмарамі, зь цьмянымі ліхтарамі , што ледзь прабівалі цемру над мокрай дарогаю, са стоеным у кожным куце густым змрокам. З хворымі лю-

... творыцца імша...

***Але Господ існуе навекі, Ён паставіў пасад Свой, каб чыніці суд, і Ён будзе судзіць сусьвет па праўдзе і чыніці суд над народамі паводле справядлівасьці. І будзе Господ прытулкам для прыгнечанага, прытулкам у час тугі. І будуць на Цябе спадзявацца тыя, што ведаюць імя Тваё, бо Ты не пакідаеш тых, што шукаюць Цябе, Госпадзе! (Пс. 9: 8-11)***

Усе промні сыйдуцца ў кропку, і ўсе рэкі й воды сьцякуцца ў кроплю, і сьвет не пазнае сябе.

*МІХАЛІНА*

# АЧУНЯЙ, МАЯ СЛАВА !

дзямі, што бязвольна скурчыліся ў сваіх пасьцелях ды шукалі паратунку ў снох. З працяглым енкам разьбітае скрыпкі, якога ніхто ня чуў...

Але ня было раніцы.

І ніхто не прыйшоў на ранішнюю літургію (як жа йсьці, калі ноч на дварэ?), не прашаптаў звыклыя словы малітвы, ня ўкленчыў, не запаліў сьвечку перад пацямнелым абразом Сыходзячага ў пекла.

Госпадзе Усемагутны, Божа айцоў нашых, молімся Табе, пачуй нас і памілуй.

І ніхто не адказаў: Госпадзе, памілуй. Бо ніхто не прыйшоў на імшу.

Памілуй нас, Божа, паводле Тваёй вялікай міласэрнасьці, молімся Табе, пачуй нас і памілуй.

І ніхто не адказаў: Госпадзе, памілуй. Бо ніхто не стаяў на службе.

Хворыя людзі кідаліся ў сваіх ложках ды безнадзейна чакалі на раніцу. Але раніцы ня было. І нікому гучала ў цемрадзі разьбітая скрыпка.

Каб нам прыняць Уладара ўсіх, Якога нябачна суправаджаюць анельскія сілы. Алілуя, алілуя, алілуя.

---

*Гэты тэкст друкаваўся зь невялікім скарачэньнем у часопісе Беларусь №8'1992. Публікуем яго цалкам.*

Адбудзецца суд над народамі. Твой суд. Над Тваімі народамі, Божа! Над маім схаваным народам. Нада мной. Ці адбыліся мы? Чыімі мы сталіся?

Не шукаць тлумачэньняў, не шукаць апраўданьняў. Не прынізіць ды не прынізіцца. Не забыцца ні на што — і не прыгадаць нікому. Тады — адкрыецца. Блісьне загублены ў часох шлях. Вернецца пакінутая наперадзе вера.

Яшчэ і яшчэ ў супакоі Госпаду памолімся.

— Госпадзе, памілуй.

***З прадоньня клічу Цябе, Госпадзе! Госпадзе! Пачуй голас мой. Няхай вушы Твае ўчуюць голас маленьня майго. Калі Ты будзеш помніць правіны, Госпадзе Божа, каму ж устаяці? Ды ў Цябе й даравaньне. Спадзяюся на Госпада, спадзяецца душа мая; слова Ягонага прагну. Чакае душа мая Госпада болей, як варта начная — сьвітаньня, як варта сьвітаньня. (Пс. 129: 1-6)***

Каб нам выбавіцца ад усякага гневу, суму і недастатку, Госпаду памолімся.

— Госпадзе, памілуй.

Няспынна творыцца імша, і прыносіцца ахвяра, і гучыць бясконцая літанія. Мы падыходзім і адыходзім, зазіраем у чужыя храмы, зачаравана слухаем нязвыклыя словы чужога маленьня і застаемся там надоўга, потым ізноў вяртаемся, стаім,





сьцішаныя, і зноў сыходзім — з лагодаю ў сэрцы. Ды ніяк не прыступімся да сьвятога прычасьця.

А імша ідзе. Ці з намі, ці бяз нас. За нас.

За Богам сьцеражоную краіну нашу Беларусь і ўвесь беларускі народ, за стойкасьць у веры, мужнасьць у выпрабаваньнях і вернасьць свайму народу ўсіх нас Госпаду памолімся.

Ідзе імша. Ліюцца словы бясконцых літаньняў і асьвячаюцца дары.

***на народ Ягоны, абрыдла Яму спадчына Яго. І аддаў іх у рукі паганаў, і запанавалі над імі тыя, што іх ненавідзелі. І ўціскалі іх ворагі іх, і моцы яны пакарыліся. (Пс. 105: 6, 38-42)***

Каб увесь гэты дзень быў дасканалы, сьвяты, мірны і бязгрэшны, у Госпада просім.

— Дай нам, Госпадзе.

Анёла спакою, вернага настаўніка, апекуна душ і целаў нашых, у Госпада просім.

# ЗБУДЗІЦЕСЯ, ГУСЬЛІ МАЕ І ПСАЛТЫР !

***Чаму народы бунтуюцца, і плямёны дарэмнае задумляюць? (Пс. 2: 1)***

Недзе пасярод дарог на скрыжываньні туманоў і промняў ляжала зямля. З людзямі вернымі, з душою багатай і чыстай. Пасярод сьвету ды нязнаная сьвету. Бо шмат шукалі загубіць ейную душу з-за прывабнасьці тае зямлі. І глыбока схавалася тая душа ад ліхога вока. Ды так схавалася, што нават дзеці гэтае зямлі згубілі шлях да яе. Адно ў аднаго пыталіся, ды адказу ня мелі. І паўставалі адно на аднога, бо не знаходзілі яе. А іншыя бралі іх ды зямлю іхную.

***Госпад будзе сьцерагчы цябе ад усякага зла, будзе душу тваю сьцерагчы Ён. Ахоўваць будзе Госпад выхад твой і ўваход твой ад сяньня й давеку. (Пс. 120: 7-8)***

Цягам усяго жыцьця свайго шукаюць схаваную Матчыну душу дзеці гэтае зямлі ды рэдка знаходзяць, а не знайшоўшы, выракаюцца. Бо мала хто ўзьнімаецца да ейнага схову. Бо шукаюць ня там. А яна шмат сьвятла й любові дзеля іх назапасіла — ды ня йдуць узяць. Блукаюць...

***Зграшылі мы ды з бацькамі нашымі, правініліся й беззаконьне чынілі... пралівалі кроў бязьвінную, кроў сыноў сваіх і дачок сваіх, якіх прыносілі ў ахвяру ідалам Ханаанскім, — і апаганілася зямля крывёю; апаганілі сябе ўчынкамі сваімі, блуд рабілі паступкамі сваімі. І ўзгарэўся гнеў Госпада***

— Дай нам, Госпадзе.

Прабачэньня і адпушчэньня грахоў і правінаў нашых у Госпада просім.

— Дай нам, Госпадзе.

... Творыцца імша.

***Хай славяць Госпада за ласку Ягоную і за цуды Ягоныя для сыноў чалавечых: бо Ён наталіў душу сасьмяглую і душу галодную напоўніў дабром. Сядзелі яны ў цемры і ў ценю сьмерці, скаваныя мукамі й путамі за тое, што непакорныя былі Божаму слову і волю Найвышшага зьневажалі. Ён зьмірыў іх сэрца пакутаю; спатыкнуліся, і помачы ім ня было. Тады гукалі да Госпада ў тузе сваёй, і Ён уратаваў іх ад іхніх бедаў, і вывеў іх з цемры й ценю сьмяротнага і путы ім раскаваў. (Пс. 107: 8-14)***

Ці ўразумелі мы свой паратунак?

Блуканьні набліжаюць да прасьветленасьці. Тлен пераплавіцца ў сьвятло. Праца духоўная дасьць існы плён.

Прарастае Час.

***Сэрца маё гатова, о Божа, маё сэрца гатова пяяці й граці Табе. Ачуняй, мая слава! Збудзіцеся, гусьлі мае і псалтыр! Я разбуджу сьвітаньне. (Пс 56:9-10)***

Рубрыку вядзе доктар Юры ХАДЫКА

# Перамяненьне

## (1648 г.)

Перамяненьне — адно з найпрыгажэйшых і найбольш ўзьнёслых хрысьціянскіх сьвятаў.

Падзея на гары Фавор мела выключна глыбокі сімвалічны сэнс. Але апосталы зразумелі гэта значна пазьней, пасьля ўваскрошаньня Хрыста, калі ім стала ясна, што Хрыстос і ёсьць той месія, якога прадказвалі старазапаветныя прарокі. Цуд Перамяненьня стаў разглядацца як першае сьведчаньне надвойнай прыроды Хрыста — Бога і чалавека аднachасова, — гэтай асновы хрысталагічнай догмы.

Догма гэтая робіць абсалютна непаўторным хрысьціянскі сьветапогляд, паколькі ні адна больш рэлігія не дапушчае магчымасьці божага ўчалавечаньня, і тым самым сьцьвярджаецца прынцыповы дуалізм прыроды, дзе матар'яльны сьвет аддзелены ад сьвету духоўнага, ідэальнага. І толькі хрысьціянства адмаўляе гэты, на першы погляд відавочны, тэзіс, сьцьвярджаючы ня толькі прынцыповае адзінства сусьвету, але і ўсемагутнасьць Бога, ягоную любоў да свайго стварэньня — чалавека. Учалавечаньне Божае рэабілітуе плоцкую, грахоўную прыроду людзей, адкрывае ім магчымасьць да выратаваньня, паказвае, што менавіта ў сваёй духоўнай дасканаласьці чалавек падобны да свайго Тварца.

Больш за тое, Перамяненьне Гасподняе — гэта сімбаль і знак уваскрошаньня і жыцьця вечнага. Элементам, злучнай субстанцыяй жыцьця зямнога і нябёснага выступае тут сьвятло, што струменіць ад постаці Хрыста (яно атрымала потым уласнае імя — фаворскае сьвятло). Пазьней, у XIV ст. у Візантыі ў манаскім асяродку паўстала містычнае вучэньне ісіхазму[1], якое грунтавалася на паняцьці фаворскага сьвятла. У адпаведнасьці з гэтым вучэньнем глыбока веруючы чалавек шляхам аскезы і медытацыі можа дасягнуць прасьвятленьня, і фізічная прырода яго станецца крыніцаю нематэрыяльнага фаворскага сьвятла. Менавіта ягоныя блікі бачым мы на пальцах, бародах і абліччы стоўпнікаў на фрэсках славутага Феафана Грэка ў Ноўгарадзе і на абразах, якія прыпісваюць ягонаму пэндзлю гісторыкі мастацтва. Прыгадаем у сувязі з гэтым і творчасьць славутага Эль Грэка, палітра твораў якога быццам працятая трансцэндэнтным незямным блакітным сьвятлом.

Паняцьце фаворскага сьвятла шчыльна зьвітавапае і з ідэяй Духа Сьвятога, які ў сакральным мастацтве сімвалізуецца зьзяньнем залатой асноведзі абразоў і мазаік. Таму асабліва цікавым уяўляецца мне нетрадыцыйнае рашэньне, якое знайшоў ананімны беларускі мастак XVII ст., вядомы нам паводле трох захаваных абразоў, "Засьненьне Маці Божай", "Пакроў" і "Перамяненьне" ("Праабражэньне").

Кампазіцыя апошняга абсалютна традыцыйная. Зьлева падымаюцца на гару Хрыстос і тры ягоныя вучні, а справа яны спушчаюцца з гары. Галоўнае месца займае сама сцэна Перамяненьня, што разгортваецца вакол франтальна разьмешчанай постаці Хрыста, ахопленай авальнаю мандорлаю з прамяністым арэолам. Па абодвух баках ад яго — выявы Ільлі і Майсея, якія лёгка ідэнтыфікуюцца па характэрных дэталях. А ўнізе, ўпаўшы на зямлю — Пётра, Якуб і Ян. На іх скіраваныя тры самыя вялікія кінжалападобныя прамяні, якімі зьзяе агністая мандорла.

Фаворскае сьвятло перадаецца тут пазалотаю, якая пакрывае і асноведзь абраза. Розьніца толькі ў тым, што асноведзь пакрыта рэльефным расьлінным арнаментам зь зігзагападобнаю насечкаю паміж расткамі й кветкамі, а мандорла — сьветлая хмара эвангелістаў — мае гладкую фактуру. Пры пэўнай падсьветцы асноведзь абраза зіхаціць мноствам залатых іскрынак, і на гэтым жывым, дыхаючым фоне моцным бляскам вылучаецца фаворскае сьвятло, якое зыходзіць ад постаці Хрыста. Сьвятло на сьвятле, як шмат пазьней — белае на белым мадэрнісцкага мастацтва XX ст. Апафіёз сьвятла, розуму, Боскага адкрыцьця выдатна перадае і сутнасьць сьвята Перамяненьня — самага духоўна напружанага і антымістычнага сьвята хрысьціянскага гадавога кола.

Гэты цудоўны абраз быў знойдзены ў 1970 г. першай экспедыцыяй Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АНБ, якая зьбірала матэрыялы для збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, у дрывотні кобрынскай царквы, куды ён быў выкінуты з двума згаданымі вышэй, як уніяцкі. Мы павінны быць удзячныя а. Парфіяновічу, які быў настаяцелем царквы ў тыя часы, за тое, што захаваў іх ад зьнішчэньня і, разумеючы іх мастацкую і гістарычную каштоўнасьць, перадаў ва ўласнасьць АНБ. Мы павінны быць удзячныя і памерлай ужо В.В.Церашчатавай, якая прывезла гэтыя абразы ў Менск. З 1974 г. яны захоўваюцца ў фондах Дзяржаўнага мастацкага музэя і выдрукаваныя ў выдадзеным Н.Ф.Высоцкай альбоме "Жывапіс Беларусі XII-XVII ст.ст.".

[1] Падрабязьней пра эсіхазм (ісіхазм) гл. у гэтым нумары артыкул К. Мацкевіч "Прамовіць Божае Імя" (пачатак на с.33).

Нумар выдадзены на ахвяраваньні супрацоўнікаў рэдакцыі часопіса і нашых чытачоў.
Выраб арыгінал-макету аплочаны фірмамі ***Dainova*** (Менск) і ***Emicon*** (Люблін).

**УНІЯ** ЧАСОПІС ХРЫСЬЦІЯНСКАГА СУМОЎЯ

№ 4, 1995 Выдаецца з 1990 г. неперыядычна. Новы адрас рэдакцыі: 220137 Менск вул Байкальская 1-217.
Папярэднія нумары УНІІ можна замовіць у рэдакцыі часопіса. Пры перадруку просьба спасылацца на УНІЮ.
Над нумарам працавалі: Наталя Альхова, Галіна Дубянецкая, Ірына Дубянецкая (рэдактар), Ігар Іваноў (дырэктар), Караліна Мацкевіч (адказны сакратар), Сяржук Няхамес, Алена Ткачова (мастацкі рэдактар).
Друк: Аршанская друкарня (вул. Замкавая, 3). Наклад 2000. Здадзена ў друк 20.08.1995.

